24 кастрычніка 2014 | № 40 (409)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

МАСТАЧКА, ЯКАЯ МАЛЯВАЛА СКАРЫНУ

стар. 31

**4 – 5** **«КАЛІ МЫ НЕ АБ'ЯДНАЕМСЯ, У 2015 ГОДЗЕ МОЖАМ СТРАЦІЦЬ КРАІНУ»**

Пра магчымасці апазіцыі разважаюць Аляксей Януковіч, Юрась Губарэвіч, Павел Севярынец і Уладзімір Някляеў

**27** **НАШЫ КРЭСЫ**

Словы Лукашэнкі пра тое, што Беларусь мае часова замарожаныя тэрытарыяльныя прэтэнзіі на адрас усходняга суседа, выклікалі нервовую рэакцыю ў Расіі

**9–24** Літаратурная Беларусь

**30** **БАБРУЙСКАЯ ЦЫТАДЭЛЬ ЯК ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ**

Сёння казематы, казармы, рэдуты цытадэлі на Бярэзіне знаходзяцца ў жаласным стане

# Рожкі ды ножкі «сацыяльнай дзяржавы»

**Наступ на «сацыяльную дзяржаву» ідзе па ўсіх франтах**



Сяргей ПУЛЬША

«Дапусцім, 100 тысяч — хатнія гаспадыні альбо тыя, хто працуе на ўласным падворку. А 400 тысяч чым займаюцца? Час спыняць гэта ўтрыманства. 400 тысяч павінны быць уцягнутыя імем рэвалюцыі ў працу. Лайдакоў не павінна быць у краіне. Трэба прымусіць гэтых людзей працаваць і спыніць раздаваць бясплатна даброты тым, хто не працуе», — заявіў Лукашэнка на нарадзе па пытаннях занятасці і міграцыі.

Урад адразу знайшоўся, чым адказаць. Паводле віцэ-прэм'ера Анатоля Тозіка, ужо падрыхтаваны праект адпаведнага нарматыўнага акту. У ім прадугледжаны шэраг мер для максімальна магчымага прыцягнення «ўхілістаў ад працы» да работы, а таксама для стварэння дадатковых стымулаў для добрасумленнай працы.

У прыватнасці, прапануецца павялічыць мінімальны працоўны стаж для прызначэння працоўных пенсій з 10 да 15 гадоў. Пры разліку пенсій прапануецца браць за аснову апошнія 20 гадоў стажу. Пры адсутнасці запатрабаванага агульнага і страхавога стажу працы — павысіць узрост для звароту за сацыяльнай пенсіяй на пяць гадоў: да 60 гадоў для жанчын і 65 гадоў для мужчын, а магчыма, і ўсталяваць аднолькавы парог узросту ў 65 гадоў.

Па словах Тозіка, для тых, хто не плаціць падаходны падатак і адлічэнні ў фонд сацыяльнай абароны, варта было б вызначыць пералік мінімальнай дапамогі, якую ён можа атрымаць бясплатна. Таксама, на думку віцэ-прэм'ера, неабходна стварыць эканамічныя стымулы, скарэктаваць дзяржаўныя сацстандарты, перагледзець нормы працы. Тозік лічыць, што рэалізацыя гэтых мер дазволіла б павысіць намінальную зарплату і выраўнаваць яе паказчык з сумежнымі краінамі.

У краіне пачалася работа па забеспячэнні неабходнай мабільнасці рабочай сілы. У сувязі з гэтым урад лічыць мэтазгодным працягнуць скарачэнне будаўніцтва жылля з дзяржпадтрымкай і павелічэнне будаўніцтва даступнага па коштце арэнднага жылля з адпаведнай падтрымкай шматдзетных сем'яў і іншых катэгорый, якія ў гэтым маюць патрэбу.

Якім чынам скарачэнне будаўніцтва жылля з дзяржпад-

**Каэфіцыент пакрыцця пенсіі ад сярэдняй зарплаты складае каля 40%**

трымкай будзе спрыяць працаўладкаванню лайдакоў? Ды ніякім. Проста ва ўлады скончыліся грошы, каб будаваць такое жыллё. Кошт квадратнага метра зашкальвае, і яго ніяк не ўдаецца прывязаць да памеру сярэднямесячнага заробку, ён у 3–4 разы вышэй. А значыць, дзяржаве проста надакучыла губляць грошы з такой падтрымкі.

Усталяванне квоты «мінімальнай бясплатнай дзяржадапамогі» таксама наўрад ці прымусіць лайдакоў працаваць. Лукашэнка на той жа нарадзе агучыў гэтую дзярждапамогу:




бясплатная адукацыя, медыцынскае абслугоўванне, аплата паслуг ЖКГ па датаваных дзяржавай тарыфах. Пытанне толькі ў тым, наколькі бясплатныя ў нас адукацыя і медыцына. Колькасць тых, хто ў ВНУ вучыцца за грошы, ужо даўно перавысіла колькасць бюджэтнікаў. «Бясплатнае медыцынскае абслугоўванне» палягае толькі ў выпісцы рэцэптаў, за лекі ж даўно трэба плаціць. У тым, колькі людзі павінны плаціць за ЖКГ і што ў гэтае ЖКГ уваходзіць, не разбіраюцца нават чыноўнікі ЖКГ. Калі мінімальны набор — святло, газ, вада, ацяпленне, — то ў кожным доме на ўсё гэта ўжо ёсць лічыльнікі.

Застаецца толькі павышэнне неабходнага для пенсіі працоўнага стажу. І вось з гэтым — вялікая праблема.

Чалавек, як правіла, не працуе не таму, што ён лайдак ад прыроды. Хутчэй за ўсё, працаваць яму няма дзе. Трэба стварыць працоўныя месцы для 400 тысяч чалавек. А як?

Напрыклад, на МАЗе працуюць 22 000 чалавек. Каб працаўладкаваць 400 тысяч лайдакоў, Тозіку трэба пабудаваць 16 МАЗаў, і яшчэ застануцца «лішнія людзі». А пабудаваць 16 МАЗаў — пупок ва ўрада не развяжацца? За 20 гадоў кіраўніцтва Аляксандра Рыгоравіча ў Беларусі не было створана ніводнага буйнога прамысловага прадпрыемства.

Можна было б казаць пра самазанятасць і стварэнне эканамічных стымулаў — Тозік пра тое і казаў. Але больш за яго маглі б расказаць прадпрымальнікі, якіх штогод душаць новымі нарматыўнымі актамі і падатковымі праверкамі.

Як вынік: новыя працоўныя месцы для лайдакоў дзяржава стварыць не ў стане, а разлічваць на «самазанятасць і прадпрымальніцтва» пры існуючым стане рэчаў — глупства. Нашто ж казаць пра лайдацтва і ўтрыманства, калі дзяржава не можа даць чалавеку працу?

Усё вельмі проста. У дзяржавы нестае грошай на пенсіі. Сёння на аднаго пенсіянера ў Беларусі прыпадае ўсяго 1,6 працоўнага, а каэфіцыент пакрыцця пенсіі ад сярэдняй зарплаты складае каля 40%. То бок, трое працоўных «кормяць» двух пенсіянераў. Дэмаграфічная нагрузка на працаздольнае насельніцтва з-за росту колькасці пажылых людзей дасягнула максімальнага значэння за ўсю пасляваенную гісторыю.

Прычым з-за «дэмаграфічнай ямы» 1990-х гадоў гэтая прапорцыя будзе пагаршацца. Мяркуецца, што ў 2020–2025 гадах кожнаму працоўнаму прыйдзецца ўтрымліваць аднаго пенсіянера. Гэта не такая ўжо і далёкая перспектыва — усяго пяць-сем гадоў.

Выйсце адно — павышаць пенсійны ўзрост, каб і пенсіянераў было менш, і працуючых больш. Але павысіць яго проста так — значыць, распісацца ў канцы «сацыяльнай дзяржавы». Таму знайшлі вінаватых — лайдакоў. Хаця лайдацтвам тут і не патыхае.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. Шэсце супраць расійскай агрэсіі ва Украіне



**Актывіст незалежнага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці Эдуард Нелюбовіч плануе 7 лістапада правесці шэсце супраць дзеянняў кіраўніцтва Расіі ва Украіне і падтрымцы ўкраінскага народу. Адпаведную заяўку актывіст накіраваў у гарвыканкам.**

Нелюбовіч хоча правесці масавае мерапрыемства з транспарантамі і лозунгамі па цэнтральнай вуліцы Гомеля — Савецкай, ад плошчы Леніна да плошчы Паўстання. Ён заявіў, што ў шэсці плануюць прыняць удзел 30 чалавек — сябры прафсаюзу РЭП. У гэты дзень прадстаўнікі камуністычнай партыі ладзяць на цэнтральнай Плошчы Леніна свае акцыі з нагоды дня Кастрычніцкай рэвалюцыі, і звычайна за дазволам да ўладаў не звяртаюцца. «Таксама будзе цікава паглядзець, ці накіруюць чыноўнікі незалежны прафсаюз у тыя два дазволеныя месцы ў выглядзе пляцовак, на якіх правесці вулічнае шэсце наогул немагчыма. Адна з пляцовак — у спальным раёне, іншая — каля прамысловай зоны», — патлумачыў актывіст.

За апошнія 10 гадоў гомельская чыноўнікі не дазволілі прадстаўнікам дэмакратычных арганізацый і апазіцыйных партый правесці ні аднаго са звыш як 500 заяўленых мерапрыемстваў.

### ГЛЫБОКАЕ. Замест дапамогі прапануюць тэлефанаваць



**У Глыбокім на адной з аўтазаправачных станцый вісяць шыльды, якія прапануюць дапамогу людзям з абмежаванымі магчымасцямі. Здавалася б добрая справа, але тое, што там напісана, падаецца здзекам.**

Тэкст шыльды наступны: «Калі вам патрэбная дапамога, тэлефануйце па тэлефоне». Гэты тэкст напісаны на дзвюх мовах — рускай і англійскай, але нумара тэлефона нідзе не пазначана. Куды тэлефанаваць? У міліцыю, хуткую або таму, хто зможа дапамагчы наліць бензін у машыну?

Але ці шмат ёсць людзей з абмежаванымі магчымасцямі ў Глыбокім і ваколіцах, якія маюць аўтамабілі? У Глыбокім налічваецца 270 інвалідаў працаздольнага ўзросту, толькі палова з іх працуе. Яны ў асноўным задзейнічаны на грамадскіх працах. Па словах інвалідаў, яны атрымоўваюць па 400–700 тысяч беларускіх рублёў. Пра аўтамабіль ім застаецца толькі марыць.

### МАГІЛЁЎ. У БРСМ пад прымусам



**Дырэктар філіяла «Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі» Мікалай Алданаў прымушае студэнтаў уступаць у БРСМ.**

Па яго словах, тыя, хто не папоўніць шэрагі БРСМ, могуць сутыкнуцца з праблемамі са здачай іспытаў і залікаў. Пра гэта паведамляюць студэнты навучальнай установы. З іх словаў, нават нягледзячы на пагрозы дырэктара філіяла напісалі заявы на ўступленне ў БРСМ не болей за 20 чалавек з амаль 120.

Раней Мікалай Алданаў паведаміў студэнтам, што, каб пазбегнуць падобнай сітуацыі, якая адбываецца на ўкраінскім Данбасе, усім неабходна ўступаць у БРСМ.

Трэба адзначыць, што Мікалай Алданаў таксама з'яўляецца дэпутатам Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў.

### БРЭСТ. Актывісты прапануюць дэпутатам зрабіць справаздачу



**У сваіх лістах прадстаўнікі грамадзянскай ініцыятывы «Сацыяльны офіс» прапануюць народным выбраннікам даць справаздачу перад грамадзянамі аб сваёй дэпутацкай дзейнасці за паўгода, якія прайшлі пасля мясцовых выбараў.**

Як адзначаецца ў звароце, згодна з часткай 1 артыкула 21 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб статусе дэпутата мясцовага Савета дэпутатаў», дэпутат адказны перад выбаршчыкамі, падсправаздачны ім і абавязаны перыядычна (але не радзей як два разы на год) рабіць справаздачу аб сваёй дзейнасці і выкананні перадвыбарнай праграмы, а таксама аб працы Савета і яго органаў.

«Мы прапанавалі размясціць справаздачу перад выбаршчыкамі аб зробленай працы за шэсць месяцаў дзейнасці ў якасці дэпутатаў Брэсцкага гарсавета ў мясцовых дзяржаўных або недзяржаўных друкаваных перыядычных выданнях, — распавёў прадстаўнік грамадзянскай ініцыятывы «Сацыяльны офіс» Юрый Жыдовіч. — У выпадку неабходнасці справаздачу можна размясціць і на мясцовых інфармацыйных рэсурсах у сетцы інтэрнэт, а таксама ў асобным блоку на сайце Брэсцкага гарвыканкама».

**Паводле spring96.org**

# Памяці Веранікі Чаркасавай

Генадзь КЕСНЕР

**Увечары 21 кастрычніка ў сталічнай Галерэі «Ў» родзічы, сябры, знаёмыя, калегі ўзгадвалі Вераніку Чаркасаву — слынную беларускую журналістку, забітую дзесяць год таму, 20 кастрычніка 2004 года.**



На вечарыну прыйшлі тыя, хто добра ведаў Вераніку, і тыя, хто хоць кольвек сутыкаўся з ёю. І нават тыя, хто проста чуў пра яе ці чытаў яе артыкулы, эсэ, нарысы. Усіх аб'ядноўвала пачуццё павагі да Веранікі і салідарнасць з яе блізкімі, якія дагэтуль перажываюць невымерны боль страты.

Імпрэза складалася з дзвюх частак. У першай галоўная арганізатарка вечарыны, стрыечная сястра Чаркасавай, таксама вядомая журналістка Вольга Бабак падзякавала ўсім, хто прыйшоў на імпрэзу. Потым быў паказаны дакументальны фільм Леаніда Міндліна «Таямніца следства. P.S.». У гэтай паўгадзіннай стужцы расследуецца адна з версіяў забойства Веранікі. А менавіта, «іракскі след». Незадоўга да трагедыі Вераніка наведвала гэтую краіну і, магчыма, магла штосьці даведацца пра не зусім законныя справы, што рабіліся паміж Багдадам і Мінскам падчас дзеяння міжнародных санкцыяў супраць рэжыму Садама Хусейна.

Як распавёў перад паказам рэжысёр, і да трагедыі былі сведчанні таго, што Веранікай цікавяцца некаторыя структуры. «Аднойчы, як яна прыйшла дамоў, калі яшчэ жыла на вуліцы Русіянава, заўважыла, што хтосьці без яе пабываў у кватэры. Нічога не скралі, але ўсё было перастаўлена такім чынам, каб прадэманстраваць, што, маўляў, мы можам зайсці ў кожную кватэру», — адзначыў Леанід Міндлін.

Фільм добры і адначасова вельмі цяжкі сваёй фактурнасцю. Таму было вельмі важна, што пасля яго дэманстрацыі выступілі вядомыя айчынныя рок-музыкі, якія сутыкаліся з Веранікай, з якімі яна рабіла інтэрв'ю. Гэта Лявон Вольскі, Аляксандр Кулінковіч, Аляксандр Памідораў, а таксама журналіст і музыка з Гродна Алесь Дзянісаў.

Харызматычныя рок-музыкі ў гэты вечар былі вельмі сціплыя, яны перад тым, як заспяваць, шчыра дзяліліся ўспамінамі пра Вераніку, пра яе працу.

«Не страціць культуру журналістыкі, культуру падыходу да сваёй прафесіі, якую несла Вераніка,— гэта можа стацца шансам не страчваць больш ні такіх сяброў, як Вераніка Чаркасава, ні саміх сябе», — сказаў Аляксандр Памідораў.

«Мы сабраліся з сумнай нагоды, бо чалавек загінуў. Але давайце радавацца таму, што ў гэтага чалавека былі крылы, і таму, што памяць засталася. Я не шмат ведаў Вераніку, мы пазнаёміліся з ёй на фестывалі «Басовішча», але вельмі цудоўна з ёю пагутарылі, і яна мяне вельмі ўразіла тым, што яе, як маленькае дзіцятка, цікавіла літаральна ўсё. Яе цікавіла ўся рокэнрольная кухня, гэта быў вельмі дасціпны, здароўскі чалавек з сумнымі вачыма, — згадаў Аляксандр Кулінковіч. — Таму давайце радавацца таму, што такі чалавек быў».

«Я, на жаль, не вельмі добра быў знаёмы з Веранікай. Гэта быў не вельмі просты досвед дачы інтэрв'ю. Гэта было на пачатку 2000-х у кавярні «Салодкі фальварак» на Юбілейнай плошчы. Мы там сустрэліся ў абедзенны час, там было поўна народу, і мы сядзелі пасярэдзіне за маленькім столікам, там усё было літаральна забіта людзьмі. Я не сацыяпат, але блізка да гэтага, я не вельмі люблю, калі шмат людзей, і пры гэтым ты даеш інтэрв'ю, і нехта азіраецца, — распавядае Лявон Вольскі. — Але Вераніка ўмудрылася ўсё гэта так душэўна падаць, задавала такія пытанні, што ўсё выглядала на тое, што мы там проста міла і душэўна размаўляем. І нават не было ўражання нейкага інтэрв'ю, што журналіст цябе да чагосьці правакуе, хоча выставіць не ў вельмі добрым святле. Нічога такога. Усё было проста, ясна, камфортна. Гэта вялікі талент, гэта рэдкасць, калі адбываецца менавіта так».

Дзякуй, Вераніка, што, хоць і з такой жахлівай нагоды, але сабрала нас. Помнім і любім.

# Жыццё пасля раку існуе

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**20 кастрычніка ў малой залі к/з Мінск была прэзентаваная кніга «Жыццё пасля раку» з серыі «Бібліятэка Свабоды».**

Гэта была своеасаблівая споведзь герояў кнігі перад іх блізкімі, лекарамі, псіхолагамі і проста цікаўнымі. У амаль поўнай залі была магчымасць не толькі прачытаць, а паслухаць рэцэпты жыцця некаторых з 22 герояў кнігі.

Ганна Соўсь, каардынатар праекту, падкрэсліла, што раней у Беларусі нічога падобнага не было, а кніга рыхтавалася на працягу года.

«Рак не азначае смерць», — гэта тая ніточка, якая цягнулася скрозь усю імпрэзу. Сапраўды, можна абурыцца, маўляў, як можна з такой бяды рабіць паказуху ў выглядзе кнігі і, адпаведна, яе прэзентацыі. Але стэрэатып трэба руйнаваць. Пра гэта казалі ўсе, хто выходзіў на сцэну. І героі кнігі «Жыццё пасля раку» не стаяць на месцы — яны дапамагаюць змагацца са смерцю іншым.

«Як перамагчы смяротную хваробу?» — адно з галоўных пытанняў, якое было пастаўлена перад героямі кнігі. І ў кожнага з іх маецца свой рэцэпт перамогі над смерцю.

Ірына Жыхар жыве пасля раку ўжо 20 гадоў. «Не трэба саромецца казаць пра сваю хваробу», — упэўнена кажа жанчына. І гэта не пустыя словы. Ірына з'яўляецца старшынёй рады грамадскага аб'яднання «Беларуская арганізацыя працоўных жанчын», якая аказвае падтрымку анкалагічным пацыентам.

Псіхолаг Тамара Вашкевіч, якая працуе ў Бараўлянах, выказалася пра яшчэ адну праблему, якая перашкаджае вылечвацца хворым, — нежаданне прымаць псіхалагічную дапамогу. «Калі я прыходзіла ў палату да хворых дзяцей, кажучы, што я псіхолаг, мамы сцвярджалі, што ў іх дзяцей усё добра. Тады мне даводзілася тлумачыць адрозненне псіхолага ад псіхіятра. Праз паўгода бацькі ішлі ўжо самі, скіраваныя не дактарамі, а суседкамі з палаты». Псіхолаг казала пра важную ролю маці як батарэйкі для свайго дзіцяці. Таму вельмі важна запасціся аптымізмам як для сябе, так і для свайго малога. Скончыла Тамара свой выступ словамі 12-гадовага хлопчыка, які памёр ад раку: «У нас тут іншае вымярэнне». І пра гэта варта памятаць тым, хто дапамагае камусьці ў змаганні з ракам.

Пасля споведзі герояў адбыўся дабрачынны выступ гуртоў, якія яшчэ раз пацвердзілі, што пасля раку можна шчыра радавацца жыццю. «Rahis» падабраным для імпрэзы рэпертуарам падарыў надзею. Салістка гурту «Navi» Ксенія Жук не вытрымала і расплакалася, кажучы: «Мы шчаслівыя ад таго, што дорым шчасце вам». А «Recha» прымусіла залю нават разам паспяваць.

Жыццё пасля раку магчыма. Інакш ці сталі бы танчыць на сваіх месцах тыя, хто перажыў гэтую смяротную хваробу?

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Холад ад дзіравых пагадненняў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У краіне моцна пахаладала. Камунальнікі пачалі падключаць ацяпленне, і гэты працэс адразу ж выклікаў міждзяржаўныя пытанні. Мы ж стварылі ЕАЭС, дык чаму так холадна?!**

Як паведаміў днямі галоўны ад Беларусі ў Еўразійскай эканамічнай камісіі Сяргей Румас, цана на расійскі газ для Беларусі ў 2015 годзе не будзе моцна адрозніваецца ад той, што існуе зараз. То бок, Беларусь будзе купляць у Расіі блакітнае паліва прыкладна па $165 за 1000 кубаметраў. Вось тут і ўзнікла праблема.

Мы ж дамагаліся, каб у ЕАЭС былі зняты ўсе выняткі і абмежаванні. Але ўнутраная цана ф'ючэрсаў Расіі на газ на канец лістапада 2014 года складала $131,5. Гэта значыць, за кожную тысячу кубоў газа мы пераплачваем каля $30. Здавалася б, сума невялікая, але калі ўлічыць, што Беларусь набывае ў «Газпрома» каля 21 мільярда кубаметраў газа ў год, то 60 мільёнаў долараў на дарозе не валяюцца. Зразумела, узнікае пытанне: куды глядзіць той самы Румас у ЕЭК і чаму гэтае пытанне, як пытанне нафты, не было прапісана ў пагадненні пра ЕАЭС?

Пакуль нашы чыноўнікі вылоўліваюць такія дзіркі міждзяржаўных пагадненняў, церпяць, перш за ўсё, грамадзяне, якім даходы не дазваляюць аплачваць камунальныя плацяжы. Улады Мінска ўжо пагражаюць адключэннем камунальных паслуг тым, хто за іх запазычыў больш 2-х месяцаў.

«Вырашана ў абавязковым парадку адключаць ад жыллёва-камунальных паслуг тых, хто завінаваціўся за іх больш за два месяцы», — паведаміў гендырэктар дзяржпрадпрыемства «Мінская гарадская жыллёвая гаспадарка» (МГЖГ) Віталь Смірноў. Паводле яго слоў, такім асобам будзе выстаўляцца апавяшчэнне, пасля атрымання якога на пагашэнне доўгу застанецца 5 дзён. Калі апавяшчэнне будзе праігнараванае, то ў кватэры адключаць альбо святло, альбо ваду, альбо газ.

Па дадзеных МГЖГ, у Мінску налічваецца 26 616 даўжнікоў, з якіх 3 958 не плацяць на паслугі больш за два месяцы.

З пачатку года ў Мінску зроблена каля 47 тысяч папярэджанняў, праведзена больш за 13 тысяч адключэнняў, у судах разглядаюцца 43 справы аб высяленні з кватэр за даўгі, прынята 13 рашэнняў аб высяленні. Але выканана толькі адно.

Гэтыя пытанні павінны былі паўстаць падчас візіту ў Мінск расійскага прэм'ера Дзмітрыя Мядзведзева. Але замест таго,

**Як ні дзіўна, чакаючы крэдытную місію, Мясніковіч зусім не чакае ад яе крэдытаў. «Нам не столькі патрэбныя сродкі, хоць і яны не лішнія... Але гэта важна з пункту гледжання падачы пазітыўнага сігналу прыватным інвестарам», — сказаў Мясніковіч**

каб распавесці пра шляхі вырашэння «газавых праблему», Мядзведзеў завёў сваю любімую песню аб прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў. «Па некалькіх праектах мы знаходзімся ў кроку ад прыняцця канчатковага рашэння і падпісання, але рашэнне, вядома, павінен прыняць беларускі бок, таму што гэта рашэнне аб прыватызацыі», — сказаў прэм'ер Мядзведзеў на выніковай прэс-канферэнцыі пасля перамоваў з Лукашэнкам і саюзнага Саўміна.

Ён удакладніў, што мае на ўвазе ўсе кампетэнтныя органы Беларусі (чытай — Лукашэнку), адказныя за гэта пытанне. «Мы лічым, што гэта, безумоўна, у інтарэсах Рэспублікі Беларусь, і калі нашы партнёры хочуць гэта зрабіць, гэта можна зрабіць да канца года», — падкрэсліў Мядзведзеў.

Ён таксама адзначыў, што, калі рашэнне так і не будзе прынята, то неабходна будзе перагледзець перспектывы супрацоўніцтва. «У кожнага інавацыйнага і тым больш інвестыцыйнага праекта ёсць свой перыяд, на працягу якога ён з'яўляецца цікавым. Я лічу, што час вызначацца. Мы ўжо даволі даўно гэта ўсё абмяркоўваем», — падкрэсліў ён, каментуючы пытанні стварэння СП паміж беларускім МАЗам і расійскім КАМАЗам і супрацоўніцтва ў галіне вытворчасці азотных угнаенняў.

Ужо б чыя карова мычала, Дзмітрый Анатолевіч! Навошта вам наш МАЗ і «Гродна — Азот», калі вы сваё ўтрымаць не можаце? Для таго, каб Беларусі потым прыходзілася ратаваць вашы структуры?

Вось, напрыклад, быў такі банк — «Масква-Мінск». Добры ці дрэнны, не ведаю. Ён, як і «ВТБ–Беларусь», належаў расійскаму ВТБ, на які з-за Украіны зваліліся санкцыі ЗША і ЕС. З-за праблемаў самога ВТБ, беларускі Нацбанк змушаны зараз выкупіць «Маскву-Мінск», каб не пусціць галяком па вуліцах ягоных укладчыкаў.

Як паведаміла кіраўнік Нацбанка Беларусі Надзея Ермакова, Нацбанк выкупіць «Маскву-Мінск» у расійскага ВТБ, і паводле яе слоў, рашэнне ўжо прынята.

Размова ідзе менавіта пра ратаванне банку, таму што нашаму Нацбанку гэты «Масква-Мінск», шчыра кажучы, не патрэбны. Ва ўласнасці НБРБ ужо ёсць адзін банк — «Парытэт», з якім Нацбанк па гэты дзень не ведае, што рабіць, дык навошта яму яшчэ адзін? Аднак санкцыі супраць ВТБ і яго даччыных банкаў, а таксама нежаданне расійскага банка капіталізаваць «Маскву-Мінск» для выканання прудэнцыяльных патрабаванняў рэгулятара, вымусілі Нацбанк разгледзець і зацвердзіць самы непажаданы варыянт — куплю непатрэбнага актыву.

Цікавасць, безумоўна, будзе прадстаўляць і кошт здзелкі. Раней, яшчэ задоўга да санкцый, гучала лічба ў $60 мільёнаў. Цяпер жа Нацбанк, з улікам усіх геапалітычных абставінаў, мог выгандляваць больш прыемную для сябе лічбу, збіўшы кошт актыву напалову, а можа нават больш.

Казаць пра тое, што беларускаму боку тэрмінова патрэбныя грошы, якія няма дзе ўзяць, акрамя прыватызацыі, таксама не выпадае. Прынамсі, прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч абвясціў, што краіна зноў чакае місію Міжнароднага валютнага фонду. Аднак гэтым разам, спадзяецца кіраўнік урада, місія будзе не «наглядный», а адмысловай. «Мы ставім задачу, каб прыехала група з пэўнымі паўнамоцтвамі, каб гэта былі не проста эксперты, а людзі, здольныя прыняць рашэнне на прадмет разгляду падрыхтоўкі новай праграмы для Беларусі», — заявіў Міхаіл Уладзіміравіч.

Як ні дзіўна, чакаючы крэдытную місію, Мясніковіч зусім не чакае ад яе крэдытаў. «Нам не столькі патрэбныя сродкі, хоць і яны не лішнія... Але гэта важна з пункту гледжання падачы пазітыўнага сігналу прыватным інвестарам», — сказаў Мясніковіч.

Як казачна там у іх у Саўміне ўсё складаецца: варта МВФ сказаць «крэдыт», і ля беларускай мяжы збяруцца чэргі інвестараў! І тут мы ўжо сапраўды, абыдземся і без Расіі, і без прыватызацыі.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### Дзмітрый Канаплянік



**Акруговая пракуратура Вільнюса спыніла дасудовае расследаванне ў дачыненні да начальніка УСК па Мінску.**

Нагадаем, 21 верасня на Медніцкім КПП падчас праверкі зарэгістраванага ў Беларусі легкавога аўтамабіля Honda CR-V выявілі некалькі дзясяткаў патронаў калібру 9 мм Luger. На гэтым аўтамабілі пасля прыватнай паездкі па Літве ў Беларусь вяртаўся Дзмітрый Канаплянік з жонкай.

«Па выніках праведзенага на працягу месяца праваахоўнымі органамі Літоўскай Рэспублікі разгляду па факце выяўлення патронаў у аўтамабілі начальніка УСК па г. Мінску, акруговай пракуратурай г. Вільнюса прынята рашэнне аб спыненні дасудовага расследавання ў дачыненні да яго і яго жонкі, — паведамляе сайт Следчага камітэта РБ.— Прызначаная мера стрымання адмененая».

20 кастрычніка Канаплянік вярнуўся ў Беларусь. Двума тыднямі раней праваахоўнікамі Літвы прынята рашэнне аб змяненні меры стрымання ў дачыненні да яго жонкі, якая адразу ж прыбыла ў Беларусь.

Узнікае пытанне: што гэта было? Начальнік УСК па Мінску наўрад ці валодае тымі дзяржтаямніцамі, для якіх варта было б ажыццяўляць правакацыю. З іншага боку, чаму яго так лёгка выпусцілі? Але ўсё адно цешыць, што наш грамадзянін вярнуўся на радзіму, а не патрапіў у турму.

### Мікалай Статкевіч



**Пакуль апазіцыя думае пра адзінага кандыдата ў прэзідэнты, аргкамітэт па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) вылучыў кандыдатам свайго лідара Мікалая Статкевіча.**

Выканаўчае бюро БСДП (НГ) разгледзела пытанне аб далейшай стратэгіі партыі ў сувязі з тым, што яе выключылі з дэмакратычнай «сямёркі» (Партыя БНФ, АГП, БПЛ «Справядлівы свет», БХД, БСДП (Грамада), «Гавары праўду!» і Рух «За Свабоду»). З пачатку вясны «сямёрка» спрабуе ўзгадніць працэдуру па вылучэнні адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад дэмакратычных сіл. «Пару разоў нас запрасілі на пасяджэнне, а потым Калякін і Вештард выказаліся супраць нашага ўдзелу ў пасяджэннях сямёркі. На апошнім пасяджэнні Калякін у даволі грубай форме выставіў нашага прадстаўніка, першага намесніка старшыні Алеся Арастовіча з пасяджэння», — адзначыў Сяргей Скрабец.

Аргкамітэт БСДП (НГ) вырашыў вылучыць Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты самастойна, рэгістраваць ініцыятыўную групу па зборы подпісаў. Паколькі «сямёрка» не падтрымала кандыдатуру Статкевіча, «Народная Грамада» спадзяецца на падтрымку Еўрапейскай кааліцыі.

Сам Мікалай Статкевіч ужо даў згоду на ўдзел у прэзідэнцкай кампаніі 2015 года.

«Народная Грамада» не губляе надзеі ўбачыць Мікалая Статкевіча і ў якасці адзінага кандыдата ад усёй апазіцыі. Калі адбудзецца Кангрэс дэмакратычных сіл па абранні адзінага, Сяргею Скрабцу даручана ўнесці кандыдатуру Статкевіча ў спіс для галасавання.

### Віктар Ганчарэнка



**Былы трэнер БАТЭ, а зараз настаўнік «Кубані», беларус Віктар Ганчарэнка прызнаны лепшым трэнерам верасня ў Расіі па версіі тэлеканала «Наш Футбол».**

Тэлеканал падвёў вынікі галасавання спецыялістаў, якія выбралі лепшага настаўніка ў прэм'ер-лізе ў верасні. Як піша «Прессбол», пераможцам стаў наш суайчыннік. Галоўны трэнер «Кубані» набраў 12 балаў і з вялікай перавагай апярэдзіў трэнера «Зеніта» Андрэ Вілаша-Боаша (5 галасоў) і настаўніка «Серака» Рашыда Рахімава (4).

У верасні «Кубань» правяла чатыры матчы. Яна абыграла казанскі «Рубін» і — у рамках Кубка — калінінградскую «Балтыку». На выездзе клуб згуляў унічыю з «Сеаракам» і «Дынама». Розніца мячоў — 6-4.

А тым часам, без Ганчарэнкі БАТЭ прайграў данецкаму «Шахцёру» на сваім полі — 0:7. Такі лік інакш, як катастрофай, ніхто не назваў...

# «Калі мы не аб’яднаемся, у 2015 годзе можам страціць краіну»

**«НЧ» ужо правёў круглы стол экспертаў, якія ацэньвалі магчымасці апазіцыі за год да выбараў. Гэтым разам у нас у гасцях палітыкі: лідар Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павел Севярынец і лідар кампаніі «Гавары праўду!» Уладзімір Някляеў.**

### Апазіцыя ў накдаўне

***НЧ: Пачнём стандартна: ацаніце сучасны стан вашых арганізацый і вашы магчымасці ўплыву на грамадства, палітычную сітуацыю ў краіне. Асабліва перад прэзідэнцкімі выбарамі 2015 года.***

***Юрась Губарэвіч:*** На сучасным этапе — ні для каго гэта не сакрэт — стан апазіцыі пакідае жадаць лепшага, і тут няма выключэнняў. Няма партый альбо арганізацый, якія могуць сказаць, што ў іх справы ідуць лепш, чым у астатніх. 20 гадоў дыктатуры робяць сваю справу, перадусім, гэта адбілася на актывістах арганізацый, якія знаходзяцца пад пастаянным ціскам. Гэта адбілася і на беларускім грамадстве, якое стала на парадак больш апалітычнае, больш няверуючае ў тое, што нейкія перамены ў Беларусі магчымыя, і магчымыя дзякуючы сілам, якія ёсць унутры Беларусі, а не звонку. Людзі прызвычаіліся да дыктатуры, знайшлі для сябе пэўныя нішы, каб існаваць.

Але я б не сказаў, што ўсё страчана, і нам застаецца спадзявацца толькі на знешнія чыннікі. Мы ўсё роўна знаходзім пэўныя формы для дзейнасці ў Беларусі.

Калі казаць пра прэзідэнцкія выбары, то ў сённяшніх умовах вылучэнне кандыдатаў паасобку ад палітычных партый мне падаецца малаверагодным. Хутчэй за ўсё, сітуацыя не будзе такой, як у 2010 годзе. Лукашэнка больш не будзе імітаваць гульні ў дэмакратыю. Таму, каб вылучыць кандыдата, рэальна прайсці праз сіта праверак, праз той ціск, які напэўна будзе падчас выбараў, неабходная кансалідацыя.

***Аляксей Янукевіч:*** Магчымасці ўплываць на грамадства, сапраўды, моцна абмежаваныя. Мае поспех дзяржаўная палітыка, скіраваная на тое, каб зрабіць людзей абыякавымі, знішчыць веру ў тое, што перамены магчымыя, што грамадская праца мае нейкі сэнс. Людзі не вераць, што іх асабісты ўдзел у палітычнай альбо грамадскай дзейнасці можа прынесці нейкі плён. Таму ўплыў дэмакратычных арганізацый сёння настолькі невялікі.

Але існуе і пазітыўная дынаміка. Уплыў некаторых нашых ідэяў на насельніцтва застаецца высокім. Ідэя нацыянальнай незалежнасці, адраджэння, ідэя інтэграцыі з заходнімі краінамі і адмаўлення ад інтэграцыйных працэсаў з Расіяй маюць больш уплыў на беларускае грамадства, і нават на чыноўніцтва. Мы ўсё часцей чуем заявы пра незалежнасць Беларусі, пра неабходнасць адраджэння беларускай мовы. Натуральна, гэта не сведчыць, што сёння беларуская дзяржава і Аляксандр Лукашэнка збіраюцца абапірацца на нацыянальную ідэю і адстойваць нацыянальныя інтарэсы, аднак у прынцыпе гэта пашырае нашы магчымасці ўплываць на беларускае грамадства.

Што тычыцца прэзідэнцкіх выбараў, то я пагаджуся з Юрасём: сёння правесці паўнавартасную прэзідэнцкую кампанію аднаасобна, сваімі сіламі, не здольная ніводная палітычная сіла. Калі мы разлічваем не толькі на сталы «пратэстны электарат», а на больш шырокія колы грамадства — альтэрнатывы яднанню няма. У адваротным выпадку, кошт тых памылак, якія здольная зрабіць дэмакратычная супольнасць, можа быць надзвычай высокім. Фактычна, у 2015 годзе мы можам страціць краіну. І нашая задача — зрабіць так, каб гэтага не адбылося.

***Павел Севярынец:*** 200 гадоў Расія, 70 гадоў камуністы і 20 гадоў Лукашэнка даводзілі Беларусь і ў плане свядомасці, і ў плане ментальнасці, і ў плане маралі проста да ўзроўню ямы. З гэтай ямы проста так выбрацца не ўдасца. Магчыма, на гэта прыйдзецца пакласці працу жыцця аднаго пакалення, ці нават некалькіх пакаленняў. Гэта не такая простая справа, каб можна было казаць: хоп — і ў 2015 годзе мы з гэтай ямы выскачылі.

Сітуацыя ўскладняецца тым, што Расія вярнула сабе патэнцыял імперыі. Зараз гэтая імперыя дзейнічае, прычым тэмп заваёваў паскараецца. І, хутчэй за ўсё, Пуцін спыніцца не будзе.

Адначасова гэта дае нам магчымасці, у тым ліку і гістарычныя. Калі Расія завязне ва Украіне, то яна, Расія, можа проста трэснуць па швах. З улікам санкцыяў, напружання ў ваенна-прамысловай сферы, паніжэння коштаў на нафту — можа паўтарыцца сітуацыя Савецкага Саюза. І ў Беларусі ў гэтым выпадку ёсць шанец вырвацца.

Сітуацыя мяняецца і ў самой Беларусі. З аднаго боку, можна было б казаць, што ўсё кепска. Бо апазіцыя слабая. З іншага — з’яўляюцца новыя цэлыя пласты грамадства, якія ўяўляюць незалежнасць як каштоўнасць.

***НЧ: З’яўляюцца гэтыя пласты грамадства. Здавалася б, апазіцыі з імі, і трэба працаваць, нарошчваць свой патэнцыял...***

***Павел Севярынец:*** Сітуацыя змянілася толькі што, літаральна за апошнія тыдні. Нават самая паспяховая палітычная сіла не паспела б перабудавацца. Вельмі імклівa з’явіліся футбольныя фанаты, напрыклад, якія масава выступілі на «Барысаў-Арэне», а «выспявалі» яны вясной-летам, пад падзеі ва Украіне. Безумоўна, з імі масты трэба наводзіць, каб яны не засталіся без падтрымкі, каб яны не згубіліся недзе.

Зараз палітычная дзейнасць — гэта проста. Хочаце заняцца палітыкай — суньце пальцы ў разетку. Б’ецца токам? А што ж вы хацелі? 20 гадоў рэжым умацоўваецца, лупяць і «прасуюць» апазіцыю... Пра гэта спытайцеся ў любога мясцовага актывіста — стос такіх гісторыяў будзе. Беларускі народ палітыкай займацца не хоча, таму што токам б’ецца: звальненні з працы, складанасці з вучобай, б’юць, садзяць у турмы... Так што не трэба пляжыць апазіцыю. Сябры, не можаце зрабіць самі — хаця б не бэсціце тых, хто нешта робіць.

***Уладзімір Някляеў:*** Што вы чапляецеся да гэтай апазіцыі: тое не так, гэтае не так! Прыйдзіце вы папрацаваць у гэтую апазіцыю, пацягайцеся па пастарунках, зразумееце, што апазіцыя ў сённяшніх умовах можа зрабіць. Калі казаць пра прыклад Украіны, то там у людзей былі хаця б нейкія перамогі: быў поспех у супрацьстаянні з уладай, былі «каляровыя рэвалюцыі», былі, урэшце, прадстаўнікі апазіцыі ў парламенце і незалежныя тэлеканалы ў эфіры... Так што дзякуй Богу, што ў нас ёсць хоць такая апазіцыя, бо без яе наогул шлях толькі на кухні, і больш нікуды.

### Незалежнасць — не перадвыбарчы лозунг

***НЧ: Эксперты лічаць, што Расія наўрад ці зацікаўленая ў палітычным знішчэнні Беларусі, пазбаўленні яе суверэнітэту. Ці ёсць пагроза незалежнасці Беларусі?***

***Юрась Губарэвіч:*** Пуцін, дзякуючы таму, што адарваў ад Украіны Крым, атрымаў шалёную падтрымку ўнутры Расіі. Народ гатовы трываць любыя непрыемнасці і страты ў выніку санкцый ЗША і ЕС. Маральнай кампенсацыяй для іх з’яўляецца аднаўленне імперыі.

Пуцін зараз не можа ўтрымаць Данбас, а адзіным спосабам трымаць свае рэйтынгі з’яўляецца працяг імперскай экспансіі. Беларусь у гэтым выпадку з’яўляецца лёгкім і прынадным кавалкам. Неабавязкова сюды ўводзіць войскі, дастаткова падкантрольнымі Расіі спецслужбамі правесці рэферэндум, альбо прыняць рашэнне іншым чынам пра далучэнне Беларусі для Расіі. Гэта варыянт, на які б пайшла частка наменклатуры і, магчыма, пагадзіўся б Лукашэнка, калі б Пуцін даў яму гарантыі бяспекі. Гэта тое, што дазволіць расіянам адчуваць сябе шчаслівымі яшчэ некалькі наступных гадоў, а Пуціну — мець падтрымку насельніцтва.

***Аляксей Янукевіч:*** Небяспека знішчэння беларускай дзяржаўнасці безумоўна ёсць. Ніхто не можа залезці ў галаву Пуціна. Я не чуў ніводнага сур’ёзнага аналітыка, які б яшчэ паўтара гады ці год таму прадказваў, што Расія рызыкне захапіць Крым ці ўводзіць свае войскі на Усход Украіны.

Нельга не заўважыць раздачу ў Беларусі расійскіх сцягоў, узмоцненую падтрымку прарасійскай «пятай калоны» ў краіне: псеўдаказацтва, псеўдааналітычных арганізацый, якія займаюцца папулярызацыяй «рускага свету», і гэтак далей. Прарасійскія арганізацыі імкнуцца працаваць з грамадствам, і ўсё гэта не проста так. Відавочна, як адзін з варыянтаў, разглядаецца спроба палітычнага далучэння Беларусі да складу Расіі. Казаць, што небяспекі няма — гэта абсалютная адарванасць ад рэаліяў.

> **Для нас незалежнасць не можа быць козырам ці не козырам. Незалежнасць Беларусі — гэта галоўная каштоўнасць, дзеля якой мы працуем, нягледзячы на тое, як складаецца кан’юнктура, спрыяльны час для гэтага пытання ці неспрыяльны**

***НЧ: Але першы, хто выступае зараз абаронцам незалежнасці, — Аляксандр Лукашэнка. Ці атрымаецца ў апазіцыі скарыстаць незалежнасць як асноўны пункт перадвыбарчай кампаніі? Такія ідэі ёсць, напрыклад, у БНФ...***

***Аляксей Янукевіч:*** Для нас незалежнасць не можа быць козырам ці не козырам. Незалежнасць — галоўная каштоўнасць, дзеля якой мы працуем, нягледзячы на тое, як складаецца кан’юнктура, спрыяльны час для гэтага пытання ці неспрыяльны. Зараз разуменне чыноўніцтва, данясенне да шырокіх колаў беларускага грамадства тых небяспекаў, якія сыходзяць з Крамля, нам, безумоўна, на карысць.

Яшчэ год таму, калі мы пачыналі сваю кампанію супраць вайсковых базаў Расіі, 35% беларусаў выказваліся супраць гэтых базаў, і недзе 22% — за. Сёння, з-за ўкраінскіх падзеяў, супраць расійскіх ваенных базаў выступаюць на 10% болей беларусаў. 45% — гэта амаль палова насельніцтва.

Для нас гэта дадатковая магчымасць пераконваць грамадства, што ўвесь пакет нашых прапановаў адэкватны, адпавядае рэаліям, чаканням і патрэбам беларускага грамадства. Калі сёння больш людзей задумваюцца аб незалежнасці, фармуецца ўсведамленне небяспекаў, што сыходзяць з Крамля — гэта нам плюс.

### Перспектыва адзінага

***НЧ: Вы адназначна выказаліся пра яднанне. Але гэта мы чуем перад кожнымі прэзідэнцкімі выбарамі, і ніводнага разу апазіцыя не аб’ядналася. Чаму дагэтуль няма адзінага кандыдата ад апазіцыі?***

***Аляксей Янукевіч:*** Досвед аб’яднання быў, калі ў 2006 годзе абралі адзіным Мілінкевіча. Канешне, тады з’явіўся Казулін, з незразумела якімі і адкуль рэсурсамі, але ж Мілінкевіча ўсё ж такі ўспрымалі як «адзінага».

Аб’яднанне можа быць альбо вельмі слабых, каб сумесна выжываць, альбо моцных, каб атрымаць крытычную масу і пераламіць сітуацыю. Пасля 2006 года была не настолькі кепская сітуацыя, каб аб’ядноўвацца дзеля выжывання, і разам з тым ніхто паасобку не быў настолькі магутны, каб аб’яднанне стварала крытычную масу. Больш за тое, на ўзоры 2006 года мы пабачылі, што аб’яднанне ідэалагічна далёкіх структур — напрыклад, Партыі БНФ і «Справядлівага свеу» Сяргея Калякіна — стварыла дадатковыя праблемы. Мілінкевічу немагчыма было прапанаваць больш рэльефнае бачанне новай Беларусі, бо адбывалася ўзаемнае ідэйнае блакаванне. Для таго, каб зрабіць праграму кандыдата прымальнай для супярэчных палітычных сілаў, даводзілася рабіць праграму «ніякай».

Зараз сітуацыя іншая. Падзеі ва Украіне драматычна змянілі сітуацыю ва ўсім рэгіёне. Сёння дзеля таго, каб беларускае грамадства магло быць гарантам незалежнасці, неабходна, каб ад імя грамадства апазіцыя гаварыла адным голасам. Тое, што сёння перашкаджае аб’ядноўвацца, — безадказнасць некато-





рых палітыкаў, якія спадзяюцца аднаасобна знайсці рэсурсы на нейкі «свой праект», на правядзенне сваёй кампаніі. На маю думку, гэтыя спадзяванні марныя. Больш таго, гэта шкодна для Беларусі.

***Павел Севярынец:*** Дэмакратычныя сілы павінны размаўляць з беларускім народам, з Захадам, з уладай, з Расіяй адным голасам. Калі гэта будзе некалькі галасоў — адзін за санкцыі, другі за дыялог, трэці за байкот — ніхто нас не пачуе. Нават актывісты апазіцыі не разбяруцца, хто чаго хоча. Павінна быць адна каманда, адна стратэгія і адзіны лідар.

Не адзіны кандыдат, таму што размаўляць аб кандыдаце недарэчна, — выбараў няма. Патрэбны адзіны лідар у кампаніі. Яго можна назваць адзіным кандыдатам, і ён пойдзе на выбары, але ўдзел павінен быць абумоўлены: вызваленне палітвязняў, выбары па стандартах АБСЕ, прадстаўнікі гэтага лідара ў камісіях — толькі тады мае сэнс удзельнічаць. Калі гэтага няма, то тады можна разглядаць пытанне пра няўдзел альбо пра выхад з гэтай кампаніі, калі стане канчаткова ясна, што ўсё ідзе да чарговай «элегантнай перамогі».

***Юрась Губарэвіч:*** Апазіцыі трэба пераасэнсаваць падыход, і перастаць жыць календаром ад выбараў да выбараў. Пры захаванні кантролю над выбарчымі камісіямі, пры наяўнасці сярод кандыдатаў прозвішча Аляксандра Лукашэнкі разлічваць на перамогу, на сумленны падлік галасоў не выпадае.

Калі не ставіцца задача пайсці і перамагчы на прэзідэнцкіх выбарах, тады ставяцца іншыя задачы. Раскрутка арганізацый, падвышэнне рэйтынгаў палітыкаў і гэтак далей. І гэта, канешне ж, адбіваецца на перамовах па адзіным кандыдаце. Такія меркантыльныя і асабістыя задачы выглядаюць больш рэальнымі, і ідзе змаганне за асабістыя дывідэнды. Гэта таксама перашкаджае адзінству.

## Маральны выклік

***НЧ: Рэпрэсіі, маргіналізацыя насельніцтва — гэта заканамерныя для дыктатуры з'явы. Але ёсць рэчы, якія апазіцыя можа зрабіць, але не робіць. І ад гэтага ў вачах насельніцтва яна выглядае нягеглай. Пра таго ж адзінага мы чуем некалькі гадоў. Гэта выклікае ўсмешкі, калі не насмешкі...***

***Павел Севярынец:*** Аб'яднанне — абсалютная задача апазіцыі. Прычына таго, што апазіцыя дагэтуль не аб'ядналася, тычыцца безадказнасці шэрагу палітыкаў. Але другое — гэта і знешні чыннік, і геапалітычны ўплыў.

У мяне было тры гады працы над памылкамі — у «амерыканцы» і потым на «хіміі». Я гэтую працу зрабіў. На Нацрадзе БХД была прынятая пастанова: мы свайго кандыдата не вылучаем, мы не ўваходзім ні ў якія кааліцыі, а становімся пляцоўкай для размовы. Што тычыцца працы апошніх месяцаў — гэта збіранне лідараў апазіцыі некалькі разоў на месяц і прапрацоўка ўсіх магчымых сцэнараў яднання і прапановаў. Шчыра скажу, негатыўнага досведу ў мяне зараз — вышэй горла. Але каб я лічыў, што гэта справа бессэнсоўная, я б гэтым не займаўся.

Святло ў канцы тунелю ёсць. Я веру, што мы адзінства дамажамся. Таму што такая логіка працэсу: альбо Беларусь знікне, і мы разам з ёй, альбо будзе яднанне. У 2015 годзе мы можам страціць Беларусь. Калі мы не дамовімся, страцім давер беларускага народа, падтрымку праваабаронцаў, незалежнай прэсы... Нам скажуць: «Сябры, калі няма вынікаў, то чаго вас падтрымліваць?». Вось гэта трэба ўсвядоміць шэрагу апазіцыйных лідараў.

## Пытанне Статкевіча

***НЧ: Пытанне яднання і адзінага — пытанне не выбараў, а даверу людзей. Можна сабрацца ўдзесяцёх, торкнуць пальцам у любога і сказаць: «Ты — адзіны». Нават самы кепскі адзіны — ужо будзе сведчаннем таго, што апазіцыя дамовілася, у яе ёсць патэнцыял, ёй можна давяраць. Дарэчы, узнікла ж ідэя высунуць адзіным Мікалая Статкевіча. Яе падтрымаў і абгрунтаваў Уладзімір Някляеў. Як вы да яе ставіцеся?***

***Юрась Губарэвіч:*** Варыянт вылучэння Статкевіча мае шмат адмоўных бакоў. Мы зараз казалі, што грамадства чакае асобу, якая была б выразнікам і прадстаўніком апазіцыйных структураў, і тых людзей, якія выступаюць за перамены. Грамадства чакае адказу на свае праблемы, прапановы, пытанні, і ўцямнага адказу, што рабіць і куды рухацца.

У сітуацыі, калі мы вылучаем асобу, якая фізічна не можа ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі, мы пазбаўляем сябе магчымасці даваць адказы на гэтыя пытанні. Мы не зможам ад імя кандыдата казаць пра нейкія перамены, у нас не будзе інфармацыйных магчымасцяў, доступу да дзяржаўнага тэлебачання, мы нават не зможам працаваць з людзьмі падчас збору подпісаў, таму што для рэгістрацыі ініцыятыўнай групы кандыдат асабіста падае дакументы і яе спіс у ЦВК. Статкевіч, зразумела, у ЦВК не з'явіцца, а значыць, ініцыятыўная група не будзе зарэгістраваная.

**Дэмакратычныя сілы павінны размаўляць з беларускім народам, з Захадам, з уладай, з Расіяй адным голасам. Калі гэта будзе некалькі галасоў — адзін за санкцыі, другі за дыялог, трэці за байкот — ніхто нас не пачуе. Нават актывісты апазіцыі не разбяруцца, хто чаго хоча**

Больш за тое, мы зноў сутыкнемся з праблемай, калі на топавае месца кампаніі выносім пытанне палітвязняў — пытанне, якое хвалюе апазіцыю, а не шырокае кола людзей.

***Павел Севярынец:*** Я падтрымліваю ідэю вылучэння Статкевіча. Яна можа быць як каштоўнасная (калі не рэгіструюць Статкевіча — байкот), так і кампрамісная. На Кангрэсе абіраецца дублёр Статкевіча, падаюцца на рэгістрацыю два аднолькавых спісы ініцыятыўнай групы. Дублёр агучвае праграму і адначасова патрабуе вызвалення палітвязняў.

Абысці пытанне, пра якое большая частка беларусаў ведае, — кандыдат у прэзідэнты 2010 года ў турме, — таксама немагчыма. Я, калі стасуюся з людзьмі ў рэгіёнах, першае пытанне: «Ну што, Статкевіч яшчэ сядзіць? А Шушкевіч зараз дзе? А Мілінкевіч яшчэ ў Беларусі ці з'ехаў?» Гэта мяне на мытні пыталі, калі затрымалі апошнім разам. Таму гэта сумяшчальна. І гэта давала б маральную афарбоўку кампаніі: адзінства яшчэ і ў тым, што мы сваіх не кідаем.

***Аляксей Янукевіч:*** На з'ездзе БНФ мы вызначыліся, што будзем падтрымліваць Аляксандра Мілінкевіча. Статкевіч выйшаў на другое месца. Але я не выключаю, што мы схілімся і да гэтага варыянта. У любым выпадку, маё асабістае меркаванне — адзін Статкевіч, які не мае права вылучацца кандыдатам у прэзідэнты, адназначна лепш, чым некалькі кандыдатаў, якія могуць вылучацца.

Але аб'яднаная апазіцыя магла б ставіць перад сабой больш амбітныя задачы. Калі нават на прэзідэнцкіх выбарах галасы не лічацца, людзі ўсё ж цікавяцца гэтай кампаніяй і параўноўваюць, што прапаноўвае ўлада, і што прапануе апазіцыя. У выпадку вылучэння палітвязня ў апазіцыі будзе асноўнае патрабаванне — яго вызваленне і патрабаванне свабодных выбараў. Але такіх лозунгаў мала, каб здабыць дадатковы аўтарытэт і падтрымку сярод шырэйшых пластоў грамадства.

***Уладзімір Някляеў:*** Як жыцця нармальнага няма, так і сцэнару нармальнага ў апазіцыі на гэтых выбарах няма — усе кепскія. Лукашэнка ўжо заявіў пра ягоную падтрымку ў народзе 90%. А заява Лукашэнкі — гэта ўстаноўка на тое, якія лічбы напісаць на выбарах 2015 года. Як не 90%, так 85% выньце ды пакладзіце.

Выбіраць з кепскага не самае кепскае цяжкавата. Але на сёння гуляць па сцэнары фальсіфікацыі мы не можам. Адна з праблем папярэдніх выбараў была тое, што мы ўперліся ў адзін сцэнар — Плошча, і ўсё. Зараз трэба распрацоўваць некалькі сцэнараў дзеянняў. Калі мець на ўвазе сцэнар фальсіфікацый, апазіцыйнаму кандыдату малююць паўтары працэнты, і ўсе ідуць на Плошчу — гэта вельмі вялікая рызыка. Рызыка зараз не толькі ўнутраных рэпрэсій, але і знешняга ўмяшання, па прыкладзе Майдана.

Могуць быць некалькі сцэнараў. У варыянце з вылучэннем Статкевічам падаюцца дзве ініцыятыўныя групы — яго і дублёра. У іншым варыянце падаецца ініцыятыўная група па кандыдата ў прэзідэнты і ініцыятыўная група па зборы подпісаў за правядзенне «Народнага рэферэндуму». А далей — у залежнасці ад таго, як разvіваюцца падзеі. Тут ужо ёсць варыянтнасць — здымацца, актыўны байкот ці нешта змяніцца. Сітуацыя змяняецца імкліва, і казаць пра тое, што мы тое, што сёння прыдумаем, будзем рэалізоўваць, я б з упэўненасцю не стаў. Але рыхтавацца трэба.

***НЧ: Выхад на адзінага, — гэта не пытанне ўдзелу ў выбарах, гэта пытанне павагі, здольнасці нешта зрабіць самой апазіцыі...***

***Уладзімір Някляеў:*** Я згодны, гэта трэба зрабіць. Да таго ж, трэба адзін чалавек, які б браў на сябе адказнасць не толькі за выбары, але і ў дзень галасавання. А не так, як у 2010 годзе — мы ж стаялі і ківалі адзін на аднаго. Калі здарыцца, як тады, а можа нават і горш, — што, мы будзем стаяць і ківаць адзін на аднаго?

***НЧ: Усё ж: зараз вы як ацэніце шанцы выхаду на адзінага кандыдата?***

***Юрась Губарэвіч:*** Працэнтаў на 50.

***Аляксей Янукевіч:*** Працэнтаў 70. І не таму, што веру ў адказнасць апазіцыйных асобаў. Думаю, сітуацыя прыцісне тых, хто яшчэ не даспеў.

***Павел Севярынец:*** Мы загразлі ў працэдуры. Павінна перамагчы дэмакратыя: каб на Кангрэс былі абраныя дэлегаты, і яны абралі адзінага. А паколькі там ёсць розныя падыходы да вылучэння кандыдатаў: «Гавары праўду!» прапануе спісы выбаршчыкаў, Лябедзька — праймерыз, і гэтак далей, за кожным спосабам вылучэння стаяць свае структуры.

Трэба прарывацца, таму што застаецца ўсё менш часу нават на тое, каб чыста тэхнічна падрыхтаваць Кангрэс дэмакратычных сілаў да абвяшчэння прэзідэнцкай кампаніі.

***Уладзімір Някляеў:*** Ва ўсялякім выпадку, усе разумеюць, што выйсці з гэтага трэба прыстойна, і выйсце ўсё ж будзе.

***P.S.*** *Удумлівы чытач заўважыць, што ў гэтым тэксце так мала Някляева. Справа ў тым, што напачатку круглага стала Уладзімір Пракопавіч выйшаў «літаральна на пяць-сем хвілінаў», каб даць каментар журналістам. Выйшаў — і знік на паўтары гадзіны. Разам з журналістамі ён быў затрыманы міліцыянтамі «для высвятлення асобы» — толькі таму, што ў скверыку размаўляў па-беларуску, ды яшчэ і на тэлекамеру. Вось і кажы потым пра ўмовы правядзення прэзідэнцкай кампаніі...*




# «Пошуг» — новае слова ў нацыянальным лексіконе

Алесь КІРКЕВІЧ

**Свет нацыянальна-арыентаваных ініцыятываў імкліва змяняецца. Хто б мог падумаць гадоў дзесяць таму, што ў авангардзе прыхільнікаў незалежнасці стануць футбольныя фанаты, а не БНФ ці «Малады фронт»? Украінскі досвед даводзіць, што змены далёка не заўсёды адбываюцца выключна высілкамі публічных палітыкаў альбо распіяраных партыяў...**



«Пошуг» стаў вядомы беларускім СМІ пасля відэа, на якім невядомыя здзіраюць з майкі хлопца надпіс «Я русский». Стыкеры, улёткі і графіці з ініцыяламі «Пошуга», з прапісанай на манер калюмнаў «ш», пачалі з'яўляцца ў самых розных гарадах краіны. Дык што такое «Пошуг», чаго яны хочуць і як ставяцца да беларускіх рэаліяў? Наш суразмоўца, Іван Дуб, пагадзіўся адказаць на пытанні завочна, не адкрываючы твару.

### Партыйных спісаў у нас няма

***— Чаму менавіта «Пошуг», адкуль назва?***

— Пошуг — гэта выбліск святла альбо агню. Наша ўспышка, наша ззянне, накіраванае на навакольны счарнелы свет, на ўкараненне светлых ідэй у розумы людзей, што жывуць побач. Людзей, якія знаходзяцца ў дрыгве зла і д'ябальшчыны. Людзей, якія атручваюць сябе празмерным ужываннем разнастайных атрутаў у выглядзе тытуню, алкаголю і іншых наркотыкаў. Людзей, якія вядуць вайну на знішчэнне паміж сабой, а таксама з прыродай планеты Зямля. Людзей, якія спажываюць бруд і бруд ствараюць. Людзей, якія забыліся, што яны людзі. Часам усяго толькі маленькага мігцення святла недзе далёка хапала стомленым аблудным падарожнікам, каб знайсці дарогу дадому, так і мы будзем спадзявацца, што наш бляск камусьці дапаможа выбрацца з цемры.

***— «Пошуг» — гэта рух, партыя, арганізацыя, ордэн?***

— «Пошуг» з'яўляецца згуртаваннем неабыякавых людзей, якія прагнуць самаразвіцця і штосекунднага ўдасканальвання навакольнага асяроддзя. Тых, хто адчувае невыносны нябесны смутак і пачуццё глыбокай трывогі, болю ад несправядлівасці гэтага свету. Ніякіх партыйных спісаў у нас няма.

### Сярод нас ёсць рускія

***— Як вы маглі б акрэсліць свой ідэйны накірунак — нацыяналісты, анархісты, экалагі?..***

— Ідэйны накірунак — этна-анархізм. У нашых шэрагах ёсць як анархісты, так і нацыяналісты. Мы маем агульны вектар развіцця, і гэта з'яўляецца асноўным момантам, які дазваляе нам рухацца ў пэўным накірунку. Але трэба адзначыць, што нацыяналізм можа быць толькі не аўтарытарны, іншыя яго формы не маюць права на існаванне.

Усе мы стаім на экацэнтрычных пазіцыях, таму з'яўляемся веганамі ды вегетарыянцамі. Вядзем «зялёны лад жыцця».

***— Відэа з адрываннем надпісу «я рускі» абышло ў свой час шэраг СМІ. За што «рускіх» не любіце?***

— Калі на тое пайшло, то сярод нас ёсць і рускія, таму, як разумееце, ставімся мы да іх нармалёва. Мы за міжнародную салідарнасць, за права народаў на самавызначэнне і самастойнасць. Але мы перакананыя ў тым, што людская годнасць, людская свабода і шчасце могуць быць забяспечаныя толькі ў бясклясавым і бездзяржаўным грамадстве на аснове этнічнай супольнасці людзей.

Цяпер паглядзіце на Расію — што гэта? Імперыя, якая прыгнятае малыя народы і жыве за іх кошт. Гэта нясе дэструкцыю ў свет. Так склалася, што расейшчына ў Беларусі выяўляецца амаль што выключна ксенафобіяй і агрэсіяй у бок беларускага ды іншых культурных полюсаў, таму гэтаму шавінізму трэба супрацьстаяць, зрэшты, як і любому іншаму: польскаму, амерыканскаму ці нават уласнаму беларускаму, калі такі праявіцца.

### Імітацыя дзейнасці — галоўная хвароба апазіцыі

***— Вы лічыце сябе пераемнікамі нейкай ужо існаваўшай (існуючай) у Беларусі ці па-за яе межамі арганізацыі, альбо «Пошуг» — нешта цалкам новае?***

— Пераемнікамі наўрад ці, тым больш у Беларусі. Ведаем, што «Пошуг» дагэтуль часта параўноўваюць з «Вольніцай», якая дзейнічала ў Расіі. Але гэтая ініцыятыва ўжо два гады як не існуе. На яе аскепках з'явілася «Народная Воля» і працягвае дзейнічаць экалагічнае аб'яднанне «Зеленый Мир». Ва Украіне зараз найбольш цікавай няўрадавай арганізацыяй з'яўляецца «Автономний Опір», вопыт якой не перашкодзіць пераняць шмат каму ў Беларусі.

***— Чаго не хапае моладзі з сантыментам да беларушчыны ў апазіцыйных моладзевых тусоўках?***

— Калі маюцца на ўвазе тусоўкі са структурнай апазіцыі, то ім не хапае больш глыбокага разумення грамадска-палітычных працэсаў у нашай краіне і ва ўсім свеце агулам. Да таго ж імітацыя дзейнасці — іх галоўная хвароба. Яны чамусьці думаюць, што гальштукі ды банкеты дапамогуць беларускаму народу ў барацьбе за сваё права на існаванне. Апазіцыйныя моладзь разам са сваімі старэйшымі палітыкамі не бачыць сутнасць праблемаў. Таму і топчуцца на месцы 20 гадоў, да таго ж маючы моцны фінансавы рэсурс.

А сутнасць праблем на паверхні. Разумееце, справа ў тым, што ісціна настолькі простая і лагічная, што за яе нават крыўдна. Крыўдна за тое, што яе не жадаюць бачыць, ад яе адмаўляюцца, яе зневажаюць і знішчаюць. Людзі забыліся пра сапраўдную дабрадзейнасць — ахвярнасць і альтруізм. На наш погляд, гэта асноўныя мэты зямнога існавання — аддаваць сябе іншаму. У каханні, сяброўстве. Гэта не новае выйсце, гэта лагічны працяг эвалюцыі чалавецтва.

### Культурны генацыд — шлях да акупацыі

***— У «Пошугу» ёсць ворагі акрамя гарэлкі, цыгарэтаў і наркотыкаў?***

— Грамадскае жыццё апанаваў летаргічны сон, які ахоўваюць жандары, законы, рэлігія ды бязглуздыя ўстаноўкі паводзінаў. Мы не прызнаем гэтую антычалавечную сістэму, што ўсталявалася ва ўсім свеце. Прызнаць яе — значыць пагадзіцца з існуючым парадкам рэчаў. Гэта непрымальна. Таму галоўны вораг — капіталістычная сістэма. Усе астатняе — толькі яго памагатыя.

***— Хваля ўкраінскіх падзеяў неяк закранула «Пошуг»?***

— Мы канчаткова зразумелі, што той культурны генацыд, які зараз мы бачым у Беларусі, прывядзе да поўнай (ужо фізічнай) акупацыі з боку ўсходняй імперыі. То бок трэба ўсвядоміць, што для імперцаў акупацыя іншых народаў — гэта альфа і амега, святы грааль і сэнс існавання.

***— Вы існуеце з 2013 года. Папярэднія вынікі дзейнасці падводзіць яшчэ рана?***

— Для каго? Для тых, хто ў інтэрнэце спрабуе на нас выліць цэбры бруду? Нам не трэба ўхвала і прызнанне. Не варта хлопаць нас па плячы, суправаджаючы гэта ліслівымі словамі. Мы ўжо ўспыхнулі як зарыва і глядзім скрозь час. А знаўцы актывізму і абываталі — усяго толькі ўладары ўяўнага царства прыгажосці і гармоніі. Іх сляпое шчасце — гэта ўцёкі ў ілюзорнае. Той самы эскапізм, пра які мы заўсёды кажам. Але ад свету не трэба бегчы, яго варта змяняць!

### Падзел на левых і правых — састарэлы і неактуальны

***— Як ставіцеся да падзелу на левых і правых у моладзевых дзвіжах?***

— Гэта псеўдапалітыканства. Калі капнуць глыбей, то можа апынуцца, што левыя — насамрэч правыя па сваіх поглядах, а правыя — левыя. Смешна назіраць, як людзі ў саколках «Goodnight Leftside!» («Дабранач, левакі!» —папулярны правы лозунг — рэд.) адзначаюць Дзень Волі і шануюць дзеячаў БНР, якія самі былі левакамі. Большасць з іх — не больш чым аблудлыя душы, якія самі не разумеюць, чаго дамагаюцца.

Да таго ж лічым падобную класіфікацыю састарэлай і неактуальнай. Мы выступаем супраць аўтарытарных арганізацыяў і рухаў з абодвух бакоў. Мы стаім на антыаўтарытарных пазіцыях — супраць этатызму, шавінізму, прыгнёту, іерархіяў ды падобных шкодных дэструкцыяў, і гатовыя да супрацы з усімі, хто падзяляе гэткія пазіцыі.

***— Ці могуць аб'ядняцца хлопцы, якія шануюць Пагоню, бел-чырвона-белы сцяг і мову, злева і справа, напрыклад, для адстойвання незалежнасці?***

— Магчыма, перад тварам большага ворага варта спыніць наўпроставыя сутыкненні ды разборкі, але яднацца з ідэалагічнымі апанентамі ў нейкія агульныя структуры не варта. Зыходзячы з досведу Украіны, можна казаць, што на пэўным этапе такія рухі на мінімальным узроўні могуць не перашкаджаць адзін аднаму. Аднак канчатковыя мэты ў іх дыяметральна супрацьлеглыя, таму размаўляць пра нейкае яднанне ці супрацоўніцтва нельга, бо свабода для адных разглядаецца праз прызму рабства іншых.

# TV

## 27 КАСТРЫЧНІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**12.10** Фантастычны трылер «Забытае» (ЗША).
**13.40, 15.25** Меладрама «Вецер у твар» (Расія). 1-я - 4-я серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.40** Дзень спорту.
**00.55** Фантастычны трылер «Забытае» (ЗША).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Справа прынцыпу».
**22.15** «Картахена». Мастацкі фільм.
**00.00** Вячэрні Ургант.
**00.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.40** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** «Зорны рынг. Бітва хітоў».
**15.45** «Дарагая перадача».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Дзіўная справа».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Магілёўская вобласць.
**20.20** Фільм «Цмокі назаўжды» (Ганконг, 1988).
**22.10** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Тыдзень спорту».
**23.30** «Ваенная таямніца».

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** Тэлебарометр.
**10.40** Мастацкі фільм «На залатым ганку сядзелі» (СССР).
**11.55** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія).
**13.45** Камедыйны баявік «Дыяментавы паліцэйскі» (ЗША - Германія).
**15.30** «Comedy Баттл. Без межаў» (Расія). Забаўляльная шоу-праграма (Расія).
**16.40** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** Кено.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**22.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**23.45** Хачу ў тэлевізар!.
**23.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.25** «Халі-галі». Скетч-шоў.

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!». Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Дыя@блог P.S.».
**08.40** Сусветнае кіно. «Целааховўнік Тэс».
**10.15** «Расклад на паслязаўтра». Маст. фільм.
**11.40** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння мастацкага фільма «Расклад на паслязаўтра».
**12.05** «Калейдаскоп».
**12.20** «Паветраны рамізнік». Мастацкі фільм.
**13.35** «Камертон». Музычны і тэатральны крытык Ларыса Барыкіна.
**14.00** «І з горкіх кветак пчала прыносіць мёд». Дакументальны фільм пра людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі.
**14.55** «Спрадвечнае». Абрад «Вялікдзень. Валачобніцтва».
**15.05** «І смех, і бяда». Кароткаметражны фільм.
**15.50** Мультфільмы.
**16.40** «Выкрасці Бельмандо». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**17.35** «Ляўша». Мастацкі фільм.
**19.00** «Калейдаскоп».
**19.20** «Тэкумзе». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.05** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**21.55** «Дыя@блог P.S.».
**22.25** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**22.50** «Подых струн». Музычная праграма.
**23.30** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Бэрнлі» - «Эвертан».
**09.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Манчэстэр Юнайтэд» - «Чэлсі».
**11.40** Тэніс. Турнір ВТА. Выніковы турнір. Фінал.
**13.45** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Тотэнхэм» - «Ньюкасл».
**15.35** Баскетбол. Чэмпіянат свету. Жанчыны. Фінал. Іспанія - ЗША.
**17.25** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Шахцёр» (Салігорск) - «Дынама» (Мінск). Прамая трансляцыя.
**19.25** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Амур» (Хабараўск). Прамая трансляцыя.
**21.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**22.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. КПР - «Астан Віла». Прамая трансляцыя.
**00.55** Час футболу.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.35** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**08.05** Два на два (тэледыскусія): Р. Кастусёў і А. Дзмітрыеў: Кангрэс за незалежнасць.
**08.40** Невядомая Беларусь: «Пашпарт для беларуса», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**09.10** «Mad Men. Утрапёныя-ІІ», серыял.
**10.00** Дакументальная гадзіна: «Украіна. Пункт адліку», дак. фільм, 2011 г., Украіна.
**11.30** Гісторыя пад знакам Пагоні: Усебеларускі з'езд 1917 года.
**11.45** ПраСвет.
**12.20** Эксперт (сатырычная праграма).
**12.45** Невядомая Беларусь: «Пашпарт для беларуса», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**13.20** «Папросту разам», драма, 2007 г., Францыя.
**15.00** Дакументальная гадзіна: «Украіна. Пункт адліку», дак. фільм, 2011 г., Украіна.
**16.35** «Mad Men. Утрапёныя-ІІ», серыял.
**17.20** «Час гонару», серыял.
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**19.00** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Дэвайс.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.55** Асабісты капітал.
**22.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Ганна Хітрык.
**22.50** «Папросту разам», драма, 2007 г., Францыя.
**00.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.00** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**01.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.00** Аб'ектыў.
**02.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

## 28 КАСТРЫЧНІКА, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Прэм'ера! Крымінальная меладрама «Усё спачатку» (Расія). 1-я серыя.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.15** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.40** Вечар цяжкага дня.
**00.35** Сфера інтарэсаў.
**01.10** Дзень спорту.
**01.25** Крымінальная меладрама «Усё спачатку» (Расія). 1-я серыя.

### Н

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**10.00** «Жыць здорава» .
**10.25** Кантрольная закупка.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом з лілеямі». Тэлесерыял.
**23.10** Мастацкі фільм «Карыялан».
**01.15** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Магілёўская вобласць.
**09.05** «Тыдзень спорту».
**09.35** «Такі лёс».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!» .
**13.50** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Магілёўская вобласць.
**13.55** СТВ прадстаўляе: «Спяваючыя гарады». Кастынг-шоў. Гомельская вобласць.
**15.35** «Татальная распродаж».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Чатыры вяселлі».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Магілёўская вобласць.
**20.20** Фільм «Па-вар'яцку закаханы» (Італія).
**22.20** «Глядзець усім!» .
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТВ прадстаўляе: інтэлект-шоу «Разумней не прыдумаеш».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Рэха з мінулага». Серыял.

### 2 Беларусь

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.15** Кіпень.
**10.35** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**11.40** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**12.45** Ікра.
**13.20** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**15.35** «Comedy woman». Гумарыстычная шоу-праграма (Расія).
**16.40** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** Кено.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**22.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2» (Расія-Украіна).
**23.45** Хачу ў тэлевізар! .
**23.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.25** «Халі-галі». Скетч-шоў.

### 3 Беларусь

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Ляўша». Мастацкі фільм.
**09.40** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**10.05** «Чорны замак Альшанскі». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**12.10** «Легенды кіно». Гісторыя стварэння фільма «Чорны замак Альшанскі».
**12.25** «Свята далёкай зоркі». Памяці опернага спевака, народнага артыста СССР Мікалая Ворвулева.
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.05** Канцэрт аркестра нацыянальных інструментаў «Терема» (World Music Concert (аркестр «Терема»).
**15.10** «Актрыса». Дакументальны фільм пра творчасць заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Святланы Сухавей.
**15.35** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**16.05** Мультфільмы.
**16.20** «Выкрасці Бельмандо». Мастацкі фільм. 3-я серыя.
**17.10** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**17.35** «Кар'ера Дзімы Горына». Мастацкі фільм.
**19.10** «Калейдаскоп».
**19.30** «Падлетак». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.00** «Падлетак». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**22.15** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.40** «Падлетак». Мастацкі фільм. 3-я серыя.
**23.50** «Свята далёкай зоркі». Памяці опернага спевака, народнага артыста СССР Мікалая Ворвулева.
**00.20** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**08.55** Футбол. Чэмпіянат Англіі. КПР - «Астан Віла».
**10.45** Час футболу.
**11.25** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Амур» (Хабараўск).
**13.20** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Шахцёр» (Салігорск) - «Дынама» (Мінск).
**15.05** Баі без правіл. Фінал чэмпіянату свету па ММА.
**18.25** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Юнацтва» (Мінск) - «Дынама» (Маладзечна). Прамая трансляцыя.
**20.40** Спорт-кадр.
**21.10** Тэніс. Турнір ВТА. Кубак Крамля. Фінал.
**23.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. «Сандэрлэнд» - «Арсенал».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.25** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Ганна Хітрык.
**11.20** «Хітрыкі», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**12.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**13.25** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**13.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.25** Аб'ектыў.
**14.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**16.20** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**16.40** Эксперт (сатырычная праграма).
**17.10** «Час гонару», серыял.
**18.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Суб'ектыў.
**19.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Два на два (тэледыскусія): Зянон Пазняк і Алег Трусаў: Якія высновы з падзеяў ва Украіне мусяць зрабіць улады Беларусі, эліта і апазіцыя?.
**22.20** Без рэтушы: «Анёлы». Пошукі будучь працягвацца», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**22.35** «Украіна. Пункт адліку», дак. фільм, 2011 г., Украіна.
**00.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.35** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.30** Аб'ектыў.
**01.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

TV

## 29 КАСТРЫЧНІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Меладраматычны серыял «Такое звычайнае жыццё» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Крымінальная меладрама «Усё спачатку» (Расія). 2-я серыя.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.20** Сфера інтарэсаў.
**01.00** Дзень спорту.
**01.10** Крымінальная меладрама «Усё спачатку» (Расія). 2-я серыя.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!» .
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом з лілеямі». Тэлесерыял.
**23.10** Легенды Live.
**23.50** Вячэрні Ургант.
**00.30** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Магілёўская вобласць.
**09.05** «Мінск і мінчане».
**09.35** «Цэнтральны рэгіён».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!» .
**13.50** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Магілёўская вобласць.
**13.55** Фільм «Па-вар'яцку закаханы» (Італія).
**15.45** «Татальная распродаж».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Чатыры вяселлі».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Магілёўская вобласць.
**20.20** Фільм «Час радасці» (Расія, 2008 г.).
**22.10** «Глядзець усім!» .
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.00** «Сардэчна паскардзіцца».
**00.20** «Рэха з мінулага». Серыял. Закл. серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Сашка».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**11.55** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**13.00** Вышэй за дах.
**13.35** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**15.50** Рэпарцёр.
**16.45** Меладраматычны серыял «Сашка».
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** Кено.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**22.50** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2».
**23.50** Хачу ў тэлевізар! .
**23.55** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.25** «Халі-галі». Скетч-шоў.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.15** «Падлетак». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**09.30** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**09.55** «Падлетак». Мастацкі фільм. 2-3 серыі.
**12.25, 00.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці першага мастацкага кіраўніка Тэатра юнага гледача Любові Мазалеўскай.
**12.50** «Калейдаскоп».
**13.05** «Музей Вялікай Айчыннай вайны». Часткі 1-я і 2-я.
**14.05** «Наперад у мінулае».
**14.30** «Камертон». Рэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Віктар Клімчук.
**14.55** «Навукаманія». Нанатэхналогіі.
**15.30** Мультфільмы.
**16.20** «Выкрасці Бельмандо». Мастацкі фільм. 4-я серыя.
**17.10** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**17.35** «Славянскі базар у Віцебску-2011». Канцэрт, прысвечаны юбілею Дзяржаўнага акадэмічнага рускага народнага хору імя М.Пятніцкага.
**19.15** «Калейдаскоп».
**19.35** «Падлетак». Мастацкі фільм. 4-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Падлетак». Мастацкі фільм. 5-я серыя.
**22.25** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.50** «Падлетак». Мастацкі фільм. 6-я, заключная серыя.
**00.30** «Калейдаскоп».

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. БГК ім. Мяшкова (Беларусь) - ПСЖ (Францыя).
**09.35** Хакей. Чэмпіянат Беларусі. «Юнацтва» (Мінск) - «Дынама» (Маладзечна).
**11.25** Козел пра футбол.
**11.40** Гандбол. ЧС-2015. Плэй-оф. Мужчыны. Беларусь - Чарнагорыя.
**13.05** Воднае пола. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Фінал.
**14.20** Воднае пола. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Фінал.
**15.30** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**16.25** Гандбол. ЧЕ-2016. Кваліфікацыя. Мужчыны. Беларусь - Боснія і Герцагавіна. Прамая трансляцыя.
**18.20** Спорт-кадр.
**18.55** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Адмірал» (Уладзівасток). Прамая трансляцыя.
**21.10** Гандбол. ЧЕ-2016. Кваліфікацыя. Мужчыны. Беларусь - Боснія і Герцагавіна.
**22.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. БАТЭ (Барысаў) - «Шахцёр» (Данецк).

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 07.55, 08.50, 12.30, 13.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Рэпартэр.
**08.25** Аб'ектыў.
**10.10** Два на два: Зянон Пазняк і Алег Трусаў: Высновы з падзеяў ва Украіне.
**10.45** Без рэтушы: «Анёлы». Пошукі будучь працягвацца», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**11.00** «Ранча», серыял.
**11.50** Беларусы ў Польшчы.
**12.05** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.00** Рэпартэр.
**14.00** Аб'ектыў.
**14.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.45** Два на два: Зянон Пазняк і Алег Трусаў: Высновы з падзеяў ва Украіне.
**16.20** Без рэтушы: «Анёлы». Пошукі будучь працягвацца», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**16.35** «Царква на мяжы», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**17.00** Гісторыя пад знакам Пагоні: Усебеларускі з'езд 1917 года.
**17.15** Беларусы ў Польшчы.
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.55** Зоры не спяць: Ганна Хітрык.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Стыль.
**18.55** Асабісты капітал.
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Францішак Багушэвіч.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**22.05** Чорным па белым.
**22.35** «Лонданцы ІІ», серыял.
**23.20** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.15** Асабісты капітал.
**00.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Францішак Багушэвіч.
**00.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.20** Аб'ектыў.
**01.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

## 30 КАСТРЫЧНІКА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!.
**07.00, 08.00 (з сурдаперакладам), 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Навіны эканомікі.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**11.05** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.00** Серыял «Такое звычайнае жыццё».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёну.
**15.25** Крымінальная меладрама «Усё спачатку» (Расія). 3. Серыя.
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы-2».
**17.30** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.15** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Доўгі шлях дадому».
**21.00** Панарама.
**21.45** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.40** Вечар цяжкага дня.
**00.35** Сфера інтарэсаў.
**01.10** Дзень спорту.
**01.20** Крымінальная меладрама «Усё спачатку» (Расія). 3. Серыя.

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!» .
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.15** «Сам-насам з усімі».
**15.15** «Час пакажа».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Зайцаў + 1».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Дом з лілеямі». Тэлесерыял.
**23.15** «Ежа, дарога, рок-н-рол».
**00.05** Мастацкі фільм «Шчаслівыя разам».
**01.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Магілёўская вобласць.
**09.05** «Прыгоды дылетанта».
**09.40** «Далёкія сваякі».
**10.05** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Званая вячэра».
**11.35** «Сямейныя драмы».
**12.35** «Не хлусі мне!» .
**13.50** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Магілёўская вобласць.
**13.55** Фільм «Час радасці» (Расія, 2008г.).
**15.40** «Татальная распродаж».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Чатыры вяселлі».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Спяваючыя гарады». Дзённік. Магілёўская вобласць.
**20.20** Фільм «Разбуральнік» (ЗША, 1993 г.).
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ганна Чапман і яе мужчыны».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Вялікія таямніцы акіяну».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Сашка» (Украіна).
**10.10** Беларуская кухня.
**10.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2» (Расія - Украіна).
**11.55** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**13.15** Кіпень.
**13.35** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**15.50** «Перазагрузка». Маладзёжнае ток-шоў.
**16.40** Серыял «Сашка» (Украіна).
**17.50** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.50** Камедыйны серыял «Універ» (Расія).
**20.55** Рэальны свет.
**21.25** Кено.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Авантурна-камедыйны серыял «Віртуозы» (Вялікабрытанія).
**22.45** Вострасюжэтны баявік «Кулінар-2» (Расія - Украіна).
**23.55** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.25** «Халі-галі». Скетч-шоў.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.15** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!» Навукова-папулярны відэачасопіс для дзяцей.
**08.00, 12.50, 18.45, 00.30** «Калейдаскоп».
**08.15** «Падлетак». Мастацкі фільм. 4-я серыя.
**09.25** «СССР - музыка пад забаронай». Уладзімір Высоцкі.
**09.50** «Падлетак». Мастацкі фільм. 5-я і 6-я, заключная серыі.
**12.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці беларускага скульптара, народнага мастака БССР Андрэя Бембеля.
**13.00** Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі В.Дудкевіча і Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г.І.Цітовіча.
**14.20** «Наперад у мінулае».
**14.45** «Гармонік». Кароткаметражны фільм.
**15.45** «Спрадвечнае». Абрад «Масленка».
**16.00** Мультфільмы.
**16.45** «Выкрасці Бельмандо». Мастацкі фільм. 5-я серыя.
**17.35** «Азёрная Адысея». Браслаўскае Паазер'е.
**18.05** «Подых струн». Музычная праграма.
**19.00** «Вірынея». Мастацкі фільм.
**20.45** Калыханка.
**21.10** «Крэйцарава саната». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**23.40** «СССР - музыка пад забаронай». Уладзімір Высоцкі.
**00.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці беларускага скульптара, народнага мастака БССР Андрэя Бембеля.

### 5 БЕЛАРУСЬ

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**08.00** Тэніс. Турнір ВТА. Выніковы турнір. Паўфінал.
**10.05** Хакей. КХЛ. «Дынама» (Мінск) - «Адмірал» (Уладзівасток).
**12.00** Гандбол. ЧЕ-2016. Кваліфікацыя. Мужчыны. Беларусь - Боснія і Герцагавіна.
**13.25** Тэніс. Турнір ВТА. Выніковы турнір. Паўфінал.
**15.30** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. ПСЖ (Францыя) - «Барселона» (Іспанія).
**17.25** Хакей. КХЛ. «Югра» (Ханты-Мансійск) - «Дынама» (Мінск).
**19.20** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. «Дынама» (Мінск) - «Генгам» (Францыя).
**21.15** Авертайм.
**21.45** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**21.40** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Гомель» - «Дынама» (Мінск).

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**07.25** Асабісты капітал.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Францішак Багушэвіч.
**08.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Аб'ектыў.
**08.50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** Чорным па белым.
**11.05** «Лонданцы ІІ», серыял.
**11.50** Гісторыя пад знакам Пагоні: Усебеларускі з'езд 1917 года.
**12.00** «Царква на мяжы», рэпартаж, 2010 г., Польшча.
**12.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**12.55** Асабісты капітал.
**13.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Францішак Багушэвіч.
**13.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.00** Аб'ектыў.
**14.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.10** Чорным па белым.
**16.35** «Ранча», серыял.
**17.25** «Лонданцы ІІ», серыял.
**18.10** Без рэтушы: «Анёлы». Пошукі будучь працягвацца», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**18.30** Навіны.
**18.40** Агляд медыяў.
**18.45** Каментар эксперта.
**18.50** Профіль пакалення.
**18.55** Два на два: Зянон Пазняк і Алег Трусаў: Высновы з падзеяў ва Украіне.
**19.30** Навіны.
**19.35** Свет.
**19.50** Агляд падзеяў культуры.
**20.00** Навіны.
**20.10** Агляд медыяў.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Навіны.
**20.35** Гарачы каментар.
**20.50** Сальда (эканамічная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**21.45** Рэпартэр.
**22.15** Відзьмо-невідзьмо.
**22.40** Невядомая Беларусь: «Пашпарт для беларуса», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**23.10** «Праз прыцэл і аб'ектыў», дак. фільм, 2010 г., Грэцыя.
**00.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**00.35** Два на два: Зянон Пазняк і Алег Трусаў: Высновы з падзеяў ва Украіне.
**01.05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.35** Аб'ектыў.
**01.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

Новы Час | 24 кастрычніка 2014 | № 40 (409) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 10 (98)



# Літаратурная Беларусь

Выпуск №10 (98)
(кастрычнік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

## Змест

**НАВІНЫ:** асноўныя падзеі грамадска-літаратурнага жыцця Беларусі ... с. 2
**УСПАМІН:** 10 гадоў без Міколы КУПРЭЕВА ... с. 3
**ПАМЯЦЬ:** вянок згадак пра Анатоля СЫСА ... с. 4
**ПАЭЗІЯ:** вершы Фелікса БАТОРЫНА ... с. 5
**ПРОЗА:** пралог і эпілог новай аповесці Аляксея ФІЛАТАВА ... с. 6
**ПАЭЗІЯ:** «Пісьмёны лёсу» Рыгора СІТНІЦЫ ... с. 7
**ЧЫТАЛЬНЯ:** старонкі рамана «Эпоха звера» Сяргея ВЕРАЦІЛЫ ... с. 8–9
**ФОРУМ:** вершы Алены ГІНЬКО, Андрэя КОЗЕЛА і Таццяны ПАЛХОЎСКАЙ ... с. 10
**ПЕРАКЛАДЫ:** скарбы нямецкай лірыкі ад Алеся КАСКО ... с. 11
**ЭСЭ:** падарожныя нататкі Ганны ЯНКУТА «Мальтыйская цішыня» ... с. 12–13
**ДЗЕЦЯМ:** вершаванкі Уладзіміра СІЎЧЫКАВА ... с. 14
**КРЫТЫКА:** Леанід ГАЛУБОВІЧ пра новую кнігу Алеся КАСКО ... с. 15
**СВЕТ:** навіны літаратурнага замежжа ... с. 16

# Паміж берагамі

## ГІСТАРЫЧНАЯ СВЯДОМАСЦЬ БЕЛАРУСАЎ

Ірына ХАДАРЭНКА

**Адзін з найбольш вядомых парадоксаў логікі, аўтарства якога належыць Гегелю, сцвярджае: «Гісторыя навучае толькі таму, што яна ніколі так і не навучыла чаму-небудзь народы».**

Гэта ў поўнай меры мае дачыненне і да беларусаў, якія ў працяглым і пакуль не завершаным працэсе станаўлення нацыі вучацца вельмі марудна, без асаблівай ахвоты, а часам і наогул ігнаруючы разнастайныя прыклады з уласнай гісторыі. Толькі выпрасталіся з кіпцюроў Расійскай імперыі — і адразу ж захраслі ў таталітарнай дрыгве Савецкага Саюза, не паспелі як след ачомацца ад нечаканага шчасця ў выглядзе здабыцця незалежнасці — і галава ўжо пнецца ў хамут ЕўраАзЭС. Але больш за ўсё выклікае здзіўленне тое, што замест пераасэнсавання гістарычных працэсаў, якога цяжка было б патрабаваць ад простых грамадзян, рэакцыя палітычных элітаў амаль нічым не адрозніваецца ад рэакцыі плебса і зводзіцца да ўпадабанай тактыкі: «А можа, так і трэба?»

Гістарычнае мысленне беларусаў можна аднесці да так званага «рэверсіўнага», якое прапануе соцыўму неаднаразова «наступаць на адны і тыя ж граблі», каб канчаткова пераканаць у бесперспектыўнасці вырашэння новых праблем пры дапамозе старых сродкаў.

Асаблівасці гістарычнага мыслення наўпрост уздзейнічаюць не толькі на фарміраванне гістарычнай свядомасці і трываласць гістарычнай памяці народа, але і на гістарычны выбар, які ім здзяйсняецца. І тут можна ўгледзець пэўную аналогію з тэзісам французскага культуролага К. Леві-Строса, які падзяляў грамадствы на «халодныя» і «гарачыя»; для першых уласціва «нулявая чуллівасць да гістарычнага развіцця», шанаванне стабільнасці і добраўпарадкаванасці сацыяльных стасункаў, у той час як у другіх «унутраная тэмпература няспынна змяняецца», а гісторыя становіцца чымсьці кшталту рухавіка развіцця.



Фота Дзмітрыя Брушко

**Сёння сэнсавая напоўненасць канцэпту нацыянальнай ідэі паранейшаму працягвае боўтацца паміж двума берагамі: ад «мы, беларусы, з братняю Руссю» да «наш народ заўсёды пакутаваў ад маскальскага прыгнёту**

Адказнасць за фарміраванне гістарычнай свядомасці той ці іншай нацыі варта ўскладаць не толькі і не столькі на прафесійных гісторыкаў, колькі на пасіянарную частку грамадства, а таксама тых асобаў, якія вызначаюць кірунак культурнай палітыкі ў дзяржаве.

Калі абывацеля хвалюе пытанне асвятлення ва ўласным жытле, ён наўрад ці самастойна будзе паглыбляцца ў схемы электраправодкі, даручыўшы гэтую справу спецыялістам. Гэтак жа і гістарычная памяць (існаванне абсалютнай аб'ектыўнасці ў якой наогул можна паставіць пад вялікі сумнеў, бо кожны з аўтараў гістарычных канцэпцый так ці інакш дзейнічае ў межах пэўнага ідэалагічнага ракурсу) — закліканая выступаць інструментам мацавання нацыянальнай свядомасці, яна рэдка засяроджваецца на дэталях, аддаючы перавагу разуменню агульнай карціны падзей мінуўшчыны. Апошняя, у сваю чаргу, малюецца фарбамі, змешчанымі ў палітры, створанай дзяржаўнымі інстытутамі разам з грамадзянскай супольнасцю.

Значна ўплывае на дзейсную сітуацыю і тое, што мноства гісторыкаў насамрэч стварае не столькі летапіс сапраўдных падзей, колькі калянавуковае фэнтэзі. Напрыклад, апалагеты лозунга «Расія, Украіна, Беларусь — усё гэта Святая Русь» часта ў якасці абгрунтавання сваёй апантанасці абапіраюцца акурат на факты «агульнай» гісторыі. У айчынных рэаліях прыходзіцца ўжо мяжвалі канстатаваць, што ў галіне шчыльнага «супрацоўніцтва» з гісторыкамі адэпты заходнерусізму, які наогул варта было б прыраўняць да экстрэмізму або нават сектанцтва, значна апярэджваюць тых, хто спрабуе прадстаўляць грамадскасці нацыянальнаарыентаваны падыход да гістарычнай спадчыны.

Плён дзейнасці імперскіх ідэолагаў, нібы нафтавая пляма, актыўна распаўзаецца па медыяпрасторы, ствараючы адпаведны эфект у масавай свядомасці. Значнасць такіх падзей, як Грунвальдская бітва або бітва пад Оршай, наўмысна змяншаецца, каб увесь прапагандысцкі імпэт скіраваць на перамогу ў Другой сусветнай вайне і далейшай пабудове дзяржаўнасці пад «чулым кіраўніцтвам» з боку «старэйшага брата». Не кажучы ўжо пра тое, што ў Беларусі няма месцаў памяці, дзе чалавек мог бы ўзгадаць пра дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі, якія шмат рабілі дзеля таго, каб наша краіна была незалежнай. Таксама ў Мінску адсутнічае помнік Кастусю Каліноўскаму, прызнанаму на дзяржаўным узроўні яшчэ ў савецкія часы. Няма ў Беларусі манументаў і дзеячам БССР, нацыянал-бальшавікам Змітру Жылуновічу і Аляксандру Чарвякову, якія спрычыніліся да абвяшчэння Савецкай Беларусі, адыгралі выключную ролю ў палітыцы беларусізацыі ў 1920-х гадах. Замест гэтага мы маем мноства помнікаў «сакральнай каровe» камуністычнай ідэалогіі — Леніну.

Сталічныя кіраўнікі дагэтуль не могуць (ці хутчэй, не хочуць) усталяваць годны мемарыяльны комплекс у Курапатах або прынамсі забяспечыць належную ахову тэрыторыі, але затое яны ахвотна гатовыя — за велізарны замежны грант, вядома — далучыцца да маштабнага пераўтварэння месца памяці ў вёсцы Малы Трасцянец, дзе нават немагчыма ўстанавіць дакладную колькасць ахвяраў (пераважна пахаваных, дарэчы, зусім не там, а побач, на месцы цяперашняга гарадскога сховішча смецця). Апроч таго, у апошнія гады пайшла завядзёнка паўсюдна ўзводзіць помнікі прадстаўнікам рускай праваслаўнай царквы. Прычым на адкрыцці гэтых помнікаў, як правіла, прысутнічаюць і радасна пляскаюць у далоні тыя, хто яшчэ ўчора бавіў час на сходках камсамольскіх актываў, быў непрыхаваным атэістам і актыўным барацьбітом з «рэлігійным цемрашальствам».

Таму не дзіўна, што сёння сэнсавая напоўненасць канцэпту нацыянальнай ідэі па-ранейшаму працягвае боўтацца паміж двума берагамі: ад «мы, беларусы, з братняю Руссю» да «наш народ заўсёды пакутаваў ад маскальскага прыгнёту», а становішча з нацыянальна-арыентаванай беларускай элітай трапна акрэслена Сяргеем Дубаўцом: «сем суполак па сем чалавек». Усеабдымны посткаланіяльны цень на гістарычнай свядомасці большасці суайчыннікаў перашкаджае ганарыцца тым, што менавіта нашы продкі былі першапачынальнікамі партызанскага руху, вынаходнікамі шматступеннай ракеты і рэактыўнай авіяцыі, заснавальнікамі магутнага прататыпу Еўрапейскага Саюза ў выглядзе ВКЛ, фундатарамі аднаго з найстарэйшых у свеце запаведнікаў «Белавежская пушча», стваральнікамі сарматызму і супрэматызму ў мастацтве.

Святкаванне 70-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў рэзка кантрастуе з поўнай адсутнасцю цікавасці да 500-годдзя бітвы пад Оршай з боку афіцыйных структур. Яно і зразумела: гэтая дата вельмі «нязручная» для гістарычнага іміджу ўсходняга суседа, які прызвычаіўся з кожнай шчылінь крычаць пра свае вялікія перамогі і адначасова «забываць» пра не менш вялікія паразы. І ў гэтым прасочваецца непрыхаваны і досыць сур'ёзны выклік для нас, беларусаў. Бо пакуль мы будзем з мазахісцкай радасцю працягваць эксплуатаваць вобраз надзвычай памяркоўнага народа, які выжыў у мностве войнаў і вытрымаў шмат гора і пакут, — жыць па-сапраўднаму, з годнасцю, вольна і на поўную моц наша краіна будзе хіба толькі ў папулярных, і, што таксама сімвалічна, фактычна забароненым сёння заклiку: «Жыве Беларусь!».


Сустрэча ў школе № 144

# Ульф Нільсан і маленькія беларусы

**«Я баюся акулы», «Я баюся цемры», «Я баюся вышыні», «Я баюся заставацца адна дома» — васьмі-дзевяцігадовыя маленькія беларусы прызнаваліся шведскаму пісьменніку Ульфу Нільсану ў тым, што палохае іх найбольш, і малявалі пра гэта малюнкі, каб перамагчы свае страхі...**

Ульф Нільсан – дзіцячы пісьменнік, аўтар кнігі «Найлепшы спявак у свеце», якая нядаўна выйшла па-беларуску ў серыі СБП «Каляровы ровар». Кніга расказвае пра тое, як хлопчык навучыўся не баяцца выступаць на сцэне. Ульф часта працуе са складанымі тэмамі ў сваіх кнігах, страх — адна з іх. Паразумецца з беларускімі чытачамі дапамагала аўтару перакладчыца кніжкі са шведскай Алеся Башарымава.

Сустрэчы, арганізаваныя Саюзам беларускіх пісьменнікаў, прайшлі другога і трэцяга кастрычніка ў 144-й школе у Соснах, Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы і ў Заслаўскай гімназіі. Іх мадэратарам выступіла беларуская дзіцячая пісьменніца Алена Масла.

Разам з Ульфам Нільсанам у Мінск прыехала прадстаўніца Шведскага саюза пісьменнікаў Ан Вікстром. Дзеці і госці задавалі адно аднаму пытанні, гаварылі пра кніжкі, пра тое, як бавяць дзень малодшыя школьнікі ў Швецыі і Беларусі, і нават спявалі песні.

Беларускім чытачам Ульф расказаў пра тое, як працуюць пісьменнікі і як можна самім зрабіць пісьменнікам, склаўшы кніжку з малюнкамі.

Калі не вялікую, то маленькую, хаця б зусім-зусім маленькую.

На памяць пра сустрэчу ў Соснах Ульфу падарылі малюнкі з выставы паводле ягонай кнігі.

Затым у памяшканні кнігарні «Галіяфы» прайшла сустрэча Ульфа Нільсана з беларускімі пісьменнікамі і перакладчыкамі, прысвечаная стану дзіцячай літаратуры ў Швецыі і Беларусі, яе ролі ў грамадстве, супрацы пісьменнікаў са школамі, а таксама складаным тэмам у літаратуры для дзяцей. З беларускага боку ўдзельнічалі Раіса Баравікова, Алеся Башарымава, Вольга Гапеева, Надзея Кандрусевіч, Алена Масла, Серж Мінскевіч, Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Аксана Спрынчан. Мадэравала сустрэчу Юлія Цімафеева.

**Алена Казлова**


Алеся Башарымава і Ульф Нільсан

## ЛІСТАПАДАЎСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

Аляксандр Іосіфавіч Фядута (нар. 03.11.1964)
Алесь (Аляксандр) Пятровіч Рыбак (нар. 07.11.1934)
Міхаіл Аляксеевіч Карпечанка (14.11.1959)

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!



# Паседжанне Рады СБП

**Адбылося чарговае паседжанне Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». На ім былі разгледжаны заявы кандыдатаў на ўступленне ў пісьменніцкую арганізацыю.**



На паседжанні прысутнічалі сябры Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў і кіраўнікі яго абласных аддзяленняў. Была абмеркавана падрыхтоўка літаратурных альманахаў «Ратуша» (Віцебск), «Жырандоля» (Берасце), «Палац» (Гомель), «Новы Замак» (Горадня) і «Брама» (Магілёў), а таксама разгледжаны іншыя пытанні дзейнасці абласных аддзяленняў.

Быў заслуханы даклад, зроблены па выніках сацыялагічнага даследавання, прысвечанага маніторынгу культуры чытання ў Рэспубліцы Беларусь.

Паводле тайнага галасавання сябрамі Саюза беларускіх пісьменнікаў сталі Мікалай Аляхновіч, Мікола Мілаш, Іван Сачук і Сяргей Шапран.



**Мікалай Аляхновіч** нарадзіўся 14 студзеня 1953 года ў вёсцы Валішча Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута (1974). Лінгвіст, кандыдат філалагічных навук (1983), дацэнт. За час працы на факультэце працаваў намеснікам дэкана, дэканам філалагічнага факультэта, у 1993—1995 гг. працаваў на кафедры ўсходнеславянскай і балтыйскай філалогіі факультэта гуманітарных навук Будапешцкага ўніверсітэта імя Лоранда Этвеша (Венгрыя). З ліпеня 2013 года — дацэнт на кафедры беларускага мовазнаўства і дыялекталогіі БрДУ імя Пушкіна.

Займаецца навукова-даследчыцкай і літаратурнай дзейнасцю. Аўтар вершаваных зборнікаў «Жыццёвае веры прадзіва» (2006), «Святло дарогі» (2010), кнігі перакладаў «Такая тонкая размовы ніць» (2013).



**Мікола Мілаш** (сапр. Мікалай Лазаравіч Шаравар) нарадзіўся 26 снежня 1936 года ў вёсцы Дамантовічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі лесатэхнічны тэхнікум (1958). Пасля службы ў арміі вучыўся ў Ленінградскай лесатэхнічнай акадэміі, скончыў вячэрні ўніверсітэт пры Петразаводскім лесатэхнічным тэхнікуме. У 1968 годзе вярнуўся ў Беларусь, у Салігорск, дзе жыве і па сёння.

Аўтар шасці кніг: «На хвалі Адраджэння» (2009), «На скрыжалях часу» (2011), «На ветразях Хрыстовай веры» (2011), «У пошуках Арыяднінай ніці» (2013), зборніка паэзіі і некалькіх навуковых трактатаў.



**Іван Сачук** нарадзіўся 5 мая 1937 года ў вёсцы Буда Казіміраўская Мазырскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Мазырскае педагагічнае вучылішча. Працаваў настаўнікам у Лельчыцкім раёне. У 1956 годзе стаў студэнтам юрыдычнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ламаносава. Працаваў выкладчыкам у ВНУ Украіны, вярнуўся на радзіму.

Выкладаў у Мазырскім універсітэце. Дацэнт кафедры гісторыі і паліталогіі, кандыдат гістарычных навук. Цяпер на пенсіі, жыве ў Мазыры. Аўтар кнігі «Цяплом душэўным падзялюся», падрыхтавана да друку кніга «Крыніца бабы Марты».



**Сяргей Шапран** нарадзіўся 11 лютага 1968 года ў Рызе (Латвія). Скончыў філалагічны факультэт (аддзяленне расійскай мовы і літаратуры) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1992). Яшчэ падчас вучобы пачаў займацца журналістыкай, любімы жанр — інтэрв'ю. Друкаваўся ў перыядычных выданнях: «Советская молодёжь», «Час», «Суббота» (Рыга); «Знамя юности», «Имя», «Белорусская деловая газета», «Новы Час», у часопісах «Дзеяслоў», «Абажур» і іншых.

У апошнія гады займаецца даследаваннямі жыцця і творчасці Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, а таксама Уладзіміра Някляева.

Атрымаў дыплом Саюза тэатральных дзеячаў (2000), прэмію «За ўнёсак у развіццё беларускай рок-музыкі» (2007). Лаўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча за даследаванне «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах» (2011).

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Сустрэча з Іванам Мельнічуком

**У Берасцейскай гарадской дзіцячай бібліятэцы імя А. С. Пушкіна адбылася творчая сустрэча з пісьменнікам Іванам Мельнічуком.**



Дзеля гэтага было аж тры пачэсныя нагоды: прэзентацыя дзіцячай кнігі «Чудеса в решете», зборніка «Гасцінец» і, таксама, святкавання 75-гадовага юбілею старшыні Берасцейскай філіі СБП.

Месца сустрэчы было абранае не выпадкова: Іван Мельнічук найперш вядомы землякам менавіта як аўтар твораў для маленькіх чытачоў. Выдаўшы першую кнігу «Кто разбудил солнце» аж у 1982 годзе, Іван Міхайлавіч працягваў сваю плённую працу і да сёння стаўся ствальнікам амаль дзясятка кніг для дзяцей. Зборнік «Гасцінец», наадварот, стаўся першай недзіцячай кнігай паэзіі, якая ўтрымлівае сярод іншага прысвячэнні сябрам, жарты, гумарэскі — вершы, што падтрымліваюць светлы настрой, уласцівы творчаму почырку аўтара.

На пачатку гасцям сустрэчы прадэманстравалі дакументальны фільм Берасцейскай абласной студыі тэлебачання, што быў зняты да 70-годдзя Івана Мельнічука.

Імпрэзу адкрыла дырэктар Цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Берасцейскай вобласці, дэпутат абласнога савета Святлана Сямашка, якая падзякавала юбіляру за яго шчырую працу на ніве дзіцячай літаратуры ад імя землякоў.

Ад імя Саюза беларускіх пісьменнікаў з віншаваннямі выступілі старшыня ГА «СБП» Барыс Пятровіч і намеснік старшыні Алесь Пашкевіч. У дар бібліятэцы былі перададзеныя дзіцячыя кнігі з новай серыі «Каляровы ровар», запачаткаванай СБП.

Да віншаванняў далучыліся калегі па філіі Леанід Філатаў, Алесь Каско, Мікола Сянкевіч, а таксама родныя і сябры Івана Міхайлавіча.

Напрыканцы імпрэзы сп. Мельнічук падзяліўся жыццёвымі назіраннямі ды творчымі планамі, выказаў падзяку сябрам-пісьменнікам і ўсім прысутным гасцям.

# Схіліўшыся над мурашнікам



## Ты не забыты

**10 гадоў назад ад нас пайшоў у паэтычную беларускую вечнасць Мікола Купрэеў.**

Пакутны самотнік, ён займеў па сабе людскую памятку — уласны помнік на магіле ў Івацэвічах, які стаў магчымым дзякуючы павазе паэта і пчаляра з Лінёва Міколы Папекі і журналісткі Пружанскай раённай газеты Ганны Хадаровіч да Міколы Купрэева, мастака Юрыя Малышэўскага — да Хадаровіч ды Папекі, дырэктара Брэсцкага рытуальнага завода (дзе і былі куплены шыкоўны камень на магілу паэта) — да беларускіх пісьменнікаў увогуле. Сродкі на помнік збіраліся сярод прыхільнікаў творчасці і сяброў Міколы Купрэева. Народны майстар Юрый Малышэўскі ахвяраваў свой час на выгатаўленне помніка і барэльефа на камяні.

Памятаем, Мікола, твае шчымліва-развітальныя словы: «Б'юць з нябёсаў званы беларускіх цэркваў — толькі яны й жывыя, і ў іх апантаным звоне я, чырвонай халоднай вадою напоўнены, чую крык маёй колішняй роднай мовы, чую ціхае ў звоне высокім маленне нашай вечнай Жанчыны Полацкай.

Дайце дарогу, браты-чарвякі, прапусціце, стаміўся — паўзу я спачыць у нетры пад роднае Ямнае».

Не дапоўз да бацькаўшчыны, на жаль... Лёг пад маладым дубам у Івацэвічах.

Спадзяёмся, што і там будзе яму пухам зямля.

Ты не забыты...

**Амаль шэсцьдзясят гадоў Міколу Купрэева мала хто ведаў і асабліва ніхто ў гэтым свеце не ўспамінаў. І во, раптам, схамянуліся: не стае, як высветлілася, у нашай літаратуры аднаго чалавека, і трэба ж так стацца, што менавіта яго — Купрэева.**

**Дажыўся, што й казаць...**

Аднак лічба яго ўзросту здаецца наўмысна завышанай. Купрэеву — сорак, хочацца паспрачацца мне, бо дваццаць гадоў нармальнай творчай працы ўкралі ў яго савецкія чыноўнікі і, падобныя да іх, савецкія беларускія пісьменнікі...

Выдаўшы яго зборнік вершаў, з празорлівым да ўласнага лёсу назвам — «НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ», яшчэ ў 1967 годзе, яны адначасна адсунулі аўтара і ад Саюза пісьменнікаў, і ад сталіцы — туды, на палескую перыферыю, — і забыліся...

А сёння вось як бы ўспомнілі і, радняволя, дадаюць яму тыя дваццаць пакутна-вандроўных гадоў адзіноты і ўнутранай эміграцыі.

«Шэсцьдзясят, — кажуць, — табе, Мікола! Віншуем з пенсіяй...»

«Дзякуй», — адказвае Мікола. Ён — беларус, а значыць, чалавек не злапомны і памяркоўны.

Ну і лады, здавалася б, чаго між людзей ні бывае, — усё травой зарастае...

Аднак сённяшні час паказвае, што гэта не зусім так.

Ну не ўпісваўся дарэшты Купрэеў у той афіцыйны літаратурны гурт, хоць ты плач...

Анягож! Нейкага нерытмічнага пішучага бадзягу з Белавежскай пушчы зноў былі дапусцілі да казённага, хоць ужо й не надта хлебнага стала, а ён, не паспеўшы паабцерціся, — адразу ж да лаўраў!..

Таму, як і раней, цішком-употай зноў былі адсунулі Міколу Купрэева ад чарговага дзяржаўнага «кавалка». І як адмыслова ўсё зрабілі: галасы яму ў Дзяржкамітэце па прэміях аддалі, маўляў, мы за цябе ўсёй душою, — і не наша тут віна, што ў апошнюю хвіліну вышняя рука выкрэсліла цябе са спіса... На ўсё воля Божая... Відаць, целам не выйшаў ці душок не той, потам пахнеш ці кашуля нямытая...

Ёсць дзве катэгорыі пісьменнікаў. Адныя жывуць з таго часу, у якім жывуць, па неласным прынцыпе Петруся Броўкі: міне твой час, «ападзе грэбень — і на х.. ты каму патрэбен...»

Купрэеў адносіцца да літаратараў другой катэгорыі, да тых, якія жывуць сваім часам.

І, перш чым пачынаць гэтую блытаную і не да канца вызначаную размову пра жыццё і творчасць Міколы Купрэева, хочацца, як эпіграф да гэтай часткі, працытаваць радкі з верша не менш таленавітага, але й не менш адрознага паэта Леаніда Дранько-Майсюка:

*Даволі вярэдзіць раны!*
*І без таго заўважаю —*
*глядзяць, як на эмігранта,*
*на мяне, калі размаўляю.*
*Адкуль? З якой рэзервацыі?*
*З якой Беларусі такой?*
*Эх, вечная эміграцыя*
*на радзіме сваёй.*

Не пакідаючы межаў радзімы, Купрэеў, дзе змушана, а дзе ўсхілку свайго характару і паводзін, эмігруе ў самога сябе. Ён пачынае жыць у межах сваёй душы і ўласнага розуму. Акаляючая прырода і прырода самабытнага таленту вадзілі яго па высыхаючым меліярацыйным Палессі без малога сорак гадоў, як Майсей іудзейскі народ па Аравійскай пустэльні...

Гэты бясконцы шлях можна назваць бязмэтным, як бязмэтны ў жыцці і ў сутнасці сваёй творчасці сам Мікола Купрэеў, — як, у рэшце рэшт, бязмэтная і сама прырода.

**Ён — аўтар, тэкст і кантэкст свайго жыцця. У літаратурах свету такіх няшмат. У сучаснай беларускай літаратуры Купрэеў, бадай, адзіны, хто безаглядна, бескарыслівa і бясслаўна скормліваў сваё жыццё творчасці**

...Сухастой, гнілле і карабельныя сосны, мухаморы, паганкі і баравікі, выспы, балоты і хлебадайны чарназём, — усё гэта ёсць і сродкам, і вынікам, і прычынай ТАГО жыцця і ТОЙ творчасці.

Хто чытаў дзве, блізкія да аўтабіяграфічных, аповесці-споведзі Купрэева («Дзіцячыя гульні пасля вайны» ды «Імгненне светлае...»), напэўна, заўважыў, што аўтарскае «я» там не вытыркаецца — не гераізуецца — а стаіць як бы «па-над» і «наводдаль» — сузірае, але не ацэньвае, не судзіць, не асуджае... Бо — КАГО? Бо — за ШТО? СЯБЕ-НАС? За тое, што ёсць як ёсць, што жывём?

Прырода не мяняе сваёй глыбіннай сутнасці ні падчас праліўных дажджоў, ні падчас засухі, ні падчас землятрусу — ні вясной, ні зімою...

Яна ёсць, і мы павінны змірыцца з тым, якая яна ёсць, і шукаць і знаходзіць паразуменне з яе праявамі ў сваёй душы.

Нярэдка — халодны і галодны — Купрэеў піша пра холад і голад гэтай самай чалавечай душы... на каленях, на камянях, на падваконнях, на бальнічных тумбачках, у вузкай і затхлай паржаўленай ваннай тубдыспансера, на векавым дубовым пні Белавежскай пушчы...

Напісаныя ім словы — вузлаватыя і сухія, як хруст леташняга галля пад нагамі, то працяглыя і ліпка-смалістыя, як рэха, што адгукаецца толькі таму, хто кліча, то вуркатліва-іранічныя, як вада ў раўчуку...

У яго словах няма ўзроставага маразму і павучання. І гэты голас заўжды новы, як вясна. Ён можа быць сцюдзёным альбо цёплым, але — заўжды ўласным.

У сваіх тэкстах, як у акварыуме, ён захоўвае сваё ўнутранае духоўнае жыццё, але не кансервуе яго, як спажытак, а падкормлівае назапашанымі крышынкамі быцця, што засталіся ў ветраных кішэнях пасля чарговай вандроўкі ў людскі свет...

Ён не песіміст і не аптыміст, больш таго, нават не рэаліст. Купрэеў пэўны ў НЕПАЗБЕЖНАСЦІ чалавечага лёсу і, як загнаны воўк, упарта мкне па цаліку, не зважаючы на перaслед... таго ж лёсу...

Як той воўк — ён, гнаны непадуладным духам усяіснага часу, ехаў і едзе беларускім шляхам па зачараваным коле дзяржаўнай чыгункі... У яго не было й няма ні дарожных квіткоў, ні канцавых станцый... Едучы, ён не бачыць дарогі, а жыве наўзбоч яе, углядаючыся ў прастору, што прамінае за вокнамі помных вачэй... І едзе ён з намі ў адзін бок, але паасобна ад нас...

Ніхто не ведае, як яму было аднаму. Бо — не жаліўся, не назаляў рукапісамі, не засціў свет у літфондаўскіх чэргах, не лаяў людзей, не прасіў начлегу, не набіваўся ў сябры, па сутнасці, не меў сям'і, хоць фактычна яны былі...

У яго не было ні сваёй хаты, ні свайго пэўнага месца на зямлі. Як ніхто іншы, ён апраўдваў баптысцкі перафраз: мы не дома — мы ў гасцях... Купрэеў — госць. Гаспадаром ён ніколі й не быў, нават гаспадаром сваіх рукапісаў...

Ён — аўтар, тэкст і кантэкст свайго жыцця. У літаратурах свету такіх няшмат. У сучаснай беларускай літаратуры Купрэеў, бадай, адзіны, хто безаглядна, бескарыслівa і бясслаўна скормліваў сваё жыццё творчасці. Далёка не кожны, нават вялікі, талент здольны прынесці сябе ў ахвяру слову. Ды й не ад нас гэта ўрэшце залежна. Тут трэба нарадзіцца як бы неданошаным, каб увесь час памятаць пра гэта і мецьпожад даносіцца да сваёй чалавечай пэўнасці ў лоне боскай прыроды, адчуваючы сваю вясковую, лёсам дадзеную, ушчэрбнасць, як наканаванае табе НЕШТА...

Неад'емнасць новых пошукаў і адкрыццяў у такіх творцаў гарманічна нітуецца з класічнай традыцыяй. Яны шукаюць вечнае не на пустым месцы, але пустое месца тым засяваюць...

...Мне здаецца, што гэтай парой ён зноўку стаіць недзе ў гушчары Белавежскай пушчы, звесіўшы на кульбаку сваю ссівелую і свежую ад расы галаву, над мурашнікам, і сочыць за мітуслівай мурашынай валтузнёй, за іх спрадвечным бытаваннем. Мітусяцца, томяцца мурашы, цягаючы хвойныя іголкі... І сцежкі ў іх усё тыя ж: пакручастыя, і архітэктура мурашніка ўсё тая ж: надземная і ўзвышаная... Юдзіць зазірнуць у нутро — што там ды як? Але — дазнаўшыся, разбурыш... Няхай поўзаюць, няхай жывуць, — у гэтым іх сэнс і сутнасць існавання...

Як проста і як геніяльна! Туды-сюды, сюды-туды... дакладна адлічваючы імгненні вечнасці — іголка да іголкі, ад першай да...

І раптам яго позірк засяродзіцца на адным з іх, самым бяспечным і маладым, што скіне сваю ношу пры самым уваходзе ў дом-мурашнік і нечакана скіруе далёка за межы «страны муравии»; падпаўзе да самага наска ўношанага чаравіка Купрэева і пачне ўзбірацца на яго высокую вяршыню, забыўшыся пра ўсё, апантаны адно толькі інстынктам ды прагай спазнання самога сябе і таго, што перад ім паўстала...

— Ну, куды ты, брат?..
.......................
— Назад, назад кіруй у свой мурашнік...
.......................
— Які неслух!..

І няўзнак яны паразумеюцца і пасябруюць...

Прысвячаючы Янку Брылю верш, што адкрывае неўлаўрэачаную Дзяржаўнай прэміяй другую кніжку «Правінцыйныя фантазіі», Мікола Купрэеў, хочучы таго ці не хочучы, напісаў сабе прыжыццёвую эпітафію.

*Косю мой, косю,*
*дзе ты блукаў-лятаў?*
*Дзе ты якія землі*
*капытамі таптаў?*
..............................

*Косю мой, косю,*
*за намі ідуць —*
*напэўна, у Гродна*
*тыграм павязуць.*
*Як будуць вясці нас*
*па роднай мяжы –*
*каб людзі не чулі,*
*мой конь, не іржы.*
*Косю мой, косю...*

«...Ведаеш, які народ тут — амаль адны бамжы ды былыя зэкі. Імі забітыя ўсе палаты. Ванную адчыняюць толькі ў «банныя» тры дні — да вечара. Не пачытаеш па-людску, не папішаш... Бывае, дыхаць няма чым на зямлі нашай, нават у правінцыях — маіх колішніх «палесцінах»... Ды ну Вас усіх у Менску!.. Колькі мне гэты Менск (здаецца, ён — «сталіца» Беларусі?) папсаваў нерваў... І тут — хоць ты ў нару якую хавайся ці ў бярлогу... Ты пішаш мне: «жыві, пішы, твары, не раскісай»... Не, Лёня, ты ўжо там сам у сваёй сталіцы і жыві, і пішы, і твары, і не раскісай... А мы, гэткая навалач, прыблуды ў гэтым свеце, можа, як-небудзь яшчэ ўпадзём, як пацяплее, у мох пад сасной ці елкай — з гэтымі яшчэ можна жыць...» (З ліста да мяне ад 11.03.97г., тубдыспансер, вёска Вярховічы).

— Косю мой, косю...
— Які неслух...
.......................

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# Паэт, як вір...

**Прайшло 55 гадоў з таго часу, як 26 кастрычніка 1959-га ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і Марыі й Ціхана Сысоў нарадзіўся сын Анатоль. Нарадзіўся, каб праз тры-чатыры дзесяцігоддзі свайго жыцця зыркай каметай праляцець па беларускім паэтычным небе, згарэць даастатку — і стаць легендай нацыянальнай літаратуры.**

**Гэтая старонка «Літаратурнай Беларусі» — адна з пялёсткаў у вянок яго вечнай памяці...**



## Паэт з босай душой*

Рыгор БАРАДУЛІН

Анатоль Сыс быў настолькі геніяльным, настолькі непасрэдным, што ён проста не змог ужыцца ў атмасферу горада. Горад усё-ткі каварны і не шчыры. Да таго ж, ён не нацыянальны. Таму такому, як Сыс, немагчыма было тут ужыцца. Горад, час яго з'еў. З'еў сваёй атмасферай. У горадзе трэба быць калючым вожыкам, трэба мець панцыр, а Сыс быў без усялякага панцыра. Ён прыйшоў у гэты халодны, калючы горад з босай душой. Таму так і выйшла...

Ён быў найвыдатнейшы паэт. І чалавек дужа далікатны. Гэта ж ён падараваў мне старажытныя іконы, хоць здавалася б — Сыс і такі... На пахаванні Васіля Быкава ўсе ад яго шарахаліся, а ён падыходзіць да мяне: «Дай мне значок з «Пагоняй»». — «Калі ласка», — кажу. У адказ ён дзякуе і — усё на гэтым...

Ён быў загнаны і застрашаны. Яго наўпрост спаілі. Спаілі, таму што баяліся канкурэнцыі. Ён жа прыехаў у Мінск дужа даверлівы, дужа шчыры. Лёс Сыса можна ў нечым параўнаць з лёсам Ясеніна, які таксама прыехаў дужа адкрыты і якому таксама памагалі піць. Але ўсім таленавітым хлопцам памагаюць піць — тыя, якія больш бяздарныя.

Гэта была яркая асоба. Анатоль Сыс застанецца ў беларускай паэзіі і ў гісторыі беларускага духу. Тут можна правесці хоць і ўскосную, але такую паралель: Сыс, як і Максім Багдановіч, пражыў хай і мала, аднак таксама асвятліў свой шлях. Ён, відаць, ішоў сваёй сцежкай у промнях Багдановіча. Гэта калі сыходзіць з яго шчырасці, з яго беларускасці.

Анатолю Сысу прысвяцілаў я верш:

### Як вір...

*Паэт, як вір,*
*Ад хвалявання стыне,*
*На дне хаваючы халодны клёк.*
*З гародчыка расчульвання*
*Юргіня*
*Юрыць паэтаў юр,*
*Як неўзнарок.*

*Паэт, як вір,*
*Віруе ды шчыруе,*
*Перамывае родных словаў*
*Жвір,*
*З Пегаса збрую*
*Скідвае старую,*
*Бярэтку поўні*
*Збіўшы набакір.*

*Паэт, як вір,*
*Супернік неспакою,*
*Капрызны хрэснік*
*Шчырай Каляды.*
*З Сусвету,*
*Як з цяснюткага пакоя,*
*Іграецца вымкнуцца.*
*Але куды?*

***Друкуецца ўпершыню.**

## Прарок свабоды і незалежнасці

**(Гісторыя юнацкага архіву паэта)**

Алесь БЯЛЯЦКІ

Жалезныя дзверы і ваконныя краты густа захіснутыя жалезнымі гарызантальнымі палосамі, якія ласкава называюць «раснічкамі», за імі ў шчыліны праглядаецца распілаванае бяздонная неба і белыя ватныя аблокі.

Колькі разоў ужо, стоячы ля вакна і ўглядаючыся ў заманлівую сінечу неба, я паўтараў сам сабе: «Вось воблака, сяду і ў свет палячу!» Калі не целам, дык думкамі і душою. І ёсць у гэтым маім пісанні вышэйшы сэнс, бо душа мая зараз дакладна наладжаная ва ўнісон Анатолевым вершам. І хто ж, як не ён, навучыў мяне некалі шанаваць свабоду і даражыць ёй. Гэтае ягонае ўнутранае і вонкавае разняволенне, незалежнасць, якія праяўляліся і ў штодзённых паводзінах, і ў стасунках з людзьмі, натуральна пераходзілі ў ягоныя вершы. За гэта мы шанавалі Анатоля, за гэта яго не любілі людзі абмежаваныя і залежныя.

Падчас аднаго са штогадовых паэтычных святаў у гонар Анатоля Сыса на радзіме паэта ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна я і зямляк Анатоля паэт і журналіст Сяржук Сыс даведаліся ад роднай сястры Анатоля Тамары Ціханаўны пра існаванне неразабранага архіву Анатоля Сыса. Падчас прагляду яго я заўважыў невядомыя вершы паэта. Для нас гэта было моцнай неспадзяванкай, неверагодным сюрпрызам, у які з першага разу цяжка было паверыць, бо Анатоль, жывучы ў Менску, неаднойчы распавядаў пра тое, што спаліў свае юнацкія вершы. Хаця, ведаючы нястрымную ахвоту Анатоля да розных жартаў і розыгрышаў, я мяркую, што гэтая містыфікацыя якраз і была ў ягоным стылі... Перабіраючы друкапісы і рукапісы, мы канчаткова пераканаліся, што перад намі вершы, пароды і пераклады, большасць з якіх мы некалі чулі з вуснаў Анатоля Сыса ў нашыя юнацкія студэнцкія гады.

Асобна ў невядомай спадчыне паэта можна вылучыць машынапіс зборніка вершаў пад назовам «Берагі майго юнацтва» (іншая верагодная назва — «Манускрыпт майго юнацтва») з раздзеламі «Бераг правы» і «Бераг левы». Зборнік складаюць творы, напісаныя Анатолем Сысом падчас вучобы ў Гомельскім універсітэце ў канцы 70-х, пачатку 80-х гадоў.

Анатоль Сыс адсылаў свой зборнік на рэцэнзію. Захавалася частка канверта з пячаткаю Саюза пісьменнікаў Беларусі, з чаго можна зрабіць выснову, што зборнік дасылаўся менавіта туды. Падрыхтаваная рэцэнзія, якая таксама знайшлася ў архіве, была адмоўнаю. Гэта, мабыць, і паслужыла прычынаю, чаму тыя вершы патрапілі ў тумбачку бацькоўскай хаты паэта. Толькі два вершы адсюль пазней былі апублікаваныя ім.

Чытаючы знойдзеныя вершы з вышыні сённяшніх гадоў, а іх мінула ўжо больш за трыццаць, я пераканаўся, што большасць з іх з'яўляюцца самадастатковымі, высокавартаснымі творамі. А яшчэ складаючы ў 2009 годзе зборнік выбраных вершаў А. Сыса «Алаіза», які рыхтаваўся да 50-х угодкаў паэта, я моцна шкадаваў, што так мала было вядома ранніх твораў Анатоля. Бо не зусім зразумелым быў для чытача шлях развіцця ягонага магутнага таленту. І мала для асэнсавання гэтага шляху ўспамінаў і нататкаў знаёмых і сяброў. Што можа сказаць пра паэта выразней, чым ягоныя першыя вершы?

Апроч гэтага машынапіснага зборніка, у паперах таксама была частка рукапісных вершаў Анатоля, у прыватнасці, вянок санетаў, напісаны ім ва ўніверсітэцкія гады. Увага да вершаванай формы санета ішла ў Анатоля Сыса ад захаплення творчасцю Максіма Багдановіча. Недарэмна ён пісаў курсавую працу, прысвечаную санету як паэтычнай форме ў творчасці М. Багдановіча. Гэтая праца з вершам-прысвячэннем М. Багдановічу таксама захавалася ў архіве. Анатоль Сыс вучыўся ў свайго «старэйшага брата» — так ён называў пазней М. Багдановіча — працаваць са словам. 14 радкоў санета ўяўляліся яму ідэальнай формай для паэтычных практыкаванняў, для шліфоўкі слова і адточвання рыфмы і думкі. Я памятаю, як ён ганарыўся сваім вянком санетаў, гаворачы пра тое, што гэта вельмі складаная форма вершаскладання і што ў беларускай паэзіі на той час было толькі два вянкі санетаў...

Вялікі ўплыў на станаўленне паэтычнага таленту Анатоля Сыса аказала насычаная філасофскай думкаю паэзія Алеся Разанава. Недарэмна бліскучая «Балада-прысвячэнне маці» пачынаецца з эпіграфа — радка з верша А. Разанава: «Да гарызонта даляцела птушка». Гэты радок паслужыў штуршком і асноўнай супярэчлівай ідэяй балады. Зыходзячы з рацыянальнага асэнсавання свету, немагчыма дапяць да гарызонту. І калі гэта ўсё ж удаецца — тады адбываецца цуд. Менавіта там, за гарызонтам, па ўяўленні паэта, птушка пераўтвараецца ў чалавека. Птушка-чалавек — гэты паганскі, родавы, татэмны вобраз заўжды прыцягваў паэта. Вобраз птушкі ўяўляецца яму абсалютным вобразам свабоды. Там, у небе — «крылы» і «музыка нябеснага прастору», а тут, на зямлі — «немач рук» і «прыцягненне вечнае зямлі».

Вобраз маці з'яўляецца культавым вобразам, які праходзіць праз усю творчасць Анатоля Сыса. Вось і ў «Баладзе...» птушка пераўтвараецца ў маці. Такім чынам, паэт назваў сябе сынам жанчыны-птушкі, уяўныя будучыя дзеці якога таксама будуць дзецьмі-птушкамі.

Гэтаксама ў архіве паэта захаваўся сцэнар радыёперадачы, прысвечанай ягонай творчасці, падрыхтаваны ўвесну 1984 года для Гомельскага радыё пасля ягонага вяртання з войска. У друкапісе з рукапіснымі праўкамі паэта ёсць і невядомыя вершы. Можна меркаваць, што яны былі напісаныя ў 1983-84 гг. падчас службы. Да невядомых вершаў адносіцца «А мне не трэба шлях, дзе скрозь падковы» — аптымістычны твор, у першым радку якога выказваецца жыццёвае крэда паэта. Радкі «Мяняў я коней, стомленых дарогай», «Быў я ў сяброў, як брыганціна ў чайках» даюць уяўленне пра характар героя верша, якога можна атаясамліваць з асобай паэта.

Верш «Маці» існуе ў двух варыянтах — надрукаваны на асобным аркушы і ў тэксце радыёсцэнара. Мне ўяўляецца, што Анатоль вымушаны быў перарабіць першапачатковы варыянт верша для радыёэфіру з прычыны ягоных рэлігійных матываў. Паэт параўноўвае сваю маці з «жывой Божай маці». У ягоных вачах такое падабенства з'яўляецца вышэйшай адзнакай. Рукою Анатоля Сыса ў сцэнары зробленыя праўкі, у якіх ён акцэнтуе ўвагу на тым, што вобразы Маці і Радзімы для яго з'яўляюцца непадзельнымі — такімі ж яны існуюць і ў ягонай паэзіі.

Анатоль ніяк не ўспрымаў «ідэалагічна правільную» паэзію. Ён грэбаваў і здзекваўся з рыфмаваных траскучых радкоў у гонар Леніна, партыі, рэвалюцыі ды розных іншых камуністычных святаў і падзеяў. Нават пішучы на «прахадныя» на той час тэмы, да прыкладу, пра Вялікую Айчынную вайну, ён асэнсоўваў яе праз канкрэтны цяжкі лёс свайго прыйшоўшага з той вайны бацькі. І ядзерную бамбардзіроўку Хірасімы, якую савецкія ідэолагі падавалі выключна ў антыамерыканскім ключы, ён успрымаў з агульначалавечых пацыфісцкіх пазіцыяў. У вершы «А мне білет да Хірасімы» ён абыгрывае факт, які найбольш уразіў яго: на самалёце, што скінуў атамную бомбу, лётчыкам было напісанае імя ягонай маці. І менавіта да яе звяртаецца паэт, спрабуючы асэнсаваць тую трагедыю.

У вершы «Верлібр першай сустрэчы з морам» можна адзначыць знаёмы нам па іншых вершах паэта вобраз «адзінокага пілігрыма». Такім «адзінокім пілігрымам» і сам паэт пройдзе па гэтым зямным жыцці.

Ёсць у архіве некалькі вершаў, напісаных Анатолем Сысом у пазнейшыя часы — у 90-я гады, у пачатку 2000-х. Іх лёгка распазнаць па правапісе — «тарашкевіцы», на якую паэт перайшоў у другой палове 80-х гадоў, пасля пераезду ў Менск і далучэння да моладзевага нацыянальнага руху. Тады пераход на «тарашкевіцу» азначаў выразную грамадзянскую пазіцыю, арыентаваную на пераемнасць нацыянальных каштоўнасцяў і ідэалаў, якія бязлітасна знішчалі камуністы і за якія пераследавалі творцаў...

Выдрукаваны таксама «тарашкевіцай» захаваўся ў архіве і пераклад твора расійскага паэта М. Гнедзіча «Маім вершам». Як мне падаецца, думкі М. Гнедзіча, выказаныя ў гэтым вершы, былі блізкімі Анатолю Сысу, што і стала прычынай перакладу. Бескарыснасць у творчасці, любоў да музы, якая палала «з юных гадоў», душэўны настрой, што выліваўся ў вершаваныя радкі... Анатоль Сыс пагаджаецца з Гнедзічам, які гаворыць пра тое, што ён не гандляваў душою дзеля ўцехаў, што «часта трымаў іспыты на гонар і годнасць» і «з тых вопытаў выйшаў чыстым», што ён «ахвяр не паліў, патрапіць каб ідэалам свету». М. Гнедзіч, а праз пераклад і Анатоль Сыс жадае, каб людзі адшукалі ў ягоных вершах «сардэчную мову нябёсаў».

Спадзяюся, што неўзабаве невядомыя вершы Анатоля Сыса выйдуць асобным зборнікам, так як некалі і планаваў паэт. Несумненна, што гэтыя вершы сур'ёзна дапоўняць творчую спадчыну паэта, нашага прарока свабоды і незалежнасці.

# Яблычны пах цішыні



Фелікс БАТОРЫН

***

*Сінім азёрным атрамантам*
*Піша аповед верасень.*
*Статкам зялёных мамантаў*
*Пасвіцца лес на беразе.*

*Мы з ім адзінае цэлае —*
*Злепак няўрымснай старасці:*
*Цела спрэс змаманцелае,*
*Дух у зялёных парастках.*

***

*Ходзяць паралельна й папярэчна.*
*Ходзяць развітальна і сустрэчна,*
*А калі сустрэчна, то па-рознаму:*
*Лоб у лоб з паглядамі пагрознымі,*
*З сэрцамі, скрываўлена-паскрыленымі,*
*Ці інакш — з абдымкамі раскрыленымі.*
*Я іду, каб стрэцца, людзі, з вамі.*
*Як не сутыкнуцца нам ілбамі?*

### Неацэннае і бяскоштнае

*Тое, што не мае цаны —*
*Альбо неацэннае, альбо бяскоштнае.*
*Рознае — па-рознаму.*
*І аднолькавае — па-рознаму:*
*У розны час альбо розным нам.*
*А розныя мы ўсе —*
*І ў часе, і паміж сабою.*
*Толькі адкуль столькі*
*Аднолькава безаблічных твараў?*

***

*Тысячы светаў адбітыя ў кроплях*
*залевы,*
*Што расцякаюцца тысячамі*
*раўчукоў,*
*Калейдаскопна змяняюцца*
*справа і злева*
*З безліччу імі імгненна*
*пражытых вякоў.*

*Людзі дажджу!*
*Павыходзьце з-пад стрэхаў чужыны*
*Вецер, адмыты ад дыму і пылу,*
*ўдыхнуць.*
*Чыста адмытыя,*
*лягуць пад ногі сцяжыны,*
*Што нас урэшце*
*на родным парозе звядуць.*

***

*Яблычны пах цішыні.*
*Мігі маўклівых ападаў.*
*Яблычныя прамяні*
*Сцежкі спярэсцілі саду.*

*Птушкі збіраюцца ў шлях,*
*Памяць пакуюць у клункі.*
*Яблычны смак на губах —*
*З вераснем пацалункі.*

***

*Месяц на вільчаку*
*Як зачапіўся чакою.*
*Не вырывайце чаку,*
*Не падрывайце спакою!*

***

*Жорсткія гульні дарослых дзяцей*
*З верай у казкі і прагаю шчасця,*
*Вы запаўняеце лёсы людзей*
*Перш, чым у вечнасці людзям прапасці.*

***

*Адбіваюцца ў небе азёрныя зоры.*
*Адбіваюцца мятлікаў сонмы ад рук.*
*Адбываюцца казкі ў павольнай прасторы,*
*Дзе завіс у цянётах марудны павук.*

*Цемру певень скрыляе сваім «кукарэку»,*
*І змяшчаецца сэрца тваё, чалавек,*
*І ў хвіліну любошчаў, што вартая веку,*
*І ў няўлоўна-хвілінны зняможлівы век.*

### А дзе ж той плот?..

*А дзе ж той плот збуцвелы,*
*Таемны пералаз*
*І ў садзе загусцелым*
*Здранцвелы дрэмны час?*

*Дзе тая камяніца*
*І сцежка ля яе,*
*Дзе мілай завушніца*
*Згубілася ў траве?*

*Адкуль над садам гусі*
*Вяртаюцца дамоў?*
*Дзе кола, куды бусел*
*Ляціць з галінай зноў?*

*А дзе ж той хлопец русы,*
*Што ў гэты лазіў сад?*
*Ці, можа, толькі гусі*
*Вяртаюцца назад?*

***

*Ля дрэва пазнання*
*Дабра і зла*
*Нашая доля вяночак пляла.*
*Адну толькі ночку*
*Хадзіла ў вяночку,*
*А потым будзённасць прыйшла.*

*Ля дрэва пазнання*
*Дабра і зла*
*Шторання сцяблінка ўзыходзіла з тла.*
*Адну толькі ночку*
*Хадзіла ў вяночку —*
*І доля шчаслівай была!*

***

*Сам у сябе — збунтаваны — пытаюся:*
*«Хто ты?*
*Носіш імя ці ўсяго толькі маеш назоў?» —*
*Дрэва жыцця штохвіліны мяняе лістоту,*
*Зносіць лістоту апалую вецер часоў.*

*Скрушнае ўсёю істотаю чую трымценне,*
*Болем зніknення цянюткі смыліць*
*чарашок.*
*Але гукнуць, як той Фаўст: «Супыніся,*
*імгненне!» —*
*Сілы не мае — ужо надарваны — лісток.*

***

*Волка і золка на ўзолата ўбраным бульвары.*
*Вокны навокал птушыныя поўны журбы.*
*Век пражылі мы тут непералётнаю*
*парай,*
*Нібыта галкі альбо шызары-галубы.*

*Колькі на душах у нас паўзагоеных метак!*
*Хочуць задзьмухаць наш боль міласэрна*
*вятры.*
*Можа, таму нам садзяцца бязбоязна*
*гэтак*
*Проста пад ногі крылатыя нашы сябры?*

***

*Сышлі хаціны ўласныя,*
*Стаяць пры гмаху гмах,*
*І яблыні бязгасныя*
*Гібеюць у дварах.*

*Штогод драбнеюць яблыкі,*
*На штамбах мох сухі,*
*Бяздумныя нахабнікі*
*Абломваюць сукі.*

*Знядбаны ды замацаны*
*І дрэвы, і дамы.*
*Брак пачуцця грамадскага,*
*Бо не грамадства мы.*

***

*Што ёсць я на зямлі, мне дзень пры дні*
*Напаміналі крыўды і пакуты.*
*У неба я*
*спакою й цішыні*
*Прасіць пачаў — і ўрэшце быў пачуты.*

*Але калі спакой, нібы камяк,*
*На вочы лёг і сонейка растала,*
*А рот звязаў мне цішы даўкі смак,*
*Я ў жаху зразумеў: мяне не стала.*

### Выходзячы з кабінета кардыёлага

*Калі малінавым грахом*
*Запахнуць ліпеня анёлы,*
*На мроі ўздыбленай вярхом*
*Памкну я, першатворна голы.*

*І пырскі зор з-пад капытоў,*
*Калейдаскоп святла і ценю.*
*І вецер здзьме цяжар гадоў,*
*Як парушынак лёгкіх жменю.*

*І песень здолею злажыць*
*Без ліку я на радасць людзям.*
*Адно б да ліпеня дажыць, —*
*А там і смерці ўжо не будзе.*

### Жаўрук

*З калосся ўзнялося ў надхмар'е, надлёссе*
*І ўпала ў азерца празрыстае скерца.*
*З вясёлкай на вейцы я кідаю лейцы*
*І ўслед серабрыстай распеўнай жалейцы*
*Праз зніклыя межы прасторы і часу*
*Лячу шасцікрыла на тройцы Пегасаў.*
*А птах, каго змесцідзь дзіця на далоньцы,*
*Вядзе мяне ў вышнія высі да сонца.*

### Жывая вада

*Пастарэў я, і мне на такую бяду*
*Прадала чарадзейка жывую ваду.*
*Можа, змыю маршчыны з ілба я?*
*Ах! На гэта надзея слабая.*

*Калі ж нават і так, ці ж паднімуцца з тла*
*Сваякі і сябры, што магіла ўзяла?*
*І як будзе нам з сённяшняй Ганнай?*
*Я так думаю, будзе пагана.*

*Ёй, Ганулі каханай, аддам я ваду*
*І яе сівізну і маршчыны звяду.*
*З кімсьці лепшым яна, маладая,*
*Хай шчаслівейшую долю спазнае.*

*Але Ганна адсунула конаўку прэч,*
*З лёгкім сумам сказала мне гэткую рэч:*
*«Хай з табой я не соладка ела,*
*Ды ў мяне ж дыябет застарэлы!»*

*Некранутай хаваю жывую ваду,*
*Бо ахвотніка ўсё на яе не знайду.*

***

**Л. Дранько- Майсюку**

*Крыніцу прыхаваў лясок*
*І дбайна прыкрывае веццем:*
*Не страшна, што на дне пясок —*
*Агідна на паверхні смецце…*

***

*Утульна існаваць бязмарна,*
*Калі і вочы сноў не сняць.*
*Быць можа, што не варта марна*
*І дэкарацыі мяняць.*

### Недаўменне

*Цю-цю-цю, сабачка!*
*Я пачастую цябе сакавітай капусткаю.*
*Кызы-кызы, козачка!*
*Я дам табе свежай каўбаскі.*
*Пуль-пуль-пуль, курачкі!*
*Я насыплю вам солі з перчыкам.*
*О, Госпадзе!*
*Я ж быў шчодры і ласкавы.*
*Чаму ж нават сабака, каза і куры*
*Адвярнуліся ад мяне?!*

***

*Яблык сонца збівае вяршынямі лес,*
*Ды ніяк не злаўчыцца, каб збіць.*
*Вырываецца сэрца з кайданных жалез,*
*Ды ніяк іх не можа пазбыць.*

*Вольны свет шаманіць і плюскоча ў вакне,*
*Ды турэмшчык не выпусціць, не,*
*Бо жыве мой турэмшчык глыбока ўва мне, —*
*Ён пухліцаю ўрос у мяне.*



# Азірніся, сынок

## (Пралог і эпілог аповесці «Адарваць ад сэрца»)

Аляксей ФІЛАТАЎ

*Ты не кліч мяне, мама, не кліч,*
*Нічога няма.*
*Я знаю, што была ты і была вайна...*
*Мікола Купрэеў*

З той першай пасляваеннай, мірнай дарогі з Ляхавец у Маларыту, што не забудзецца да скону, кожнае падарожжа хвалюе. Не надта любіла сядзець на месцы мама. Ды выбрацца ёй у шлях заўсёды была вялікая турбота: доўга пакавалася, ладкавала гасцінцы, лічыла, пералічвала рублі і капейкі, пасля змяркання бегала па вёсцы, шукала да першых пеўняў вазніцу. Усёй сямейцы не спалася.

Але вось у падворку загрукацелі колы, фыркнуў аднавокі конік Васько. Мы прыселі на дарожку. Бабуля перахрысціла нашы спіны. Заварушыліся на клуні ў трох буслянках нашы буслы, нібы і яны развітваюцца з намі. Дзед Мікалай Крэніўскі, якога дражняць Буслом, паправіў радзюжчыну на ладным пуку сена ў драбінах. Сена далікатненька бруіць падсохлым аерам. Умасціліся, едзем. Ад вобада таненькімі латачкамі адвальваецца спрасаваны коламі вільготны з ночы пясок. Світае. Трывожна, радасна, таямніча на душы. Маўчым. Цішыня. Нават птушкі яшчэ не прачнуліся. І тут мама шэптам: «Азірніся, сынок, паглянь — над зямлёю сонейка ўзыходзіць».



...Цяпер колькі ні езджу на радзіму (і шлях недалёкі), заўсёды шчыміць сэрца, жалобіцца душа, неўпрыкмет маркоціць яе думка: «Можа, больш не давядзецца ўбачыць гэту зялёную азіміну, невялікую чараду на першай пашы з двума пастухамі — падлеткамі і буслом, закапанага па кабіну ў нізінцы блакітнага «Беларуса», заліты паводкаю лес з астраўкамі жоўтай лотаці ў балацінах, са сцяжынамі сініх і белых канёздрыкаў на вышэйшым, хмызоў у маладой, далікатнай лістоце. Можа, не давядзецца ўжо сустрэць незнаёмых табе спадарожнікаў, што разыграюць нязменна перад вачыма камедыю ці трагедыю».

Пасля марозцу і ветру радуюся цеплыні на сядзенні аўтобуса. Адразу заўважаю дваіх цыганчукоў, хлопчыка і дзяўчынку. Не зусім абтрэпаныя, а ўсё ж — прадстаўнікі няўрымслівага, вандроўнага племя. На абоіх капронавыя зашмальцаваныя, зрэдзь падраныя курткі, баваўняныя калготы, паношаныя, з дарослай нагі жаночыя чобаты.

Хлопчык меншы, гадоў дзесяці, дзяўчынка крыху старэйшая, бялейшая і валасамі і скураю, можна падумаць: не цыганачка. Хлопчык жа — тыповае цыганя: бы масліны, навыкаце, крыху раскосыя глыбокія, поўныя пачуцця вочы, як смоль кудзеркаватыя, густыя, рэдка ведаючыя расчоску і яшчэ радзей мыла і гарачую ваду валасы, з гарбінкаю нос, цёмная скура, доўгія далоні і доўгія, брудныя, у драпінах пальцы. Цыганяты дрэмлюць.

На чарговым прыпынку выходзіць нізкарослы, паморшчаны дзед з ядлоўцавым кіем у руках. Ніхто тут не сядае, але аўтобус далей не рухаецца. З-за шырмы нарэшце рэзка і пісклява гукае шафёр:

— А ў каго яшчэ білеты па пяцьдзясят капеек?

Цыганяты ўздрыгваюць, падымаюць галовы.

— А-а-а, вось яны, зайцы галапузыя, а-ну марш, а то шлангам па рэбрах!

— Ці табе шкода, няхай едуць, не ў такія страты дзяржава ўбіваецца і нават у вашай парафіі, — адазваўся адзін толькі я.

— А калі кантралёры, штраф хто будзе плаціць?

— Заплачу. Няхай едуць. Куды вам, дзеці?

Але яны мяне не слухаюць. Адно дзяўчынка абводзіць абыякавым, з журбінкаю, поглядам патухлых вачэй, як пабітае сабачаня, пакорліва спускаецца з прыступак. Хлопчык агрызаецца:

— Мы да перахростка білеты бралі. Чаго гоніш? Не сыду, — у вачах закіпае непакора. Дзяўчынка цягне брата за рукаў.

— Хадзем назад, дзеці, зараз возьмем білеты.

— Не трэба нам тваёй ласкі! — сярдзіта кідае хлопчык. І ў нас абодвух дрыжаць, крывяцца губы, ледзь не коцяцца слёзы з вачэй.

— Што, без грошай захацеў праехацца, паганец? — вызверыўся стары на хлопчыка, як толькі той ступіў на зямлю.

— Цябе не чапаюць, дзеду, шкандыбай сваёй дарогаю.

— Ах ты, ваўчаня! — дзед нават замахнуўся кіем.

Аўтобус гойднуўся, пакаціў далей, на пляцоўцы засталіся трое. «Як там у іх, што там з імі? Эх, дзеду, дзеду, адкуль, з якім узварам усмактаў ты ў душу пагарду і злосць да гэтых, усё яшчэ забітых, забытых, мо нават і Богам, своеасаблівых людзей? А хто вас, маленькія вольныя птахі, выправіў у шлях? Ці давядзецца вам сёння паесці, сустрэць добрую душу, сагрэцца жывым цяплом чалавечым, пачуць ласкавае слова ад вашай цыганскай мамы?»

Хмараю густога, чорнага пылу сустракае мяне мая вёска. Хоць яшчэ толькі пачатак вясны і вільгаці шмат наўкола, пыл настолькі густы, што цяжка разгледзець разараныя былыя лугі, выганы, сенажаці і пашы. Іх уздоўж і ўпоперкі прарэзалі пустыя калектары з рыжцам на дне сярод рудога, неглыбокага тарфяніку, — меліярацыя...

Нарэшце і прыпынак. Не паспелі адчыніцца дзверы, тут як тут кантралёры.

— Каго вязеш без білета? — на поўным сур'ёзе, нават без ценю гумару.

— Калі шафёр, дык і злодзей па-вашаму?

— Пабачым, пабачым.

— Глядзі, глядзі, каб табе павылазіло! — буркнулі мужчыны.

— Ці вам не сорамна! Запражы — плуга пацягне, — усхадзіліся кабеты.

Кантралёры не звяртаюць на кпіны ўвагі, двое дужыя, не старога веку шныраць сярод пасажыраў. Ажно і валакуць кульгавага дзядзьку, які тыча ім пад нос нейкае ўшэрых вокладках пасведчанне.

— Яно не дае табе права ў етым аўтобусе, — гугніць дужэйшы, касавокі кантралёр.

— А ці не адзін хрэн, у якім аўтобусе бітую гадзіну на парэнчы вісець?

— Ён увесь век тутака ездзіць. Ці не бачыш? Пратры лыпаўкі — інвалід, — заступаюцца ўпарта, адзінагалосна.

— Выходзь, выкіну! Прагрэсіўку, калі зрэжуць, ты мне не вернеш, чорт штылявы! — высоўваецца ў салон шафёр.

— Не чапай, — цяжка разагнула стогадовую спіну дрымучая, але ўсё яшчэ дужая, у старасвецкай апынанцы і ўжо босая бабуля, у якой нарэшце пазнаю сваю былую суседку, бабу Католіху. — Сын він мэні. З лісу калікою вэрнувся. Усі мы, дзітятко, у лісы булы, всі кору з жэлуддзем ілы. Ліпш я сама злізу. — Працягнула кантралёру свой пакамячаны квіток...



Аўтобус заспяшаўся далей, у канец даўжэзнай нашае вёскі. Я стаю пасярод вуліцы і пакутліва разважаю: «Чаму за цыганчукоў не заступіліся, другое племя, чужая кроў?..».

Вось і мэта майго падарожжа — могілкі. Найперш іду да Іх. Ля брамы здымаю шапку, мінаю вышэзны, ладна падгнілы дубовы крыж з прыбітымі на парэнчах сімвалічнымі драўлянымі абцугамі і малатком (пры іх дапамозе ўкрыжавалі Хрыста, мо і на самай справе таму, што «ён быў паэтам»?). Пацяжэлыя ногі кіруюць пад магутную, у пяць ствалоў з аднаго кораня бярозу. Доўга стаю ля сціплага помнічка за металёвай агароджаю. Не магу адвесці позірку ад дарагога, ледзь кранутага зморшчынкамі матчынага твару, што смутна-ласкава глядзіць на мяне з фотакарткі...

«Мама, мама, у першую хвілінку, калі двухгадовым хлопчыкам у нямецкім шпіталі я ўбачыў цябе, у маім маленькім сэрцы нарадзіліся словы: «Жэнік, наша мама прыйшла!». Але Жэнік не кінуўся табе на шыю. Брат, крышку старэйшы, заплакаў у кутку. На табе было такое ж паліто, якое насіла мая родная мама, якую забіла фашысцкім снарадам у першы дзень вайны. І яна так доўга ўжо не прыходзіла да нас. Можа, я пазнаў менавіта гэтае паліто і адразу назваў цябе дарагім для нас абоіх словам. А можа, гэта здарылася таму, што ты была такою маладою, такою прыгожаю, а ў тваіх, затуманеных слязою вачах разлівалася спагада, пяшчота, матчына любоў, якіх хапіла мне на трыццаць гадоў, што мы былі побач, і якіх так не хапае цяпер. Ты далікатнай рукою, ад якой ішоў тонкі, чароўны водар марознай свежасці і цвітучага бэзу, гладзіла параненую асколкамі маю галаву, нават пацалавала яе. Хіба мог я ад цябе адарвацца? Хіба ты змагла б пакінуць мяне? Ты прыйшла выбіраць з чатырох нас, сцалелых, а я выбраўся сам»...

Паспавядаўшыся, крыху лягчэйшым крокам падаюся глыбей — да патрэсканай бетоннай пліты на брацкай магіле, у якой, па словах дзеда Бусла, ляжыць мая родная, у два разы маладзейшая за мяне.

І тут пяшчотна, ціха, да драбніц знаёмае: «Азірніся, сынок...».

Так сціснула, не дыхнуць. Патыхні гаючым водарам чабору, не гані ў тлум ад матчыных магіл, палані старажытную песняю, уваскрасі вечную малітвую, абнаві мае думы, утаймуй маю смагу, Родная Зямля!

# Пісьмёны лёсу



Рыгор СІТНІЦА



*Ізноўку лістота злятае*
*з маркотных галін*
*І штосьці вярэдзіць салодка, балюча,*
*шчымліва,*
*Як песня, што ведаў, але не згадаю*
*матыва,*
*Як смутны і кволы, але дарагі напамін.*

*І зробіцца сумна. Ды ўсё ж гэта будзе*
*не сум,*
*А іншае нешта надыдзе, наступіць,*
*настане...*
*Ці ў чым вінаваты, і прагне душа*
*даравання?*
*І грэх той забыты яе працінае дазвання,*
*Ці мо шкадаванне я нейкае ў сэрцы нясу,*
*Ды не разумею па кім, ці па чым*
*шкадаванне?..*

*Я нешта згубіў. Але што, але дзе і калі?*
*І мёртвае лісце ляціць па ўчарнелай зямлі.*
**1999 г.**

### Казка

*Я зусім выпадкова падгледзеў*
*і толькі табе скажу, —*
*Мой знаёмы ліхтар закахаўся*
*ў дачку пазаўчарашняга дажджу,*
*У маленькую лужынку,*
*поўную неба і сонечнага святла...*
*О, якім яна дзівам*
*у смутак ягоных вачэй увайшла!*
*І святочнымі сталіся раптам*
*заўсёдна-будзённыя дні.*
*Ён паверыў, што межаў не маюць*
*прадонні яе глыбіні;*
*І забыўся на ўсё:*
*не бачыў ні дрэў, ні машын, ні людзей...*
*Толькі лужынцы любай*
*закахана ў вочы глядзеў.*
*А яна таксама*
*ад яго не магла адвесці вачэй;*
*І святло ліхтарнае*
*станавілася кожнае ночы ярчэй.*
*І паміж астатніх*
*ліхтароў і лужын тутэйшай зямлі*
*Шчаслівейшымі самымі*
*гэтыя двое напэўна былі.*
*Вось такая цудоўная*
*пасялілася казка ў нашым двары,*
*І зайздросцілі ёй*
*усе лужыны і ўсе ліхтары;*
*А каханак наіўны*
*нават і думаць не думаў, чаму*
*Усё меншай і меншай*
*чароўная лужынка бачылася яму.*
*Ды хвілінаю нейкаю*
*сталася ўсё несапраўдным вакол, —*
*Замяж адлюстравання свайго*
*ён пабачыў брудны асфальтавы дол;*
*І лянівы вецер варушыў, нібы смецце,*
*парэшткі нейкіх падзей;*
*І аднекуль узнікла*
*працьма пачварных дрэвамашыналюдзей;*
*І такім недарэчным*
*яму падаўся жыцця забытага шал...*
*І прабачце, што сумным*
*будзе ў гэтае дзеі фінал.*
*Бо да шэрай зямлі прыкаваны*
*журботным паглядам, усё ж*
*Той ліхтар у нябёсаў вымольвае нема*
*пасляць яму дождж...*
*Ды адкуль яму ведаць*
*выснову сумна-разумных людзей:*
*Што ніколі нам двойчы*
*не быць у адной і той жа вадзе.*
**1999 г.**

***

*Пра што гаворыць птушыны клінапіс*
*На снезе белым, нібы пергамент?*
*Пра што яліны крэсляць галінамі,*
*Даверыўшы воблаку свой тэстамент?*
*І гэтых аблокаў маўклівы рух,*
*І рэха зліваў і завірух,*
*І цемры велічнае Нішто —*
*Пра што?*
*Пра што вы, поле, сцяжына, камень?*
*Пра што? — імгненна.*
*Пра што? — вякамі:*
*Адбітак,*
*водгулле,*
*рэха,*
*след...*
*Калісь аднойчы я стану Вамі,*
*Тады спасцігну Ваш альфабэт.*
**2000 г.**

***

*Прасілася сцюжа пусціць яе на пастой;*
*Ды холаду ўсім ставала, бо не пустой*
*Пячора была ў той вечар, і хоць у той*
*Мясціне снежань завецца зусім іначай*
*З прычыны адсутнасці снегу, але мяло*
*Пяском і мякінай, і холадна ўсім было,*
*Апроч натомленай Маці, бо ў той*
*дзіцячай*
*Усмешцы першай столькі было цяпла,*
*Што раптам вільготным зрабіўся*
*пагляд вала,*
*І вочы авечак святлом слязіліся ціхім,*
*І шчасце капала з веек у парадзіхі...*

*А з высяў, яшчэ недасяжнае і слабое,*
*Ёй чулася: «Радуйся, Дзева,*
*Гасподзь з Табою...»*
**2000 г.**

***

*Звечарэламу пляжу за дзень*
*надакучыла перасыпаць*
*Сваю зыбкую сутнасць пад цяжарам*
*тысячаў целаў.*
*О, як добра цяпер яму быць*
*даўбдна апусцелым;*
*І змарнелае сонца збіраецца*
*класціся спаць,*
*Галаву, як дзіця, накрываючы*
*коўдраю мора,*
*А схуднеламу дню самы час*
*падавацца ва ўчора.*
*Я да ростаняў дальніх паглядам*
*праводжу яго,*
*І аблашчыць душу маю*
*цуду далёкага подых,*
*І між хваляў барвяных*
*пазнаю аблічча Таго,*
*Хто на свеце аддзіны*
*ступаць умее па водах.*
**2002 г.**

***

*Ля дзвярэй філармоніі*
*ці на прыступках музычнай вучэльні*
*Выпадковыя гукі*
*прыжыцца спрабуюць у нотнай сябрыне,*
*Бо любому з іх хочацца*
*быць хоць бы трохі скрыпічным*
*ці віяланчэльным,*
*Радавод ведучы свой*
*ад Моцарта*
*ці Паганіні.*
**2002 г.**

### Пад музыку Вівальдзі

*Жоўтае лісце на змоклым асфальце*
*Праступае, шукаючы выйсця...*
*Гэта было, прыгадай, у Вівальдзі:*
*Сцежкі вільготныя, жоўтае лісце...*
*Гэта пасля паўтаралася з намі,*
*Гэта вярталася крозамі, снамі...*
*Гэта ў душы маёй перапляліся*
*Сцежкі вільготныя, жоўтае лісце.*
*Гэта дары твае, праведны Ойча!*
*У мітусні, у аблудздзі, бязладдзі*
*Нас уратуюць яшчэ не аднойчы*
*Жоўтае лісце і гукі Вівальдзі.*
**2007 г.**

***

***Г. М. Бураўкіну***

*П'едэстал, трыбуна ці турма,*
*Кайданам бліщчэць ці эпалетам,*
*У паэта выбару няма,*
*Акрамя, як толькі быць паэтам.*
*Хай завецца золатам г...но,*
*Хай дарога спыніцца астрогам, —*
*У паэта выйсце ёсць адно —*
*Прамаўляць намоўчанае Богам.*
**2011 г.**

***

*А таму, што так лёгка прыйшла,*
*і так проста, быццам няўзнак,*
*Праз гадоў прадонне пераступіла*
*амаль у біблейскі міф,*
*І таму, што назваць гэта ўсё*
*я дасюль не ведаю, як, —*
*Я назваў цябе Суламіф.*
*І няхай не было аліваў*
*і ксты вінаградных лоз*
*Не маглі тваё цела лашчыць*
*і так, як тую, любіць,*
*Ды здалося, — тваё прышэсце*
*адвязны выдумаў лёс...*
*Ну што мне было рабіць?..*
*І таму, што зусім не цар я*
*ні духам, а ні па радні,*
*І прыгожым міфам*
*даўно ўжо аблудны не верыць свет,*
*Каб хоць неяк нашае ўсё*
*захінуць ад будзённай хлусні,*
*Я назваўся — Паэт.*
*І раскоша тваіх таямніцаў*
*мне мёду была саладзей,*
*І тваё віно смактаў я,*
*нібы згаладалы звер,*
*І квітнеў пацалункавым шалам*
*на клумбах юных грудзей*
*Мой самы свавольны верш.*
*Ты купала мяне ў лагодзе*
*амаль на мяжы забыцця,*
*Я цябе, апранаючы ў вершы,*
*як мог, захінаў ад страт...*
*Ды, у люстэрка глянуўшы, згадваў,*
*што ты мне — амаль дзіця,*
*І што час — мой вораг і кат.*
*Ты ўжо хутка мяне пакінеш,*
*бо лёс падае мне знак,*
*Але знікнуць табе не дам я*
*ні ў сон, ні ў замшэлы міф,*
*Бо цябе пасяліў я ў вершы,*
*бо ведай, — не проста так*
*Я назваў цябе Суламіф.*
**2013 г.**

### Шпацыр па Грушаўцы

***I***

*Як ветрам узнятыя ветразі,*
*Тапалі трапечуць і клёны;*
*І ходзіць у ветраным веразде*
*Не дужа цвярозы верасень*
*Па Грушаўцы залачонай,*
*(Што ў места — дачкою хрышчонай,*
*Ды з Бахусам заручонай).*
*Па бруку, засланаму лісцем,*
*Па Грушаўцы, той, што калісьці,*
*Напэўна яшчэ да саветаў —*
*Ды хто ўжо згадае пра гэта? —*
*Пайшла ў гарадскія заробкі*
*Да места суседняга Менску,*
*(Стаміўшыся быць «дзеравенскай»,*
*З вяскоўцаў пайшла назаўсёды);*
*Пайшла, ды, відаць, заблудзіла,*
*Ці можа ў дарозе прыстала,*
*Не здужаўшы шлях той адолець,*
*Бо вёскаю быць перастала,*
*Але ж і дасёння — не горад.*
*І ў гэтым ёсць сціплае шчасце*
*Для ўсіх саматужных паэтаў,*
*Што мройнаю вулкаю гэтай,*
*Без пэўных блукаючы мэтаў,*
*Свае летуценні згадаюць;*
*А ў тым, як лісты ападаюць,*
*Канечне ж, угледзяць прыкмету*
*Кахання былога і лета...*
*А што найважней для паэта,*
*Чым гэтая ціхая радасць:*
*Парушыўшы звыклы парадак,*
*Удвох са сваёй адзінотай*
*Пайсці, заблудзіўшыся ўпотай,*
*На некалькі шчасных гадзінаў?..*
*І хай сабе смешным і дзіўным*
*Здаецца камусьці такое,*
*Ды можна на тое рукою*
*Махнуць і ў самое зацішнай*
*На вуліцы гэтай не лішнім*
*Пабыць, не апошнім, не першым,*
*Чытаючы кволыя вершы*
*Платам, ліхтарам і сабакам*
*Пад вокнамі змрочных баракаў...*
*Святкуй, вераснёўскі паэце!*
*Бо, пэўна ж, не знойдзеш у свеце*
*Чагосьці істотнага болей,*
*Чым шэрае голле тапаляў,*
*Ды іхняя доўгія цені*
*У шолаху і шамаценні*
*На вулцы, заваленай лісцем,*
*На Грушаўцы, той, што калісьці...*
**1998 г.**

***II***

*На парушанай Грушаўцы,*
*дзе блукала калісьці амаль бязмэтава*
*Мая мроя паэтава;*
*Дзе абвал лістападавы,*
*дзе ў ягоным п'янкім шапатлівым меласе*
*Патанаў я ў пошуках*
*прамінулага часу слядоў і знакаў;*
*Дзе пісьмёны лёсу*
*распазнаць наіўна хацелася*
*У панурых вокнах баракаў.*

*Там я зноў свой смутак*
*вяду, нібы сталкер, ды лепш — паломнік*
*У нішто, дзе месца*
*адно толькі згадкам, мярэжам, ценям;*
*Дзе блукаю, быццам*
*самому сабе пажыццёвы помнік,*
*Як даніна журботная*
*колішнім вершам, снам, летуценням.*

*Там цяпер экскаватар*
*пануе суладна з чыгуннай гіраю,*
*І не толькі сцены старыя*
*руйнуюцца, трушчацца, крышацца...*
*Да спаткання, Грушаўка,*
*у незваротным нябесным выраі.*
*Тут вершы болей не пішуцца.*
**2013 г.**

# Эпоха звера

## Старонкі рамана



Сяргей ВЕРАЦІЛА

— Дзеда, няўжо ўсё гэтае адбудзецца?

— Што «ўсё?»

— Ну тое, што павінна адбыцца, няўжо будзе?

— А што табе яшчэ хочацца ведаць?

— Я хачу ведаць, навошта паўтараецца казка? кім быў прыдуманы дождж? чаму ад прыгожага жыцця агню застаецца шэры попел? чаму я не магу абняць вецер? і каго можна не лічыць вар'ятам, калі гэты свет пакінула музыка?

— Гэта ўсё?

— Не. Яшчэ я хачу ведаць, калі заканчваюцца пытанні і колькі на іх існуе адказаў?..

Машына распарола фарамі начную цемень двара і спынілася, не даехаўшы да пад'езда. Кот ля дзвярэй адразу затурбаваўся. З машыны абавязкова выйдуць людзі, і ён зможа за імі ўпіхнуць сваё гнуткае цела ў цёплае сутонне пад'езда...

Кот напружыўся, але ягоная ўпэўненнасць не спраўдзілася. Людзі не рушылі да пад'езда, а спыніліся перад машынаю. Адзін абапёрся на капот, другі дастаў з кішэні штосьці пляскатае і прапанаваў:

— Закурым?

— Ого! «Герцагавіна — Флор»! У вас, товарищ лейтенант, как у Самого...

У ягоным голасе адчувалася шчырае захапленне. Наогул, эмоцыя неяк не звязвалася з чорна-бліскучаю аднастайнасцю вопраткі. Той, ля капота, узяў папяросу, і скрыначка зноў перакачавала ў гаспадарскую кішэнь. Яны закурылі. Кожны паасобку. Адвярнуўшыся ад ветру. Старанна хаваючы між далоняў агеньчык. Зрабілі па зацяжцы і, выпускаючы дым, адначасова зірнулі ўверх. Ва ўсім доме свяцілася толькі адно акно, і гэтае акно было мэтаю іхняга прыезду. Акно не толькі свяцілася, з яго яшчэ даносілася музыка. Ціхая. Час быў позні.

— Шапэн, — неяк абыякава сказаў гаспадар папяросаў, якога назвалі лейтэнантам.

— Вы всё знаете, товарищ капитан! — зноў захапіўся другі, той, што стаяў ля капота.

— Всё не всё, но работа у нас такая, чтобы всё знать.

— И что, я тоже буду знать так много, как и Вы?

— Будешь, но не столько.

— Почему? Я хочу знать много.

— Во многие мудрости — многие печали.

— Что Вы сказали, товарищ майор?

— Я говорю: у нас знают столько, сколько положено.

Лейтэнант адказваў ціха, спакойна, нават абыякава. І гэтая абыякавасць паказвала на тое, як мала вартасці ён надае сваёй інтэлектуальнай перавазе.

— А кто это сказал?

— Соломон. Один еврей.

— Бундовец? Ревизионист ?

— Да нет. Он давно жил, более двух тысяч лет назад.

— Наверное, умный был, раз Вы о нем помните. Нам бы его сюда, нам умные люди ой как нужны. Мы ведь сейчас строим новую жизнь, и у нас ему бы работа нашлась.

— А может, он у нас и работает?

— Ну и шуточки у Вас, товарищ старший лейтенант! А мне все равно хотелось бы знать много. Вот я специальность получил и уже работаю шофером, а не в забое, а если бы мне образование... — Голас шафёра ў канцы фразы стаў мяккім, — у нас в деревне одна бабка была: и шептала, и могла от суроку спасти, и знала, какая погода будет, и краденое находила. К ней все шли. Лучше попа́ жила.

— И где она теперь?

— Выслали.

— Многознание уму не научает, — усміхнуўся лейтэнант, ведаючы, што іронія шафёра не дастане.

— А кто это сказал?

— Гераклит Темный.

— Ну, раз темный, то и записывать не следует. Хотя и хорошо сказано.

— А ну, постой! Ты что, записываешь?

Толькі цяпер лейтэнант убачыў у шафёравых руках невялікі, але ёмісты нататнік у чорнай і бліскучай вокладцы.

— А я всегда за Вами записываю.

— Да я тебя, бл..ь этакую, в пыль лагерную разотру! Вошь барачная!

— А Вы не волнуйтесь, товарищ лейтенант, рапорт то все равно мне писать.

Лейтэнант сцішыўся. Уменне валодаць сваімі нервамі лейтэнант лічыў сваёй найвышэйшай вартасцю.

— Ладно, извини. Погорячился.

Скрыначка з папяросамі зноў выплыла з кішэні. Мужчыны закурылі.

— А этот, ну этот... икак его? — замяўся, нешта ўзгадваючы, шафёр.

— Кто этот? — насцярожыўся лейтэнант.

— Ну, этот, который музыку написал. Кто он?

— А, Шопэн, — чамусьці з палёгкаю выдыхнуў лейтэнант. Вопытнае вока, дарэчы, адразу б заўважыла, як у лейтэнанта дрыжаць рукі — па трымценні агеньчыку папяросы, — Поляк. Музыкант. Нравится?

— Мгм... — адказ быў шматзначны. «Белабандыт. Сука. Пілсудчык», — падумаў шафёр, але ўголас рэзюмаваць не стаў. Дакурвалі моўчкі. Кот увесь звёўся ў чаканні, калі адтуліцца цёплая зеўра пад'езда. Нарэшце, здаецца, дачакаўся. Дакурылі. Акуратна прыдушылі ботамі агеньчыкі. Лейтэнант паправіў паліто і рушыў. За ім адарваўся ад капота і шафёр.

— Дзеда, дзеда! А я сон бачыў.

— Сны не бачаць, а сняць.

— Деда, дык я сніў...

— Пра філасафа, які сніў, што ён мятлушка, якая сніла, што...

— Ды не. Гэта я раней сніў. І адкуль ты ведаеш? Я ж табе пра яго ніколі не расказваў.

— Хы — хы...

— Ты заўсёды з мяне падсмейваешся. А калі я стану старым, я таксама буду ведаць усё, як і ты?

— Ты не станеш старым.

— Як гэта... не стану? Ты ж стаў.

— Я быў.

— Так. Ты быў маленькім, а потым вырас і стаў дзедам. І я вырасту і стану дзедам, і буду хадзіць з маленькім хлопчыкам уздоўж берага, адказваць на пытанні і ўсміхацца.

— Толькі берага гэтага не будзе...

— Як гэта не будзе? Гэты бераг будзе заўсёды. Нас не стане, а бераг будзе. Мы ідзем, а бераг застаецца, і мы вяртаемся да яго, і мора шануе пясок і сцірае сляды выпадковых словаў. А за даляглядам — новы бераг, да яго імкнецца душа, а сэрца — да гэтага берага. І любая ракавінка лёгка пацвердзіць сваім шамаценнем нязменлівасць гэтага мора, гэтых хваляў, гэтага берага. Нас не стане... А нас не стане?

— Не стане, не стане, не стане, так проста, прасцей не бывае,

— Мора падрабляе словы. Толькі я разабраць іх не магу...

Недзе далёка загучэла машына. Гук было добра чуваць, бо тут заўсёды было ціха. Ён скалымнуўся: «Усё, пара». Ён ні хвіліны не сумняваўся, што едуць па яго. Яшчэ раз агледзеў пакой. Яшчэ пазаўчора, не, нават да ўчарашнее раніцы ён жыў спакойна, але гэты тэлефонны званок... Ён па звычцы ляніва падышоў да апарата, па звычцы ляніва падняў слухаўку, і яму давялося прыкласці максімум намаганняў, каб саслужбоўцы не заўважылі ягонай шалёнай разгубленасці.

— За Вамі прыедуць. Заўтра.

Голас быў уладны, упэўнены і адначасова безынтанацыйны, і ён чамусьці паверыў у тое, што так і будзе.

Два дні ён рыхтаваўся да ўцёкаў, хаця ўцякаць не было куды, бо за жыццё ён ніколі не падумаў пра надзейныя схованкі. Сяброў, якія маглі б рызыкнуць даць прытулак, ён не меў. У асноўным — жанчыны, але хавацца ў іх ён лічыў ніжэйшым ад сваёй годнасці. Гук машыны ўсё набліжаўся і набліжаўся. Але ісці не хацелася. Прыходы — сыходы...

— Ну што ж, мы прыходзім дзеля таго, каб пайсці. І калі мы не спяшаемся гэта зрабіць, дык прыходзяць па нас, — яшчэ пазаўчора такая філасафема падняла б яму настрой, яшчэ пазаўчора, нават да ўчарашняга ранку, але зусім не сёння.



— Ладно. Я пойду.

— Товарищ лейтенант, я с Вами.

— Оставайся здесь, — лейтэнантаў голас раптам стаў жорсткім і халодным, і шафёру ў галаву не прыйшло аспрэчваць рашэнне, хаця па статуце ён павінен быў суправаджаць камандзіра. Ён і не стаў аспрэчваць, а звярнуўся з просьбаю:

— Товарищ лейтенант, можно...

— Я же сказал, нет.

— Товарищ лейтенант, я только папироску хотел.

— А, закурить. Возьми все.

— Да нет. Благодарю. Мне и одной хватит.

Лейтэнант паклаў пачак у кішэнь і ўжо хацеў ісці, але нешта незвычайнае ў позірку шафёра прымусіла яго затрымацца.

— Ну, что тебе еще?

— А ўсе-такі дзіўна...

— Што «дзіўна»?

— Кажуць, што ён — сын Самога.

— Я стараюся аб гэтым не думаць.

— Не думаць! — засмяяўся люты вецер.

— Ты нешта сказаў?

— Не. Гэта вецер. Ён у такія ночы як быццам гаворыць.

У яго, як ён і спадзяваўся, меўся ў запасе час прынамсі дзеля таго, каб здзейсніць адразу два ўлюбёныя заняткі: выкурыць папяросу і выпіць кубак гарачага чаю без цукру. Плюс да таго можна паслухаць пару начніц няшчаснага паляка. У яго яшчэ ёсць час, бо яны звычайна прыязджаюць пасля апоўначы, калі чалавек зусім цёплы і як бы не чакае. Так, звычайна апоўначы. Увечары чалавек чакае, увесь напружаны. Час ідзе, па яго не едуць, і спакваля нараджаецца спадзеў, што, можа быць, не сёння. Ну вось і дзень канчаткова мінуў, і не прыехалі. І навошта ім гэта рабіць уначы, калі гэта можна зрабіць удзень, а яшчэ лепей — увечары. Яны таксама людзі і таксама любяць спаць па начах. Ну, здаецца, не прыедуць. Можна класціся спаць. Яшчэ колькі будзе трывожна, не ў такт гадзінніку, тахкаць сэрца, а потым сон канчаткова адрэжа ад жорсткае рэчаіснасці. А тут раз — і агаломшаць: «Што, сукі, не чакалі?» Мусіць, ёсць нейкая асаблівая асалода ў назіранні паўсоннае разгубленасці, мокрых ад слёзаў вачэй, мітусні, суправаджаемай прыглушанымі галасамі. Ад словаў такіх, паўтараемых і таму такіх звыкла ніякіх: «Товарищи... Это ошибка... Я буду писать Самому...» Хаця, мусіць, дарэмна шукаць нейкую логіку ў іхніх прыездах. Яны едуць і ўначы, і ўранку, і ўдзень, і ўвечары. Вакол ворагі...

Да апоўначы ў яго яшчэ ёсць колькі часу, а потым ён будзе далёка.

Ногі быццам свінцом наліліся, і ад самых пятаў да макаўкі прайшла хваля непрыемнае гарачыні, і ажно пад сэрцам закалола. Лейтэнант ніколі б раней не падумаў, што нейкі звычайны візіт, самая што ні на ёсць «будзённая аперацыя» можа прымусіць яго так хвалявацца. І ён тады зрабіў тое, што рабіў ужо некалькі разоў, калі падводзілі нервы. Гэта было ягонаю прыдумкаю і ягонаю таямніцаю. Гэты таямнічы сродак заключаўся ў тым, што ў хвіліну страху й небяспекі лейтэнант выклікаў у памяці постаць Важара. Той уважліва, па-бацькоўску глядзеў на яго, прыгладжваў невялічкаю далонню рудыя з сівізною валасы, а другую руку з заціснутаю піпкай закладваў за спіну і, па-добраму ўсміхнуўшыся, нахіляўся да лейтэнанта. І за гэты позірк, за гэтую ўсмешку, за ўвагу Тытана да ягонае мікраскапічнае асобы лейтэнант быў гатовы да любога подзвігу, да любое ахвяры...

Да маквісу заставалася ўсяго на адзін кідок цела. Усяго адзін — і ён вольны. Але якраз у гэты момант ягонае цела спаралізаваў страх. Вершнікі ўжо былі блізка, настолькі блізка, што ён бы лёгка мог разгледзець любую дробязь, калі б захацеў гэта зрабіць. Ён ляжаў на зямлі ў позе, прызначанай для скачка, што так і не адбыўся. Вушы яго, прыціснутыя да вялікай прыгожай галавы, сведчылі жах. Тое самае маглі пацвердзіць скругленыя і расшыраныя да немагчымага зялёныя вочы. Поўная вырачанасць і пакорлівая нерухомасць звера сведчылі на перамогу чалавека. Сутыкненне двух сусветаў: дзікага і цывілізаванага, выявіла перамогу апошняга, і гэтая перамога была неаспрэчнаю. У той момант, калі ягуар залёг, вершнікі рассыпаліся і ўтварылі паўкола, канцы якога ўпіраліся ў маквіс. Паўкола сціснулася, і ад бліжэйшага вершніка, а значыць і ад смерці, ягуара аддзялялі якіх небудзь пяцьдзясят крокаў. Прага жыцця, што заўсёды так радасна спружыніла цягліцы, пакінула звера, і ён абыякава і зацкавана рыхтаваўся да лёсу паляўнічага трафею. Раптам той вершнік, што быў найбліжэй, падняў руку, і гэты жэст спыніў пагоню. Разам з людзьмі і коньмі спынілі свой бег і сабакі, толькі

брахаць не перасталі. Людзі разззлавана крычалі на коней і на сабак. А той вершнік, што спыніў пагоню, зірнуў у зялёныя ягуаравыя вочы сваімі зялёнымі вачыма і, не адводзячы позірк, стаў пад'яджаць да звера ўсё бліжэй і бліжэй.

— I Cuidado! Don Jose, Cuidado! — закрычалі вершнікі.

Але той, не адводзячы позірка ад ягуаравых вачэй і не звяртаючы ўвагі на папярэджанні, пад'язджаў усё бліжэй. Конь, адчуваючы драпежніка, дрыжэў усім целам і фырчэў, але нат не рабіў спробаў вырвацца. Калі да звера засталося самае большае крокаў з пятнаццаць, вершнік спыніўся, і ягоная правая рука дастала карабін з убранага срэбрам футарала, прымацаванага да сядла, таксама ўбранага срэбрам. Чалавек узняў карабін, і мушка спачатку адзначыла ніжнюю частку пысы з грознымі іклямі, потым бы ўперлася ў нос, потым на нейкае імгненне затрымалася паміж круглых, поўных жаху вачэй. У гэты момант позіркі сустрэліся, і чалавек убачыў у вачах звера адчай, безнадзейнасць і разам з тым поўнае раўнадушша да лёсу. Позірк як быццам казаў: «Жыццё — барацьба, і ў ёй ёсць заўсёды пераможцы і пераможаныя. Ты — перамог і можаш узяць маю кроў». Чалавек перамог, і кроў рабілася непатрэбнаю.

— I Don Jose, pusil, pusil! — закрычалі вершнікі.

Але чалавек запавольваў тое імгненне, калі палец быў павінен націснуць курок. Чалавек ужо не хацеў крыві. I гэтым запавольваннем зеленавокі чалавек даваў шанец зеленавокаму зверу. Ягуар скарыстаў гэты шанец. Адзін кідок цела, і кусты расхінуліся яму насустрач. Тут жа іхняе гнуткае калючае галлё захінулася, адразаючы шлях пагоні. Наўздагон прагучалі стрэлы, і адна з куляў нават джыганула недзе ў правым баку па рэбрах. Вершнікі спусцілі сабак, маквіс быў для іх запаведнаю зонай, бо ўсе яны былі трэніраваныя для адкрытых прастораў, можа, толькі акрамя велічэзнага ваўчара, які лёгка душыў каётаў сваімі магутнымі сківіцамі, і, зразумела, саслаблены ягуар быў ягонаю законнаю здабычай. Ваўчар імчаў след у след за ягуарам; яшчэ адзін скачок, і магутныя сківіцы злучацца на варожай шыі, і белыя шматкі сліны змяшаюцца з крывёю. Яшчэ адзін скачок...

Ягуар рэзка развярнуўся і моцна ўдарыў лапаю па неабароненым жываце. Пяць выдатна навостраных кіпцюроў адначасова выслізнулі з-пад мазалёвых падушачак і паласнулі мяккі сабачы жывот. Удар быў і моцны, і трапны. Шызыя кішкі адразу ж вываліліся вонкі, але гэта не спыніла ваўчара. Ён прагнуў варожага горла. Яшчэ крыху... Кішкі, зачапіўшыся за куст, замарудзілі смертаноснае рушэнне. Ягуар жа скаціўся ўбок, ускочыў на чатыры лапы, выгнуў спіну, зашыпеў, спружыніў уверх і сакрушальным ударам лапы пераламаў сабачы хрыбет...

Машына была ўжо зусім блізка. Ён добра пачуў, як яна спынілася каля дома. Часу ўжо не заставалася. Усё. Сысці. Прыходы-сыходы. Ён паставіў на прайгравальнік сорак пятую «Развітальную» і яшчэ раз абвёў вачыма пакой. Эх, каб можна было тут застацца, ён быў бы шчаслівым чалавекам. Як мала часам чалавеку патрэбна, каб адчуць дотык сапраўднага, без выдумак шчасця! Часу ўжо не заставалася, і праз дзверы ўжо не выйдзеш, машына ля пад'езда. Яшчэ заставалася вакно на кухні. Дзякуй Богу, у яго толькі другі паверх. Ён падхапіў упакаваны заплечнік і рушыў на кухню. Шыбу адчыняў асцярожна, чамусьці баяўся пабіць шкло. Сабачку заела, і ён добрую хвіліну правалтузіўся з ёй. Ад напругі ажно рукі пачалі дрыжэць. Нарэшце адчыніў і адразу кінуў уніз заплечнік. Заплечнік зачапіўся за лапу вішні, што расла пад вакном, павісеў на ёй крыху і ўпаў на зямлю. Ён цяжка залез на падваконне, і ў твар дыхнула вільготным холадам. Можна было дадаць, што паветра, як і зазвычай восеньскаю парою, пахла сапрэлымі лісцямі, але ён гэтага не заўважыў, як не заўважыў мокрага неба, на якім не было ніводнае зоркі, як не заўважыў поўні, што зрэдчас адбівалася ў вялікай лужыне. Ён зірнуў уніз і адначасова здзівіўся і спалохаўся. Здзівіўся таму, бо ніколі не ўяўляў, што другі паверх — гэта ўсё-ткі дастаткова значная вышыня... Адначасна са здзіўленнем ён спалохаўся, бо вышыня яго заўсёды палохала, прынамсі з таго часу, як мінула дзяцінства, недзе з год пятнаццаці. Рашучасць адразу знікла, яе замянілі дрыжыкі ў каленях і нешта вельмі блізка падобнае да ванітавання. Чамусьці цяпер ён адчуў заўсёдны восеньскі пах: пах сапрэлага лісця. Цяпер ён убачыў поўню, што адбілася ў вялікай лужыне, якраз у той момант, калі ён зірнуў на лужыну. Пах падаўся яму непрыемным, поўня — злавеснай, а вецер — аж занадта халодным. Яму да смерці захацелася назад ва ўтульную закуранасць кватэры, але раптам адна ўзгадка прымусіла яго ўсміхнуцца. Ён узгадаў аднаго са сваіх сяброў, у якога быў кот, нават не кот, а, лічы, усю кацяня. Дык гэты кот самае малое разы чатыры звальваўся з форткі, а паверх у сябра быў пяты. Нічога кату не было...

Успамін пра ката крыху ўзняў настрой, і ў галаву прыйшла думка скокнуць на дрэва. Гэта яго ўзбадзёрыла, але, змерыўшы вокам адлегласць, зразумеў, што не дацягне і пляснецца жыватом...

Дзверы ў пад'ездзе ляпнулі, ён гэта добра пачуў. Іхні гук вярнуў яму былую рашучасць, і ўсё-ткі дзыгаць было боязна. Ён прысеў, павярнуўся і кінуў задам ногі з вакна, а рукамі ўчапіўся за падвоканне з унутранага боку пакою. Хоць трохі, але ніжэй. Ён павісеў такім чынам зусім нядоўга, але расціснуць пальцы так і не наважыўся. Да яго прыйшла ідэя, як зрабіць, каб да зямлі было яшчэ ніжэй. Ён адпусціў адну руку і тут жа ўхапіўся за бровачку, да якой мацавалася шыба, праўда, ён не быў упэўнены, што бровачка ўтрымае ягоную немалую, пад дзевяноста, вагу, але разважаць не было калі, і ён такім жа чынам перамяніў і другую руку. Цяпер ён — значна бліжэй да зямлі і можна дзыгаць.

Кім Секялевіч — так звалі шафёра — закурыў, бо лейтэнант зараз выйдзе, і тады ўжо доўга будзе не да курава. Тым больш, што пад папяросу думаць аб прыемным было яшчэ больш прыемна. А самым прыемным была ежа. Секялевіч ужо рыхтаваўся пагрузіцца ў салодкія мроі пра свежаніну, як нечаканна з-за рогу суседскага дома, быццам які зладзюга, вылецеў халодны вецер. Ён жорстка сцебануў шафёра па твары і руках, выхапіў з раптам саслаблых вуснаў папяросу, працягнуў яе крыху па асфальце, вытрахаючы знічкі, і шпурлянуў у лужыну. Аднекуль прыгнаў хмару і патушыў ёю і без таго слабое святло маладзічка. Зрабілася няўтульна, а вецер жангляваў сярод амаль голых сіротліва-чорных дрэваў, шурпата непакоіў апалую лістоту і гучна страляў незачыненаю форткай. Няўтульна зрабілася яшчэ і таму, што вецер умудрыўся прабрацца пад скуранное паліто і дастаць пад рэбры да самага сэрца, аж да вантробаў. Увесь свет напоўніўся рогатам, плачам, скрыгатам, енкамі, крыкамі, тупатам і звонам. I ўсё гэта імчала міма яго, турзала за рукі, за крысо паліто, зазірала яму ў вочы, крычэла ў вушы, казытліва лезла ў нос. Стала па-сапраўднаму страшна, і Секелевіч, каб пазбыцца страху, заспяваў...

Лейтэнант працягнуў руку да званка, але потым перадумаў і рашуча націснуў на дзвярную ручку. Дзверы, як ён і меркаваў, былі незачыненымі, адчыніліся яны без звыклага рыпення. Звычайна тыя насельнікі, да якіх візітаваў лейтэнант, мала клапаціліся пра знешні бок побыту. У калідоры было цёмна. Лейтэнант намацаў выключальнік і шчоўкнуў тумблерам: у сенцах нічога незвычайнага не было: акуратна састаўлены абутак, сцянная шафа для вопраткі, вялікае люстэрка. Яму раптам пакутліва захацелася ўспомніць нешта важнае, чаго ён, можа быць, і не ведаў, і гэтае балючае жаданне прымусіла яго спыніцца...

Ён ведаў, што яны ўжо на падыходзе, але, натуральна, ім не прыйдзе ў галаву абкружыць дом.

Ён расчыніў шыбу, паправіў на поясе меч і спрытна скокнуў на лапу арэхавага дрэва, што расло побач з домам, крыху павісеў на суку, саскочыў уніз на кукішкі, спружыніў і стрымгалоў паляцеў да сцяны. Сцяна з усіх бакоў абкружала дом і была даволі высокаю. Яна была заплеценая ў вінаградныя лозы. Ён лёгка ўскочыў на сцяну, лаза вытрымала ягоную вагу. Ён прабег тры вуліцы: Кавалёў, Вугальшчыкаў, Фурманаў. Там якраз за трэцяй хаткай начнога вартаўніка, што амаль прылепілася да гарадскога мура, мелася брамка. За брамкаю яго чакалі: конь, грошы і свабода. Каня трымаў незнаёмы хлапец гадоў пятнаццаці, побач стаяла жанчына ўся ў чорным, і яна падалася яму знаёмаю, не зважаючы на тое, што твар ейны быў пакрыты чорным вэлюмам. Ён працягнуў руку і адкінуў вэлюм:

— Графіня?...

У вачах жанчыны былі слёзы.

— Графіня, я кахаю Вас, — крыкнуў ён ужо з каня і дадаў: — Яны мяне не возьмуць!

Ён ударыў каня ў бакі, а вецер ударыў яму ў твар, і неўзабаве ён ужо імчаў, не, нават ляцеў па полі. Кароткі плашч, разгорнуты ветрам, нагадваў крылы, і здалёк у паўзмроку вечара ён сам нагадваў дзіўную істоту: крылатага кентаўра.

«Яны мяне не возьмуць», — прашаптаў ён, але пальцаў не расціснуў. Хоць ён цяпер і бліжэй да зямлі, але дзыгаць баяўся.

Дзверы ў яго кватэры адкрыліся, ён добра пачуў тое, рашуча расціснуў пальцы і рухнуў уніз. Чамусьці стала светла-светла, столькі святла ён ніколі нават уявіць не мог, цэлае мора, цэлы акіян святла, і, што было самым дзіўным, гэтае святло зусім не рэзала па вачах. Ён ужо збіраўся ўзняцца, як раптам над ім нахілілася постаць з тварам чыстым-чыстым і вачыма, поўнымі незвычайнае цеплыні. I ён запытаў незнаёмца:

— Ты хто?

— Я — анёл.

— Ты адтуль?

— Адтуль.

Ён яшчэ знайшоў сілы, крыху прыўзняўся і, усміхнуўшыся, прашаптаў: «Яны мяне не возьмуць»...

Лейтэнант яшчэ раз зірнуў на аксамітавы лапік, намагаючыся ўспомніць нешта важнае, але не меў на тое ні часу, ні права — работа.

Прайшоў вузкім калідорчыкам у асветлены пакой, дзе парыпвала заезджаная кружэлка. «Развітальная», — суха адзначыў ён.

Стол быў завалены кнігамі і паперамі, як і звычайна ў падобных кватэрах. Ля адной сцяны — канапа з пледам і падушкай, у любы час можна прылегчы, супрацьлеглая ад канапы сцяна ўся ад падлогі да столі застаўлена кнігамі. Над канапаю павешаны даволі значных памераў жаночы партрэт, напісаны алеем. У вочы кідаўся смуткавы выраз прыгожага твару. Ля сцяны з кнігамі — зэдлік з прайгравальнікам. Лейтэнант яшчэ дадаў да ўбачанага: саморобную мапу Крыта над сталом і зусім невялічкую іконку Божае Маці, але гаспадара ў пакоі не было.

— На кухні, — скеміў лейтэнант і накіраваўся на кухню тым жа самым калідорчыкам. Твар сустрэў павеў халоднага ветру, а на кухні таксама было пуста, калі не лічыць звычайнага кухоннага абсталявання. Чамусьці адчыненую шыбу са слядамі ботаў на падвоканні лейтэнант заўважыў не адразу, а калі заўважыў, дык усё зразумеў, — яму нат не трэба было падыходзіць да вакна: усё і так было ясна.

Лейтэнант лятом зляцеў уніз, амаль не адчуваючы прыступак, і яшчэ з выхаду ў пад'езд крыкнуў шафёру:

— Секелевіч, за дом. Ну!

Шафёр, як апантаны, рвануў ад машыны, а лейтэнант пабег з другога боку. «Херня, возьмем!» — на бягу думаў ён, супакойваючы сябе. Ён рвануў на дарогу, але там было пуста і цёмна.

— Лейтэнант, сюды, — пачуў ён шафёраў голас, якраз з таго месца, насупраць якога свяцілася акно кухні. «Лейтэнант, не трэба бегаць, ён гатовы». Лейтэнант нахіліўся над целам і пацвердзіў:

— Так, гатовы. Такі пракол.

— Опоздали.

— Такой прокол.

— Что будем делать, товарищ лейтенант?

— Там есть кое-какие бумаги, их и подошьем к делу.

— Да...а. А труп-то к делу не подошьешь.

— Дело. Нам этого не простят.

— Не нам, а Вам, товариш лейтенант. Я только шофер: привез-увез.

Справы бралі вельмі кепскі накірунак, і трэба было нешта рашаць. У такіх выпадках заставалася толькі дзейнічаць хутка і рашуча, а разважаць потым. Звычайна гэты спосаб спрацоўваў. Секелевіч, працягваючы балбатаць, не заўважыў, як злосна бліснулі лейтэнантавыя вочы і як рэльефна вылучыліся да болю сціснутыя сківіцы.

— Ладно. Вот что: ты стой здесь и охраняй это и это, — лейтэнант паказаў на цела і заплечнік, што боўтаўся на дрэве, — а я пойду и вызову группу.

— Товарищ лейтенант, куда это Вы?

— Секелевич, ты идиот и фамилия твоя идиотская.

Гэта ўжо была правакацыя і крыўда, і шафёр сапраўды пакрыўдзіўся. Ён стаў набліжацца да лейтэнанта, пагрозліва нахіліўшы галаву, а правая рука пасунулася да адтапыранае кішэні.

— Товариш лейтенант... — далей фраза перайшла ў незразумелае булькатанне, бо вострая маланка нажа ўвайшла ў горла.

Секялевіч збялеў з твару, праўда, гэтага немагчыма было заўважыць з-за цемры, пахіснуўся і запаволена абсеў на зямлю. Лейтэнант злёгку падштурхнуў шафёра, і цела бясшумна склалася на зямлі, быццам наладоўваючыся спаць.

— Спі, алень, — ці то ўсміхнуўся, ці то ўзлаваўся лейтэнант.

Праз імгненне, быццам нешта прыгадаўшы, нахіліўся да трупа, пашарыў у кішэнях скуранога паліто: пісталет, чорны нататнік, партманэт. Потым рашуча скінуў з сябе сваё чорнае скуранае паліто і капялюш, і чорны бушлат з моцнае грубае тканіны з першага трупа змяніў гаспадара. Зірнуў на абедзьве ахвяры, але нічога не сказаў, толькі ўсмешкаю злавесна бліснулі белыя, зусім не чалавечыя зубы. Ён павярнуўся, і цемра звыкла і прагна глынула постаць. Толькі яшчэ нейкі час цішыня слухала крокі. Лейтэнант аддаляўся спачатку павольна, а потым усё шпарчэй і шпарчэй, пакуль хада не перарасла ў бег. Тэмп павялічваўся з кожным імгненнем. Вільгаць з усіх бакоў аточвала цела, але ён не заўважаў гэтае вільгаці, пакуль шматлікія пахі трапічнага лесу не ўварваліся ў нос і прыемна ўзбудзілі нервы. Надрыўна енчылі малпы, і з недалёкае ракі далятала важкае плёхканне алігатараў. Сцежка, выбітая аленямі, вяла да вадапою, дзе заўсёды была здабыча. Поўня, час ад часу выбіраючыся з-за хмараў, нечаканым прамянём высвечвала залацістую з чорнымі плямамі скуру, а потым імкліва хавалася за хмару, быццам спалохаўшыся фасфарычнага бляску круглых зялёных вачэй. Ягуар імчаў да вадапою, дзе яго заўсёды чакала здабыча з цёплаю крывёю ў венах і трапяткім пужлівым сэрцам...

# Алена Гінько

### Тузбіца

*Тузбіца.*
*Пастаўшчына...*
*Вярба*
*Хіліцца да рэчкі-ручаіны...*
*Храм пакут маіх, мая журба,*
*настальгія,*
*мой выток адзіны.*
*Вёска — незабудка,*
*каласок,*
*рунь надзей*
*і поле успамінаў —*
*туліцца цнатліва да лясоў...*
*Корань дрэва — тут.*
*А дзе галіны?*

*...Сцежачка крывая на клады...*
*..........*
*Сэрца, птушкай узляці да Неба!*
*Яркай знічкай азары брады,*
*лапік лесу,*
*вёску, поплаў, глебу.*
*Асвяці мне радасцю здаля*
*землякоў аблічча,*
*іх Святыні...*

*Тузбіца, пастаўская зямля, —*
*мой народ*
*ніколі тут не згіне.*

* * *

*Ляцець высока —*
*упасці нізка,*
*глядзець далёка —*
*убачыць зблізку.*
*Упасці —*
*і не падняцца,*
*убачыць —*
*расчаравацца.*
*Што лепей:*
*жаўрук?*
*сініца?*
*памерці ці нарадзіцца?*

* * *

*Прадчуванне блізкага дажджу —*
*быццам бы чаканне спавядання.*
*З ім хачу зацятасці іржу*
*змыць з душы , каб не было і звання.*

*Стоенасць прыроды данясе*
*да цябе патрэбу ачышчэння.*
*Ад праблем, што ўзычыў фарысей,*
*хочацца хоць нейкага збавення.*

*...І калі праве на небе гром*
*гэтую затоеную роспач,*
*ты заплачаш ліўням наўздагон,*
*ты з прыродаю пабудзеш поплеч.*

*...Вось і дыхаць стала ўжо лягчэй.*
*Вочы ўжо дабрэйшыя, не тыя.*
*Хоць на споведзь не хадзіла шчэ —*
*мне цяжар з душы залева змые.*

### Васількова плач

*...Ціша, спакой і гладзь,*
*роўнядзь. Ні ветру, ні буры.*
*...Мой васількова плач*
*сціплы, але пануры.*

*Бачу яшчэ здалёк:*
*ён усплывае адчайна —*
*радасна-ярасны ўсплёск,*
*горка-салодкая тайна...*

* * *

*Ты рабіны не руш*
*і вярбы не чапай —*
*тут мой край, дзе мой сад, дзе мой гай.*
*Тут матуля жыла,*
*я шчаслівай была,*
*тут застаўся дзяцінства рай.*

*...Па-над берагам*
*шэра птушачка*
*завяла пераліўны жаль,*
*завярэдзіла*
*маю душачку,*
*а сама паляцела ўдаль.*

### Малітва

*Божачка, дай мне сілы*
*вытраваць шквал нягод,*
*буру на лёс пахілы.*

*Зломлена, бы трыснёг,*
*вострым стаптана абцасам...*
*Што ж ты пакінуў, Бог?*

*Гэтак шукала святла,*
*сярод начэй блукала...*
*Я ж яшчэ й не жыла.*

*...Птушкаю паляту,*
*ў бездань нырну з адчаю...*
*Божачка, Божа, ратуй!*

* * *

*Я думала душой,*
*а быў патрэбны розум...*
*Я ж думала душой,*
*бо я была з табой.*
*Я думала душой,*
*адкінуўшы цвярозасць,*
*бо я жыла табой*
*і я была табой.*
*Я думала?..*
*Ды ну!..*
*Я ў мроіве лунала.*
*Цяпер сябе кляну*
*адну —*
*адну —*
*адну...*

* * *

*Я п'ю твой голас, як бальзам, —*
*ім поўняцца душы абшары...*
*Ці ласка боская, ці чары —*
*я п'ю твой голас — свой бальзам.*

*Пяшчотны голас — родны, твой!*
*Ён мне здаецца — салаўіным.*
*Растопіць ён трывог ільдзіны,*
*дзівосны голас — голас твой.*

*Такі і блізкі і чужы,*
*такі жадана-недасяжны...*
*Мне трэба чуць яго!*
*...Не важна,*
*што голас той — нібы з імжы.*

*Я п'ю яго, нібы нектар,*
*і захлынаюся ад прагі.*
*Баюся не спатоліць смагі.*
*І п'ю твой голас — божы дар.*

# Андрэй Козел

### Цяпло

*Калі змяшаюцца гады,*
*Калі наступіць цішыня,*
*Я буду помніць, што ёсць ты,*
*Ты будзеш помніць, што ёсць я.*

*Калі Зямля абрыне нас,*
*Калі запаліць нехта кнот,*
*Я буду ведаць гэты час,*
*Я не забуду гэты год!*

*Калі свой трэмар землятрус*
*Захоча здзейсніць пакрысе;*
*Калі забудзе беларус,*
*Што ён каму, куды нясе.*

*Калі сатруцца ў дробны пыл*
*Ўсе векавыя межы зла —*
*Адзін — пазнае, кім ён быў,*
*Другі — зазнае, кім быў я...*

*Абмаладжу свае гады*
*Зіхоткім полымем цяпла.*
*Я буду помніць, што ёсць ты,*
*Ты будзеш помніць, што ёсць я.*

* * *

*Я адпускаю*
*у былое,*
*тых, хто чужым*
*цяпер мне стаў.*
*Хто на пытанне:*
*«Ты са мною?..» —*
*Нічога мне*
*не адказаў.*

*І хто пайшоў*
*дарогай іншай*
*сярод мільёнаў*
*тых дарог.*
*Я тут не Бог,*
*трымаць каб лішніх,*
*і асуджаць*
*я тут —*
*не Бог.*

* * *

*Недапітая кава,*
*Недабіты ашчэпкі.*
*Не завершана справа:*
*Недалепкі — налепкі.*

*Не загоена рана,*
*Недапісаны вершы.*
*Недароблены кранам*
*Той паверх самы першы.*

*Не разбіта і шыба,*
*І акно не зашклёна.*
*Недалоўлена рыба,*
*Ліст не падае з клёна.*

*Недамараны мары,*
*І гузак не набіты.*
*Цвік надломлены мала*
*І яшчэ не забіты.*

*Недажатае жыта:*
*Каласы каласяцца.*
*А жыццё — не пражыта.*
*Дык чаго нам баяцца?*



# Таццяна Палхоўская

### Ніткі

*Сатканая з пахаў*
*І з ветру*
*З зямлі*
*З зялёнай коўдры*
*З надзеі вясны*
*З супакою стомы*
*З рэдкай гарачыні*
*З думак-рашэнняў*
*вымучаных знутры*
*З трывожных сноў*
*І пагрозлівых ранкаў*
*З размочаных у вадзе абаранкаў*
*Са стужкі часоў*
*Са стужкі для валасоў*
*З пераплеценых родных*
*і чужых галасоў*
*Са згарэлых дарог*
*Са змазоленых ног*
*З дотыкаў*
*Гукаў*
*Кавы ў начы*
*У цішы*
*У самоце*
*Самотная Я*
*сатканаЯ*

* * *

*У часе і прасторы*
*на белым лісце*
*крапляй крыві*
*застыла*
*мая*
*адзіная*
*краіна*
*бяры мяне за руку*
*пойдзем!*
*каб*
*убачыць сваімі вачыма*
*што*
*такое*
*яна*
*Родная зямля!*

**25 сакавіка 2012**

### Малітва

*Малітва*
*Штодзённая і шэрая*
*Трывае*
*Шукаю сцежкі крылаў*
*На скамянелай*
*Спіне*
*Знікае*
*Да апошняга зломка*
*Натхненне...*
*Звар'яцелая*
*У прыцемках памкнення*
*Забылася на цішыню!*
*Падняў*
*Сам насам*
*Адрадзіў з пяску*
*Рука ў руку*
*Глядзіш у вочы*
*Падняць*
*Не маю моцы*
*Позірк*
*Калені*
*Слёзы*
*Валасы*
*Цалую ногі*
*Спапялі...*
*Пакінь адну*
*Сваю*
*Непратаптаную*
*Дарогу ў Неба*

# Са скарбаў нямецкай лірыкі

Гэтая паэтычная нізка — з кнігі «Die schonsten deutschen Gedichte aus acht Jahrbundersten» («Найлепшыя нямецкія вершы за восем стагоддзяў»), выдадзенай у Гамбургу ў 2010 годзе і тымчасова падараванай мне выдатным берлінскім перакладчыкам, вялікім сябрам нашай літаратуры, ганаровым сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў Норбертам Рандавым. Спадар Рандаў, аддаючы перавагу прозе, пераклаў творы Я. Коласа, М. Гарэцкага, В. Быкава, А. Кудраўца ды інш., глыбока разбіраўся і ў паэзіі — перастварыў вершы Я. Купалы, А. Гаруна, А. Разанава, моцна дбаў пра ўзаемапранікненне нямецкай і беларускай літаратур наогул. У асобніку анталогіі, перададзеным праз Уладзіміра Арлова, ён нават пазначыў тыя вершы, на якія мне варта звярнуць пільную ўвагу, і зрабіў прыпіску: «Дужа цікава было б прачытаць іх па-беларуску».

На маю скруху, я паспеў даслаць яму ці не адзіны пераклад, з Ф. Шылера: год таму — 1 кастрычніка — майго старэйшага сябра не стала... Дык няхай гэтая лірычная нізка — не толькі з элегічных матываў — будзе маім павінавачаннем, а перадусім — сціплымі кветкамі ў вянок ягонай светлай памяці.

**Алесь Каско**



## Гайнрых ГАЙНЭ

### Пытанні

*Ля мора, дзе пуста, мора начнога
Дзябёлы стаіць юнак,
Спавіты тугою, працяты сумненнем,
І дрогкімі вуснамі пытаецца ў хваляў:
«О, развяжыце жыцця таямніцу,
Загадку, што мучыць адвеку
І гэтулькі ўжо галоў паламала, —
Галоў у вычварных шапках,
У турбанах і чорных барэтах,
У парыках і тысячу іншых
Бедных, спатнелых галоў, —
Скажыце, хто ён, чалавек?
Адкуль ён прыйшоў? Куды ён ідзе?
І хто жыве там, на зорах зіхоткіх?»
Мармычуць сабе безуважныя хвалі,
Дзьме вецер і гоніць аблокі,
Бліщчаць абыякава стылыя зоркі,
А дурань чакае адказу.*

### Дзе?

*Дзе натомлены вандроўнік
Знойдзе вечны свой спачын?
Мо пад пальмамі на поўдні?
Або ў Рэйна на плячы?*

*Буду сам дзе пахаваны —
Між пяскоў чужой рукой?
Ці мне сон наканаваны
Блізка з хваляю марской?*

*Там ці тут, нашто загадкі!
Бог паўсюль у вышыні,
А ўначы, нібы лампадкі,
Зорак хліпаюць агні.*

## Фрыдрых ГЭБЕЛЬ

### Рэквіем

*Душа, не пазбудзься іх,
Душа, не забудзь памерлых!*

*Зірні, яны ахінулі цябе
Дрогка, самотна,
І ў свячэнні святым
Любоўю іх зззяюць рукі;
Жаляцца яны і прагнуць
Наталіцца апошні раз
Сваім жыццём патухлым.*

*Душа, не пазбудзься іх,
Душа, не забудзь памерлых!*

*Зірні, яны ахінулі цябе
Дрогка, самотна,
І калі ты сябе астудзіш
Няіснасцю іх, яны застынуць
У нетрах бяздонных.
Тады ўскалыхне ноч бура,
І яны ад здранцвення збудзяцца,
Заўпарцяцца ў замку любові,
І пагоніць іх бура імклива
Скрозь бязмежную пустку туды,
Дзе жыцця больш няма,
Дзе ёсць толькі змаганне
Сіл неўтаймоўных
За абнаўленне быцця!*

*Душа, не пазбудзься іх,
Душа, не забудзь памерлых!*

## Гуга фон ГОФМАНШТАЛЬ

*Мусяць жыліцца адны да скону
Доле, там, дзе вёслы цяжкіх вадаплаваў,
А другія ля руля над імі
Ведаюць і птушак лёт, і прастрань зорак.*

*Кон адных — у страху нерухомец
На пачатку блытаных жыццёвых сцежак,
Для другіх — напагатове крэслы
Поруч з каралевай ці сібілай,
І сядзяць яны, як быццам дома,
З лёгкай галавой і вольнымі рукамі.*

*Але ўсё-ткі плён някідкіх жыццяў
Пранікае ў жыцці гэтыя, другія,
І яднаюцца цяжар і лёгкасць
Так, як лучацца ў адно зямля й паветра;*

*Стомленасць народаў, спрэс забытых,
Скінуць не магу я са сваіх павекаў,
Мне не сцерці след з душы датклівай
Знічкі, што зляцела моўчкі з небасхілу.*

*Мноства лёсаў, як і мой лёс, ткуцца,
Іх з маім быццё сплятае наравіста,
І належыць мне тут больш, чым веку, —
Стрункасць полымя і ўзвіў трымклівай ліры.*

## Фрыдрых НІЦШЭ

### Ecce Homo*

*Так! Спазнаў я, хто, які я!
Полымя агню, стыхія,
Што паглыне сябе сама.
Зззяе ўсё, дзе я шугаю,
Тлен усё, што пакідаю:
Я агонь — тушыць дарма!*

* Ecce Homo (лац.) — вось чалавек.

### Самотнік

*Імкне да стрэх
Гракоў крыклівая гурма:
Паваліць снег —
Там родны кут, бяды няма!*

*Што ж ты, працяк,
Уставіўся назад, у стынь?
Ці ж ёсць працяг
У свеце сцюжным і пустым?*

*Свет — бы атвор,
Да пусткаў тысячных вядзе:
Такі прастор —
Няма апірышча нідзе!*

*З пабляклых губ
Кляцьбу зрывае страх,
Ты дыму слуп,
Што ў неба цягне марны шлях.*

*Птушыны грай,
Хрыпі і доўжы свой палёт!
А ты хавай
Боль сэрца ў едкі смех і лёд!*

*Імкне да стрэх
Гракоў крыклівая гурма:
— Паваліць снег!
Бязродным сховішча няма!*

## Райнер МАРЫЯ РЫЛЬКЕ

### Ева

*Сціплая, яна ў святле саборным
Туліцца пад вітражом высокім
З яблыкам, налітым спелым сокам,
Праз які калісь спазнала сорам*

*І якім раскрыла часу код
Коштам страты вечнасці і раю, —
З першым адтаемным «кахаю»
На зямлю сышла, бы юны год.*

*Ах, як ёй хацелася б назад,
Да суладнасці жыцця былога,
Дзе ўсялякі звер ёй быў як брат.
Даў мужчыну ёй дзівосны сад,
З кім пранікла ў смерць, а ў вечнасць Бога
Ледзь-ледзь скіравала свой пагляд.*

## Хрысціян МОРГЕНШТЭРН

### За мноства

*Шмат красы на свеце гэтым
Сціплай, ды жывой;
Спасцігаю — і ўсё больш паэтам
Я раблюся; цешуся красой
Тою, што не церпіць шуму, тлуму,
Што на дне душы людской і той,
Што абвейвае зямлю парой
Квеценню, бы ўсмешкамі між суму.*

### Містэрыя

*Ткаўся ўпотай пас прарочы,
І няведамая сіла
Нашы дні і нашы ночы
У адно жыццё злучыла.*

*Двайнікамі, спарышамі
Сталі мы, а пас не трэцца:
Ужо зіркае над намі
Палымяна нехта трэці.*

## Фрыдрых ШЫЛЕР

### Надзея

*У думках і словах, у сненнях людскіх
Спадзеву на лепшае многа.
Да мэты шчаслівай, да дзён залатых
Ляціць іх лятунак-дарога.
То старыцца свет, то ён зноў малады,
Але чалавек спадзяецца заўжды.*

*Надзея вядзе ад пачатку шляхоў, —
З падлеткамі рада вітацца,
Таемнасцю поўніць яна юнакоў
І не памірае са старцам;
Няхай да магілы ўсяго толькі крок,
Ды цепліць надзея знямоканы крок.*

*Не, гэта не сімвал, пусты і нямы,
Што мозг спараджае збалелы.
У сэрцы не моўкне: для лепшага мы
Прыходзім у свет гэты белы.
І як ні шчыміць у ім жалю струна,
Не чуе душа: спадзяецца яна.*

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 10 (98) | 24 кастрычніка 2014 | № 40 (409) Новы Час

# Мальтыйская цішыня

## (Падарожныя нататкі)

Ганна ЯНКУТА


Фота аўтара

Дарога ад Меліхі


Хаджар-Кім

Сярэдзіна дня, сонца ў самым зеніце, але спёка пераносіцца лёгка дзякуючы прахалоднаму ветру, які рэзка кантрастуе з гарачымі прамянямі.

Павевы ахалоджваюць скуру, па ёй нават час ад часу прабягаюць дрыжыкі, і таму незразумела, патрэбная вятроўка ці не. Кажуць, летам тут зусім горача, уся расліннасць выгарае і востраў ператвараецца ў невясёлае відовішча, але цяпер, у сярэдзіне траўня, фенхель яшчэ зелянее, а апунцыя ў жоўтых кветках, хаця ў цэлым краявід разнастайнасцю фарбаў не радуе: шэрыя скалы, бляклая трава, асобныя зялёныя плямкі і сіняе мора, якое бачнае тут амаль з любой высокай кропкі. Спачатку гэты пейзаж захапляе, але хутка пачынае надакучваць, бо куды ні пойдзеш — паўсюль тое самае. Прыгожа і аднастайна.

Я крочу прасёлкавай дарогай, выбіраючы па карце найкарацейшы шлях ад Айн-Туфіхі да Мджара. Падарожжа гэтае хутчэй вымушанае, чым дабравольнае: аўтобусны рух на Мальце арганізаваны так, што трапіць з аднаго горада ў другі атрымліваецца не заўсёды, нават калі яны ляжаць побач. Прайшло даволі шмат часу, перш чым я навучылася разлічваць зручныя маршруты і не давяраць раскладам, вывешаным на прыпынках: калі аўтобус ходзіць раз на гадзіну ці дзве, гэтыя ўменні аказваюцца вельмі карыснымі. Пакуль я гляджу ў карту, спадзеючыся, што так ці інакш з аднаго населенага пункта ў суседні я дабяруся, у скрайнім выпадку заўсёды можна пайсці пехам, бо на востраве даўжынёй у 30 кіламетраў непераадольных адлегласцяў быць не можа, нават нягледзячы на рэльеф. Дарогу амаль заўсёды можна зрэзаць, напрыклад, спускаючыся з гары не серпанцінам, а стромкімі наўпростымі сцяжынкамі, калі, зразумела, атрымаецца своечасова іх знайсці. Гэтым разам я таксама вырашаю скараціць шлях, павярнуўшы ля рэштак рымскіх лазняў на вузенькую сцяжынку, якая мусіла неўзабаве правесці мяне каля маленечкага палаца Замітэла і вывесці на прамую дарогу на Мджар.

Дарогі Мальты ў большасці сваёй звілістыя нават тады, калі ідзеш па іх пехатой, а не едзеш аўтобусам. Яны ўвесь час караскаюцца на нейкі пагорак ці агінаюць яго, нярэдка ўзбіраючыся на сур'ёзную вышыню над узроўнем мора. Часам гэта самы сапраўдны серпантын, як напрыклад, дарога, што вядзе ад Шэмшы да Меліхі, курортнага гарадка, які ў адрозненне ад іншых знаходзіцца не на ўзбярэжжы, а над ім і славіцца адным з найлепшых пляжаў вострава. Узлятаючы серпанцінам над далінай Містра, справа бачыш палац Сельмун — невялікі, як і ўсё тут, будынак, з выгляду вельмі сярэднявечны, але насамрэч узведзены ў XVIII стагоддзі. У адзін са сваіх першых дзён на Мальце я дабралася да яго прасёлкавай дарогай з Меліхі, як звычайна, пехам, бо аўтобусы тут ходзяць вельмі рэдка, да таго ж быў вечар і расклад не пакідаў ніякіх надзеяў. Дарога была пустынная, і нават ля палаца — а цяпер гатэля — я не сустрэла нікога, апроч некалькіх катоў, якіх на востраве вельмі шмат. Хутка пачало цямнець і, адпаведна, халадаць, і я вырашыла пашукаць карацейшы шлях, каб выйсці на серпанцін бліжэй да сярэдзіны спуску, а не на самым версе, то бок на выездзе з Меліхі. На шчасце, паміж агародамі, што прыступкамі сыходзілі з гары, яшчэ можна было разгледзець сцяжынку, відавочна дагледжаную і прыстасаваную для зручнага руху, а там, дзе сцяжынак і агародаў не было, можна было прайсці проста па камяністым схіле. Вось і шасейная дарога з прыпынкам, акурат тут аўтобусы ходзяць часта, бо гэта асноўная сувязь большай часткі вострава з паромам на суседні востраў Гоза, галоўнае — паспець своечасова заўважыць аўтобус, калі ён вынырне ў сутонні з-за павароту, і паказаць сябе кіроўцу, бо інакш ён не спыніцца, транспарт на востраве спыняецца толькі на патрабаванне.

Людзі на Мальце вельмі гаваркія, хоць спецыяльна самі ў размову не лезуць. Але ўжо калі зачэпішся з імі языкамі, ахвотна будуць адказваць на пытанні пра сваю краіну і распытваць пра тваю. Вось і цяпер, паказаўшы кіроўцу праязны, я ўголас здзівілася, што пасажыраў апроч мяне ў аўтобусе амаль няма, і кіроўца, малады хлопец, весела падтрымаў размову, пачаўшы з таго, што турыстычны сезон яшчэ не адкрыўся і плаўна перайшоўшы да свайго дзяцінства на Гоза. Дазнаўшыся, што я кожнага ранку купаюся ў моры, ён вельмі здзівіўся, маўляў, яшчэ ж холадна, але калі я расказала пра нашу анамальна доўгую зіму 2013 года, калі снег сышоў толькі ў канцы красавіка, ён ледзь паверыў.

— Гэта ж у вас там снег, мароз, няма мора і адны лясы, азёры і раўніны? — перапытаў ён, падсумоўваючы атрыманыя звесткі.

— У вас тут таксама дзіўна, — адказала я. — Каб трапіць у суседнюю краіну, трэба ляцець самалётам ці плыць па моры.

— Я за мяжой не бываў, — паціснуў плячыма кіроўца. — Навошта?

Рэшткі рымскіх лазняў, якія я ўбачыла па дарозе з Айн-Туфіхі ў Мджар і ля якіх мусіла павярнуць са зручнай узбочыны і камяністымі пагоркамі рушыць да палаца Замітэла, аказаліся адным з тых неверагодных мальтыйскіх месцаў, што зацікавіла мяне не як аб'ект турыстычнага паломніцтва, а хутчэй самім фактам свайго існавання. На невялікім абнесеным плотам кавалку зямлі — закансерваваныя купы камянёў, рэшткі падмурку, будаўнічае смецце: усё гэта нагадвае раннюю стадыю будоўлі нейкага з тых дамкоў, якія хутка з'явяцца на маім шляху, з адной толькі розніцай — гэты падмурак і гэтыя камяні засталіся тут ад рымлянаў. Рымскі будаўнічы друз, амаль зніклая руіна нічым не выбітных лазняў, якія амаль выпадкова не былі дарэшты расцяганы на будаўніцтва тых самых суседніх лецішчаў і дамкоў ці на каменныя агароджы ўздоўж большасці вялікіх мясцовых дарог — цікава, колькі рымскіх лазняў і мегалітычных храмаў існуе цяпер у выглядзе такіх агароджаў? — і якія дзякуючы гэтай выпадковасці не толькі абнесеныя плотам («Уваход забаронены, выбачайце, у нас рэстаўрацыя»), але і адзначаныя на карце. З аднаго боку — шараговыя рэшткі, каштоўныя выключна сваёй вытрымкай, з другога — помнік гісторыі і археалогіі такой даўніны, што і ўявіць страшна, а побач — лецішчы і дарога, і нікога навокал. Я спакойна магу прабрацца праз плот і забраць кавалачак Рымскай імперыі з сабой, пранесці яго праз мытны кантроль у аэрапорце і прывезці дадому, і ніхто пра гэта не даведаецца. Магчыма нават, я магу паставіць тут намёт і правесці ноч на рымскіх развалінах. Сама думка пра такую блізкасць да гісторыі здаецца неверагоднай. Яшчэ больш неверагоднай здаецца мне яна цяпер, калі амаль праз год пасля вандроўкі я шукаю ў інтэрнэце інфармацыю пра рымскія лазні Айн-Туфіхі і разумею, што сярод усяго гэтага друзу археолагі знайшлі яшчэ і мазаікі, а таксама здолелі вызначыць, чым былі выкладзеныя падлогі ў калідорах і прыбіральнях.

Турыстычныя месцы, якія маглі б пахваліцца натоўпамі наведнікаў і ля якіх даводзіцца стаяць у чарзе толькі дзеля таго, каб зрабіць удалы кадр, на Мальце не так ужо і шмат. Агенцтвы на ўзбярэжжы запрашаюць у Валету і суседнія рыцарскія гарадкі, кожны з якіх істотна меншы па плошчы за Сухарава ці Чыжоўку, на востраў Каміна з вежай святой Марыі, больш вядомай як замак Іф з экранізацыі «Графа Монтэ-Крыста», і на востраў Гоза з найстарэйшымі каменнымі пабудовамі ў свеце, у старадаўні поўны турыстаў «горад цішыні» Мдзіну і ў вандроўку па мегалітычных храмах вострава ці, прынамсі, па самых знакамітых і лёгкадаступных сярод іх. Куды б ты на Мальце ні трапіў, тут няма таго адчування пастаяннага свята, якое суправаджае цябе ў падарожжах па вядомых турыстычных мясцінах. Безумоўна, і ў Валеце, і на ўзбярэжжах ёсць сувенірныя крамкі, безліч рэстаранчыкаў, людныя маршруты і вуліцы, нейкія клубы і тэнісныя корты пад адкрытым небам, — і ўсё ж цябе ні на імгненне не пакідае адчуванне, што ты калі не на задворках свету, то прынамсі на задворках Еўропы, што далей ужо толькі Афрыка і што тут заканчваецца вядомае табе і зразумелае. Вуліцы з жоўтага каменю, ці не кожныя два дамы з дзесяці выстаўленыя на продаж, паўсюль пакеты са смеццем — іх цягам дня забярэ спецыяльная машына, — шыльды на адзінай семіцкай мове, якая карыстаецца лацінскім алфавітам, але больш зразумелай ад гэтага не робіцца, і гэтая дзіўная травеньская спёка, калі кожны павеў з мора прабірае цябе да касцей.

— Вы адкуль? — пацікавіўся абаяльны мальтыец, гатуючы мне замоўлены гамбургер.

— З Беларусі, — адказваю я і з характэрнай для нашых шыротаў сціпласцю дадаю. — Вы пра такую краіну, мабыць, і не ведаеце.

— Ну канечне ж ведаю! — радасна крычыць мальтыец. — Я ж гляджу «Еўрабачанне»! Сёлета вашыя выступілі нічога так, але я ўсё адно заўзею за сваіх.

Мяне моцна ўразіла маё першае сутыкненне з непараднымі славутасцямі Мальты. На карце Буджыбы, курортнага гарадка, у якім я жыла, я заўважыла незвычайны аб'ект: катакомбы Саліны, і адразу ж вырашыла да іх прагуляцца. Гэта адзінае такога кшталту месца ў ваколіцах Буджыбы, я нават не стала разбірацца, едзе туды аўтобус ці не, і адразу пайшла пехам, тым больш што па дарозе ляжаў мемарыяльны парк Кенэдзі. Паварот на вёсачку Саліна запомніўся мне латком з мясцовай садавінай і агароднінай — такія сустракаюцца тут на кожным кроку, прычым асартымент за рэдкімі выключэннямі аднолькавы і не надта разнастайны. Далей — маленечкая царква Дабравешчання, а праз дарогу, мяркуючы з карты, мусяць быць катакомбы. Я прайшлася па ўзбочыне, баючыся парушыць межы чыіх-небудзь прыватных уладанняў, але нічога асаблівага не ўбачыла: поле, пратаптаная сцяжынка, нейкі шчыт. Рызыкнуўшы падысці бліжэй, я прачытала змешчаны на ім надпіс, які паведамляў, што перада мной уласна і ляжаць катакомбы Саліны, і прасіў не вельмі тут смецціць — усё ж гістарычная каштоўнасць. І зноў нікога. Пустыя выбітыя ў камні нізкія памяшканні, акуратна складзеныя вонкі камяні, зараснікі апунцыі — усё гэта нагадвае дзіўныя падземныя дамкі, зусім нядаўна пакінутыя гаспадарамі, яшчэ даволі абжытыя і амаль утульныя і ў той жа час абсалютна абязлюдненыя. Трошкі пахадзіўшы ля ўваходаў, агледзеўшыся і зазірнуўшы ў прахалодныя лёхі, я павярнула назад, да горада.

Спыніўшыся ля латка і ўбачыўшы сярод банальных персікаў, таматаў чэры і цукіні адзіны невядомы мне гатунак садавіны, я спытала ў прадаўцоў, што гэта такое. Прадаўцы, відаць, муж і жонка, збянтэжана пераглянуліся і адказалі:

— Мы не ведаем, як гэта называецца па-ангельску.

Збянтэжанасць іх была зразумелая: на Мальце ўсе без выключэння свабодна гавораць па-ангельску, і, відаць, мясцовыя жыхары нячаста трапляюць

у сітуацыю, калі не могуць нешта патлумачыць турысту.

— Тады скажыце, як гэта будзе па-мальтыйску.

Яны засмяяліся і сказалі, але я не запомніла, каб потым паглядзець у слоўніку. Толькі праз некаторы час я даведалася, што гэтыя невялікія аранжавыя кісла-салодкія плады «па-нашаму» называюцца мушмулой.

Сцяжынка ад рымскіх развалінаў, якая спачатку здавалася надзейнай, прычым надзейнасць гэтую кампетэнтна пацвярджала карта, усё больш губляецца сярод лецішчаў: часам здаецца, што яна вось-вось знікне, вывеўшы мяне папярэдне на чыйсьці падворак. Нягледзячы на добрае надвор'е, людзей на лецішчах няма, магчыма, таму, што будні дзень, альбо дачны сезон на Мальце пакуль не пачаўся, альбо яшчэ нешта. З палацам Замітэла карта таксама крыху памылілася: аказалася, ён знаходзіцца пад самым Мджарам, ужо на падыходзе да горада, амаль на сантыметр правей, чым намалявана, а я ўжо паспела змірыцца з тым, што прапусціла яго па дарозе, пераблытаўшы з якімсьці дачным домікам. Але адзінае, з чым яго сапраўды можна было пераблытаць, — гэта царква Дабравешчання ў Саліне: тая ж прастата, той жа мінімум упрыгожанняў і тое ж бязлюддзе.

Ад палаца Замітэла да самога Мджара ўжо зусім недалёка, і цяпер арыентавацца можна не па карце, а па купале касцёла, што размешчаны на ўзвышшы і таму бачны з ускраінаў горада, больш чым сціплага па плошчы. Згубіцца ў мальтыйскім горадзе амаль немагчыма: у Валеце, напрыклад, на любой вялікай вуліцы, якая не заканчваецца тупіком, ты бачыш яе пачатак і канец — напярэдзе мора і ззаду мора, горад праглядаецца наскрозь. Нават калі горад месціцца не па паўвостраве, прайсці яго ўздоўж ці ўпоперак — справа нядоўгая шпацыру, пры жаданні вакол Буджыбы можна бегаць ранішнія кросы, і невядома яшчэ, ці хопіць аднаго кола для добрай размінкі. Ад цэнтральнай плошчы —маленькай і ўжо зусім не пустыннай — дабрацца да Та'Хаджрата (а менавіта ён — мэта маёй сённяшняй вандроўкі) проста: паміж указальнікамі на бібліятэку і мясцовую клініку ёсць і ўказальнік на гэты мегалітычны храм. Прайшоўшы яшчэ трошкі па галоўнай вуліцы горада, я, кіруючыся ўказальнікамі, паварочваю за рог і неўзабаве аказваюся перад высокай агароджай. Горад тут заканчваецца і пачынаюцца пагоркі і палі, тыповы камяністы пейзаж Мальты. Шыльда на агароджы паведамляе, што ўваход на тэрыторыю мегалітычнага комплексу Та'Хаджрат адчынены не кожны дзень і не ў любы час, але нічога страшнага: праз пруты агароджы ўсё бачна вельмі добра. Даводзіцца абысці комплекс збоку, каб лепей разгледзець храм, прайсціся па полі, на шчасце, нічым не засаджаным, вось ён, дальмен, вось крушні камянёў, тут і там абсаджаныя чымсьці дэкаратыўным, руінам — больш за пяць тысяч гадоў. Рэшткі гэтай пабудовы такія старажытныя, што мы ўжо ніколі не дазнаемся, якой яна была насамрэч і як выглядалі людзі, якія да яе прыходзілі, і што яны тут увогуле рабілі. Меру такой старажытнасці ацаніць амаль немагчыма: гэта як глядзець на горы і ўяўляць, што калісьці яны былі маладымі. А таму гэтыя камяні, як і руіны рымскай лазні, выклікаюць змяшаныя пачуцці: з аднаго боку, гэта проста шэрыя пліты, складзеныя літарай «П», з другога — існуюць неабвержныя сведчанні, што калісьці тут віравала жыццё, і іншыя людзі, аддзеленыя ад цябе сотнямі пакаленняў, надавалі гэтай літары немалое значэнне.

Та'Хаджрат захаваўся горш, чым падобныя да яго комплексы Таршын ці Мнайдра, але, магчыма, па праве першынства запомніўся мне найбольш. Няма сумневу, што навукоўцы з першага погляду знойдуць паміж гэтымі комплексамі безліч адрозненняў, вызначаць прыкладны час пабудовы і размяжуюць іх функцыі. Для недасведчанага ж назіральніка ўсе гэтыя храмы — не больш як груды старажытных камянёў: дзесьці захаваліся даўнія арнаменты і больш разнастайныя інтэр'еры, як ні дзіўна гучыць гэтае слова ў дачыненні да такіх пабудоў, дзесьці археолагі знайшлі рэшты жывёльных і чалавечых костак, дзесьці дагэтуль можна пабачыць узоры каменнай мэблі эпохі неаліту. Да іх, як і да мальтыйскіх пейзажаў увогуле, хутка прызвычайваешся і глядзіш ужо як на нешта шараговае, пачынаеш зважаць хутчэй не на самі камяні, а на навакольныя краявіды: комплекс Мнайдра, які знаходзіцца непадалёк ад мора сярод шырокага прастору ды яшчэ і ў палове кіламетра ад іншага комплексу пад назвай Хаджар-Кім, у гэтым плане нашмат цікавейшы за лабірынты Таршына, дзе і людзей нашмат больш, і дамы на заднім фоне робяць само старажытнае відовішча куды менш урачыстым.

Дзіўна думаць пра тое, чаго ў падарожжах шукаеш найперш: агульных уражанняў, прыгожых ландшафтаў ці новых уяўленняў пра свет. Магчыма, спрабуеш збегчы ад звычных краявідаў, каб там, у незнаёмым месцы, адчуць сябе кімсьці іншым, назбіраць калекцыю свежых успамінаў, якія дапамогуць апраўдаць шэрае існаванне ва ўсе астатнія дні. Але гэтыя думкі здаюцца лішнімі, калі аказваешся на іншым канцы свету і на некаторы час ўпісваешся ў чужы быт: усё ў выніку застаецца такім самым, нягледзячы на змену дэкарацыяў. Хіба што калекцыя ўражанняў папаўняецца — і таму, відаць, у турыстычных і не вельмі краінах з'яўляецца ўсё больш і больш дзівачных месцаў, музеяў і забаваў. Уражанні збіраюцца дзе заўгодна — падчас наведвання мегалітычных храмаў ці бадзянняў нікому асабліва не цікавымі сцежкамі ў ваколіцах Айн-Туфіхі, іх можна злавіць, седзячы на камянях на выездзе з Меліхі ці плывучы паромам у Валету, фактычна — кожнае імгненне, калі толькі надаеш гэтаму значэнне, — і потым гэты груз цягнецца з намі далей. Збіраць уражанні лягчэй, чым кнігі на паліцах ці посуд у сервантах, і яны не прывязваюць нас да месца, а толькі да пастаяннай змены месцаў, што ў выніку таксама нас укарэньвае — у гэтае няпэўнае, хісткае існаванне.

І ўсё ж самы цікавы тып мальтыйскіх помнікаў застаўся гэтым разам па-за маёй увагай. Гэта так званыя «каляіны», невядома калі і кім пракладзеныя ў розных месцах вострава, што ўтвараюць своеасаблівую старажытную «транспартную сетку», ці то выбітую дзеля арашэння камяністых палёў, ці то выціснутую коламі калёсаў, што перавозілі пліты для мегалітаў. Прасцей за ўсё каляіны знайсці ў горадзе Сан-Джуан, дзе ў дапамогу турыстам расстаўленыя ўказальнікі, нашмат складаней дабрацца да іх у Мтарфе — месцы надзвычай нетурыстычным, хоць адсюль да аднаго з самых папулярных на Мальце гарадоў Мдзіны як рукой дастаць. Праз адсутнасць хоць нейкіх указанняў на каляіны, а яшчэ праз тое, што мясцовыя жыхары нават не ўяўляюць, што знаходзіцца ў суседнім горадзе і двары, пошук каляіны ў Мтарфе можа ператварыцца ў нялёгкую задачу. Спачатку мне давялося знайсці ледзь прыкметную сцяжынку, што вяла праз поле ад Мдзіны і прылеглага да яе Рабату да Мтарфы, потым пакружыць па некалькіх кварталах, каб урэшце наткнуцца на ўказальнік, але так і не зразумець, куды ён скіроўвае. Тады я вырашыла распытаць мясцовых жыхароў. Прыязная гаспадыня цырульні (якая, як выявілася пазней, стала амаль ля самай мэты маіх пошукаў) няпэўна махнула рукой кудысьці ўбок і з усмешкай сказала: «Дзесьці там, здаецца, але я дакладна не ведаю». Прадавачка ў прадуктовай краме на суседняй вуліцы вельмі хацела дапамагчы, але не магла прыдумаць, як.

— Разумееце, сама я не адсюль, а таму не ведаю, што тут ёсць і дзе... — яна збянтэжана азірнулася, нібыта шукаючы, хто б мог нам нешта парадзіць, і знайшла! Паклікаўшы па-мальтыйску аднаго з наведнікаў крамы і, нешта ў яго спытаўшы, зноў па-англійску звярнулася да мяне:

— Пачакайце, калі ласка, зараз ён расплаціцца і адвядзе вас.

Майго новага праваднікa вельмі турбаваў лёс занядбаных помнікаў мальтыйскай гісторыі.

— Зразумела, што ўлады выдзяляюць грошы на захаванне такіх вялікіх мясцінаў, як Мдзіна. Але ж ёсць і больш дробныя помнікі, іх таксама трэба ахоўваць! Гэта ж наша гісторыя, гэта таксама каштоўнасць, хоць сюды і не наведваюцца турысты. А гэтыя каляіны хутка ўвогуле будуць знішчаны. Хутка вы самі ўсё пабачыце.

Ён прывёў мяне ў суседні двор, міма якога я разоў пяць ужо праходзіла, і паказаў на ім ледзь прыкметныя рэшткі дагістарычных каляінаў, працягваючы бедаваць, што дзяржава ніяк пра такія нязначныя тысячагадовыя помнікі не клапоціцца. Ніякай шыльды, хай сабе і такой малапрыкметнай, як ля катакомбаў Саліны, тут не было, і ўсё ж пустая пляцоўка сярод дамоў і агародаў не забудаваная і выкарыстоўваецца, відаць, толькі як паша.

Але самыя цікавыя каляіны можна паглядзець у ваколіцах скалаў Дынглі на поўдні вострава. Там яны ўтвараюць ці не галоўны старажытны транспартны вузел, і ўсё ж турыстаў у тых мясцінах няма, бо дабрацца туды сваім ходам можна хіба што прайшоўшы нямала кіламетраў пехатой і сустрэўшы па дарозе толькі некалькі такіх жа вар'ятаў, якіх таксама вабяць доўгія прагулкі па пустынных ускрайках вострава. Вялікі кавалак зямлі ўздоўж і ўпоперак разрэзаны парнымі жалабкамі, ва ўсім гэтым сапраўды ёсць нешта ад вялікага чыгуначнага вузла, вось толькі даўно закінутага і забытага, навокал — шэрыя ўзгорыстыя раўніны, вецер нязменна пранізлівы.

— Вы згубіліся? — пацікавілася старэнькая пані, калі я, адышоўшы ад мегалітычнага комплексу Та'Хаджрат у Мджары, разглядала пасярод вуліцы карту і думала, да якога аўтобуснага прыпынку бліжэй. — Можа, вам дапамагчы?

Мальта — папулярнае месца для эміграцыі заможных брытанскіх пенсіянераў, якія хочуць прабавіць рэшту старасці ў прыемным міжземнаморскім клімаце і пры гэтым сярод людзей, якія ўсе да аднаго размаўляюць на іх мове.

— Я шукаю аўтобусны прыпынак.

— Дайце мне вашу карту, я пакажу, як бліжэй.

Дабрацца з Мжара дадому — то бок да Буджыбы — аказалася нашмат прасцей, чым прыехаць сюды: расклад на прыпынку тлумачыць, у якія гарады ідзе транспарт. Некаторыя з іх я добра ведаю — яны рэгулярнымі лініямі звязаныя з месцам, дзе я жыву. Паводле карты, такі маршрут аказваецца нашмат даўжэйшым, але час, затрачаны на вяртанне, пераконвае, што часам карта маніць яшчэ больш, чым я думала. Давяраць карце — адна з самых прыемных памылак у вандроўцы, прынамсі ў маім выпадку. Гэта амаль як давяраць прагнозам надвор'я, толькі прастываеш радзей. За вокнамі — усё той жа шараваты ўзгорысты ландшафт з зялёнымі плямамі зараснікаў апунцый.

Пацыху бярэцца на вечар.



Валета



Палац Замітэла

# Велікодны кошык

Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

## Дзівосны музей

*— За кальцавою аўтастрадай
На ўскрайку гаманкой сталіцы
Музей нязвыклы
 вельмі рады
Быў ва Уруччы
прытуліцца.*

*Па ім не толькі уручанцы
Выходзяць на шпацыр, бы ў парку,
Тут і французы,
і брытанцы,
Бывае, ладзяць прагулянку.*

*Адзін куточак тут названы
«Калекцыяй пет-ра-глі-фіч-най».
Мо добра,
што яго на мапах
Няма пакуль што турыстычных.*

*Тут валуны,
як экспанаты,
Краіны нашай склалі карту.
З палёў,
з лясоў
яны прыняты
Каб тут паўстаць каменнай вартай.*

*Ледавікі іх,
як на санках,
Са Скандынавіі прывезлі
Ў падмуркі замкаў,
сцены,
ганкі...
Ў млынах спяваць і жорнаў песні.*

*Ў музеі пад адкрытым небам
Няма касіркі пры ўваходзе
Вартаўнікі тут —
без патрэбы:
Цяжкі камень
не скрадзе злодзей.*

*Спяць валуны пад коўдрай снегу.
Сноўборды,
тазікі
і лыжы
Нясуць з гары...
Вясёлым смехам
І воклічамі
цішу
крышым.*

*Музеем-дзівам ганаруся,
Бо цуд такі —
кажу вам смела —
Ёсць толькі ў нас,
у Беларусі,
І больш нідзе
ў Еўропе цэлай.*

## Цмок Уручанскі

*У мікрараёне мінскім
Цмок,
Як добры чараўнік,
Пасяліўся без прапіскі
На адліжны сакавік.*

*Мо прытупаў ад Нямігі
У зацішлівы лясок
Патлумачыць нам на мігах,
Што ён свойскі дзядзька-цмок,*

*Не зласлівы,
А рахманы
Трохгаловы велікан,
Што ніколі не падмане
Маладзенькіх гараджан.*

*Крылы трэ яго «на шчасце»
Шчабятлівая дзятва,
Раніцой вітае часта
З дома нумар 32.*

*Як цікаўнае сініцы
Пры музейных валунах,
Ён мне часам нават сніцца
У салодкіх мройных снах.*

*Можа, праўда
Паўз аптэку
Свежых пагартаць газет
Ходзіць у бібліятэку,
Зазірнуць у інтэрнэт —*

*Вызнаць цмокавы навіны
Пра далёкіх сваякоў
З Англіі ды з Украіны,
Пра сяброў-палешукоў...*

*Шэсць вачэй, —
Дык пільна сочыць
Нібы строгі педагог.
Бараніць дзятву ахвочы:
Ён бацькам спакой збярог.*



Малюнак Алены Карловіч

## Велікодны кошык

*Нам з сястрой сказала мама Рая:
«Сонейка купаецца і грае!*

*З кубка, у якім ляжыць яечка,
Умывайцеся, мае сардэчкі!»*

*Соль, ваду і маляванкі ў храме
Асвяціла мамка золкім ранкам.*

*— Выбачай, цябе не возьмем, кошка,
Не табе падрыхтавалі кошык!*

*На Вялічка для бабулі роднай
Мы збіраем кошык Велікодны.*

*Пасху з тварагу, разынак, маку
Пакладзем
Ды іншыя прысмакі.*

*Наладуемся як след,
А потым
На аўтобусе паедзем «сотым»...*

*Бабу Ліду тройчы пацалуем,
Ад яе «Хрыстос уваскрос!» пачуем,*

*«Уваскрос напраўду!» ёй адкажам
І ручнік на кошыку развяжам,*

*Стол накрыем і запеплім свечку,
Прачытаем «Ойча наш» адвечны...*

*Будзем з ёю у біткі гуляцца,
Сочывам, вяндлінай разгаўляцца,*

*Запіваць гарбатай джэм з маліны
І расказваць школьныя навіны,*

*Слухаць казкі і развучваць песні
Пра Любоў, якая уваскрэсла...*

## Балельшчык

*— На трыбуннай белай лаўцы,
Жодзінцы
ці багуслаўцы.
Падтрымаць прыйшлі мы з дзедам
Калектыў «БелАЗ-Тарпеда»,
Дык крычым
што маем сілы:
«Шайбу!»,
«Гол!»,
«Суддзю — на мыла!»
Я не проста так аматар —
Зацікаўлены заўзятар.
Сярод нашых —
тата з братам.
Тата — трэнер,
братка — майстар
Пас аддаць,
прайсці па флангу,
Важны мяч забіць ад штангі.
Не баімся ветру,
сцюжы —
Трэба нам
«БАТЭ» адужаць!
Марым стаць
найлепшым клубам
Выйграць беларускі Кубак,
Пазмагацца
з «Барселонай»
Ў Кубку
еўрачэмпіёнаў!*

## Нуль

***З Яна Бжэхвы***

*Нуль каціўся шашою:
— Прэч! Не бачыце, хто я?
Важу я на сто тысяч!
Драбната, разыйдзіся!
Я адзін у прыродзе,
Сам з сабою ў згодзе!*

*Выхваляўся заўзята,
Што ён гэткі пузаты.*

*Ды прамовіў хтось ціха:
— Дзе трыбух, там і пыха!
А калі ўжо без жартаў:
Нуль — нічога ж не варты!*

## Асыпаецца лістота

***З невядомага польскага аўтара***

*Ападае лісце з яблынь
Маляўніча.
Гэта восень сад азяблы
Ў госці кліча.*

*Распранае вецер вішні
І налівы.
Дол барвяна-залацістым
Стаў кілімам.*

*А ў пакоі светла-светла
Ад букетаў.
Будзем золатам асенніх
Мы сагрэты.*

## Мотальскі кажушок

*У красуні,
У Ілонкі
Вышываная дублёнка*

*Па дарозе з Серабранкі
Не дае замерзнуць ранкам.*

*З вёскі Моталь кажушок
Ўпадабаў увесь садок.*

*З выхавацелькай дзяўчаткі
Дружна пляскаюць у ладкі:*

*Цэлы дзень Ілонкін смех
Гоніць прэч
мароз і снег.*

## Слімачок

*Слімак-слімачок,
Не хавайся ў свой дамок!
Хай падкажуць рожкі
Добрыя дарожкі!*

## Багоўка

*Божая кароўка,
Паляці на неба —
Там твае сяброўкі
Захацелі хлеба.
Аднясі ім дранік —
Будзе сытным ранак.
Сваім любым дзеткам
Аднясі катлеткі,
Сваёй роднай маме —
Торцік
 смачны самы.
Нясі свайму тату
Пернік да гарбаты,
Міламу дзядулю —
Спелых грушаў-дуляў,
А бабулі-пані —
Хатніх марцыпанаў!*

## Алесі



*Летнія краскі
Сталі ў збаночак.
Дзіўная казка —
Родны куточак.*

*Як закувае
Ў лесе зязюля,
Дык прыгадаеш
Песню матулі.*

*Нібы замову,
Моц і пяшчоту
Бацькавай мовы
Помні заўсёды.*

*Нашы абрусы —
Кветкі ды птушкі.
Будзь беларускай
Шчырай, дачушка!*

# «Дзіўна жыць пасля рысы сталасці…»

**Сёння нашыя нацыянальныя духоўныя, культурныя і маральныя каштоўнасці — на антрэсолях соцыуму. Асабліва незайздроснае становішча ў правінцыі.**

Аднак, як бы насуперак усяму негатыўнаму, сама беларушчына, і літаратура ў прыватнасці, усё ж дарэшты не вымiраюць, а штораз — з пакалення ў пакаленне — намагаюцца працягваць справу папярэднікаў. Што тычыцца Берасцейшчыны, то гэтая лінія асабліва заўважная па пераемнасці вядучых постацяў (як, дарэчы, і на Гарадзеншчыне): У. Калеснік — Н. Мацяш — А. Каско (В. Быкаў — А. Карпюк — Д. Бічэль)…

Сёння хацелася б паразважаць над новай кнігай Алеся Каско «Межавыя знакі» (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка», «Кнігазбор», 2014). Я ўжо і не памятаю, калі ён выдаваўся ў сталіцы, ці не ў сярэдзіне 90-х? Паэт, які заявіў пра сябе з першай публікацыі, стаў дастаткова вядомым і самавітым, можна сказаць, да шасцідзесяці гадоў не меў кніжкі сваіх выбраных твораў!

Аднак пра іх — крыху ніжэй. Спачатку — пра самога паэта.

Алесь — з Палесся. З Чудзіна, што на Ганцаўшчыне. Выйшаў, можна сказаць, у свет з самага эпіцэнтра беларускай маці-прыроды… Менавіта там запісваў Сержпутоўскі казкі палешукоў. І менавіта ў мясцовай сярэдняй школе яму пашчасціла адчуць уздзеянне на сабе першага паэтычнага «стымулятара» — слыннага цяпер, а тады апальнага паэта-бадзяжніка Міколу Купрэева, які нядоўга спрабаваў выкладаць яму азы літаратуры… З прыцягальнага балотнага паху, з хісткай багністай засцярожанасці, з прысушанасці і спрамленасці дарог і сцежак палешуцкай долі — вось адкуль, засмоленае на сумленні і шчымлівай нервовай ноце, самотнае паэтычнае слова Алеся Каско.

*Калі разабрацца, дык мог бы пазбегнуць*
*багністага шляху, дзе тхлом аддае…*
*Няхай не была непазбежнаю бездань —*
*я штосьці світальнае вынес з яе.*

Паэт — дзіўная з'ява. І што ні імя, калі яно насамрэч вартае паэзіі, то непаўторны ўзор чалавечай натуры. Вытанчанай і… гіблай у сваёй недасканаласці… А. Каско не давялося пераадольваць на сваім літаратурным шляху нейкія адміністратыўныя бар'еры. Яго талент не ганьбілі, не тапталі і не замоўчвалі. Тут ён сам кіраваўся ім. І талент не здрадзіў і не падвёў. Можна сказаць, што ўвесь час гэта была хада ў гару, у пад'ём… Цяжкая, знясільваючая, з перапынкакі-роздыхамі…

Тым больш, што разам з душой і духам трэба было ўздымацца і ўсяму грэшнаму-цялеснаму. Вось тут праблемы раз-пораз узнікалі. Правільней сказаць, адсюль і ўзнікалі. Таму што быт і быццё, душа і дух былі непадзельнымі, але не мелі гармоніі. У пошуку яе і цягнулася «вар'яцкае жыццё творцы». І чым вышэйшым быў накал барацьбы і часцейшымі спробы замірэння, тым большая паэтычная энергія выпрацоўвалася вонкі (у свет, да чытача). А паколькі чытач, па сутнасці, быў адсутны, то паэт немінуча патрапляў у сіло самотнай адзіноты. Разваг, вершаў і запісаў на гэты конт у А. Каско, магчыма, нават больш, чым тое вымагала. Тут і настальгія па вытоках, той Прыродзе, якая спарадзіла і пусціла ў свет, і туга па няспраўджаным каханні, і — край веры, за якім пачынаецца і недавер і знявер'е ўвогуле ва ўсім, што абяцалася на самым пачатку і амаль страцілася на самым канцы жыцця…



*О лёс мой, выказацца дай,*
*не забяры мяне заўчасна*
*ў далечу тую, дзе так часта*
*мне будзе сніцца родны край.*

Неверагодна, але гэтыя сённяшнія радкі паэта былі напісаны ім ажно трыццаць пяць гадоў назад, у далёкім 1979-м, калі яму было толькі дваццаць восем… Я хачу гэтым сказаць, што паэты выспяваюць дзесьці паміж васямнаццаццю і трыццаццю пяццю, бо пасля трыццаці сямі так ці інакш Паэты заканчваюцца (смерцю фізічнай альбо творчай) па сваёй боскай прызначанасці і прызванасці. Прыкладаў колькі хочаце, хоць дастаткова і выключэнняў. Бо як піша Каско ў вершы «Недажын»:

*Як бы доўга ні жыць — не дажыць*
*да канца… Зноў і зноў паўстае перад намі*
*грыўка спелых жытоў — недажын,*
*што асыплецца ветрам, прыб'ецца*
*дажджамі.*
*От бы ўсё — ад зярнят да расы —*
*зберагчы і напоўніцу ўсім наталіцца!*
*Дакахаць, дапісаць… Папрасіць*
*даравання ва ўсіх, з паміраннем змірыцца.*
*……………………………*
*О, каб гэтак! Але да мяжы*
*часу меней нашмат, чым да зжатага жыта.*
*Можна загадзя ўпасці, не жыць…*
*Ды з таго і жывём, што жывём недажынам.*

Самота і адзінокасць — вось вырак паэта. Прычым яна можа падсцерагаць яго паўсюль і заўсёды — у шумнай кампаніі і за вясельным сталом — там, дзе надарыцца пасыл да натхнення і творчасці і супрацьпастаўлення сябе свету. Паэт не можа пазбегчы гэтага наканавання. Больш за тое, ён сам падсвядома і арганізоўвае і стварае незразумелую іншымі атмасферу сваёй вырачанасці. У гэтым сэнсе збоку паспалітага люду ён бачыцца калі не юродзівым, дык, у лепшым выпадку, дзіваком ці вар'ятам… Што і казаць, калі нават у вершы пра чыста лірычныя адценні душэўных узаемаадносін праступае той самы «сумасшедший с бритвою в руке»:

*Дрыготкія рукі твае*
*ўсплываюць пяшчотай,*
*і голасам скрыпкі пяе*
*твая адзінота.*
*…………………*
*І пальцы на кожнай струне*
*то горка, то горда*
*пяшчотай не скрыпаць, а мне*
*сціскаюць горла.*

Вершаў такой тэматыкі нямала («***Асляплены ясным прыцемкам…», «***Сёння ў нас выпаў першы снег…», «Навагоднее сола»), а таксама навэлы «Паэты», «Чалавек-сланечнік», «На ланцугу»… Цікавая развага на гэты конт у мініяцюры «Тройчы прачнуцца». Аўтару сніцца, нібыта ён вяртаецца на сцежку маленства, але там яго сустракае стары, нечым падобны на яго самога «заўтрашняга-пасляззаўтрашняга».

Глыбока пра сутнасць чалавечай самотнай самасці і яго пакінутасці гавораць строфы гэтага верша:

*Самота — на вяршыні дзён самота,*
*дагэтуль імітацыя была:*
*ты цемрай заваражваўся, а ўпотай*
*душа шчымела ў шчылінцы святла.*
*……………………………………*
*З нязведаных, адчужаных вытокаў*
*прыйшла самота існаю такой,*
*нібы ступіў ты ў цесны дом без вокнаў*
*і дзверы зачыніў за табой.*

(Адарваў ад кампутара тэлефонны званок Л. Дранько-Майсюка… На яго традыцыйнае пісьменніцкае пытанне «над чым працуеш?», адказаў, што разважаю над новай кніжкай А. Каско… «О, гэта паэт! Тут табе не давядзецца нічога прыдумляць, ёсць пра што пісаць і трэба… Вось, паслухай, я тут занатоўваю ўпадабаныя вершы…» І чытае мне верш Алеся. «Абавязкова ўпомні пра яго ў сваёй рэцэнзіі», — дадае…

Перачытаў гэты верш яшчэ раз у кніжцы. Вельмі глыбокі ўнутраны голас зямной чалавечай сутнасці. Цытую:

*Няшчырыя мы нават у канцы,*
*калі ў жалобе тоўпімся над мёртвым,*
*калі канонам непахісным, цвёрдым*
*вядуць хаўтурны спеў над ім айцы.*
*Скрыпіць аркестр натомленым акордам,*
*а мы, на цёплую слязу скупцы,*
*уласныя сардэчныя рубцы*
*перабіраем у маўчанні гордым.*
*Усцешна: размінуліся з чаргою,*
*не роўня нам паніклы галавою,*
*хто і прапойцам слыў, і хлінаком!..*
*Ды ён, калі б ажыў хоць на хвіліну,*
*сам прыпляскаў бы вечкам дамавіну*
*і сам, каб мог, прысыпаўся б пяском».)*

У А. Каско няма перыферыйных комплексаў, аднак ёсць, хоць і прыхаванае, але заўважнае кляймо правінцыйнай самакрытычнасці… Ён не працаваў ні ў калгасе, ні на заводзе, не бамжаваў і не жабраваў…

*Мы ўсе — адзінкі, непаўторнасць,*
*ды ўсе — па купцы, па гуртку,*
*нам доляй — шэрая сабornасць:*
*палын, запалкі ў карабку.*
*………………………………*
*Па аднаму ўсе мы — пылінка…*
*Ды вось жа — воляю чыёй? —*
*з'ўляецца між нас адзінка*
*і паўстае над грамадой.*

І вельмі цікава на супрацьпастаўленні чытаецца наўслед страфа з іншага верша:

*У роспачы ўздымаеш рукі*
*і рызыкуеш — бачыць Бог, —*
*сваім народам збітым з ног,*
*ляжаць на ўледзянелым бруку.*

Прыхільнікам краснага пісьменства асабліва раіў бы засяродзіцца на такіх адмысловых вершах паэта, як «Вока», «Бяссонне», «Балада берага», «Недажын», «***Звіняць і травы ўсе, і дрэвы — Спас…», «***Падаюць яблыкі. Яблыкапад…», «Янка Купала. Пецярбург, 1913», «***Было. Не вярнуць. Ды ніколі не сцерці…», «Навагоднее сола»…

Сама кніжка, апроч удалага мастацкага афармлення, вельмі добра скампанаваная: вершы, проза, дзённікавыя запісы — метафара, мастацкі расповед, літаратура факта.

Даволі змястоўны раздзел прозы, але падрабязна на ім прыпыняцца не буду, бо лічу Алеся паэтам, а гэтыя тэксты працягам ці недапраяўленым негатывам яго няспраўджаных вершаваных задум. Асобныя мініяцюры вельмі блізкія да яго верлібраў («Зямное», «Нежывы», «Бядняк», «Подаўка», «Жанчына»). Зачапіўшыся за іх, коратка адцемлю ўласнае меркаванне: асобным свабодным вершам Каско адчувальна не хапае экспрэсіі, сюжэтнай напружанасці і нервова-псіхалагічнай стыхійнасці (пэўнай драматычнай дзеі), яны скіраваныя больш на адцягнута філасофскі альбо ўедлівы надзённы роздум, чым на лірычнае мастацкае ўзрушэнне.

Сама ж арыгінальная навелістыка паэта нярэдка мае эскізны характар прыпавесці, у якой ёсць адчуванне быкаўскай трагічнасці з глыбокім псіхалагічным перажываннем беспрасветнай сітуацыі («Чалавек-сланечнік», «Цень апазнаць», «На ланцугу», «Роска…»), а часам яна нагадвае захапляльны, скроены ў прыгодніцка-фантастычным стылі расповед Яна Баршчэўскага, таемна ўкрыты туманам той жа беспрасветнасці («Апошні ваўкалак»)… Але ва ўсіх апавядах А. Каско, нават у немачных момантах двойчы згаданай беспрасветнасці, пакідаецца прыцьмяна святло апошняй чалавечай надзеі на ўдачу, дабро і справядлівасць. Асабліва гэта адчуваецца ў сюжэтна вывеpанай навеле «Хата»…

Пасля напоўненых унутраным драматызмам вершаў А. Каско яшчэ больш пераконваешся ў мастацкай шчырасці аўтара, калі пачынаеш чытаць яго «Чудзінскі дзённік». Здавалася б, нічога ў тых запісах асаблівага няма: будзённая канстатацыя бытавання-перажывання чалавека ў вясковай бацькоўскай хаце… Асаблівага напраўду няшмат, а вось асабістага і асабовага дастаткова, каб зацікаўлены чытач мог паралельна выстройваць свой светапогляд і ствараць сваю настальгічную атмасферу па «уходящей натуре»… Увесь гэты паляшуцкі боль А. Каско (па сутнасці — трагедыя ўсяго краю) мне знаёмы і зразумелы, як адкрытая і крываточная рана ўласнай душы. Думаю, падобныя асацыяцыі ўзнікнуць і ў пераважнай большасці чытачоў. Увогуле сіратлівая балючасць гэтай таленавітай кніжкі аддаецца ў маёй істоце яркім пранізлівым азарэннем свядомасная сумлення- (сумнення): я есмь человек-(?)…

Таму, калі падводзіць пэўную рысу пад лепшымі тэкстамі створанага А. Каско цягам усёй яго — трыццаціпяцігадовай — літаратурнай працы, то ў мяне выснуўваецца даволі высокая яе ацэнка. Асабліва тое бачыцца на фоне берасцейскага пісьменніцкага згуртавання, дзе, пасля сыходу Ніны Мацяш, яго творчая і грамадзянская асоба на сёння з'яўляецца вызначальнай. Не кожнаму творцу ўдаецца — крывёй, потам і душой, як бы гэта рытарычна ні гучала — так узвышана паказаць перыпетыі драматычнага жыцця роднага беларускага краю, вобразна тонка вымалёўваўшы някідкія паляшуцкія рысы яго герояў, захаваўшы іх гонар і годнасць у пластах падтэксту, — і праз гэта, прадзіраючыся скрозь жаль душэўны і боль фізічны, выказаць тым самым і самога сябе… Паэта. Алесю Каско гэта ўдалося. «А болей… Што ж там болей// жадаць ад песняра?!», як пісаў наш нацыянальны прарок. Хіба што далейшага плёну…

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# Новы раман Паўло Каэльо



**Вядомы і папулярны сучасны аўтар нарэшце выпусціў новы раман пад назвай «Адзюльтэр».**

Бразільскі пісьменнік і паэт Паўло Каэльо праславіўся на радзіме яшчэ напачатку 90-х, калі выйшлі яго першыя раманы-хіты «Алхімік», «Вераніка вырашае памерці» і «Кніга ваяра святла». Да нашай чытацкай аўдыторыі яго літаратурны здабытак дакаціўся толькі ў нулявых, пасля з'яўлення досыць адкрытай кнігі «Адзінаццаць хвілін», якая апісвае лёс прастытуткі. Наступныя кнігі былі ўспрыняты па-ранейшаму захоплена, хоць і былі меней скандальнымі і «вострымі». Філасофскі падтэкст, эмацыйны стыль і небанальныя сюжэты — што з гэтага менавіта «зачапіла» чытачоў, не так важна, пэўна можна сказаць, што сёння яго кнігі раскупляюцца мільённымі накладамі і нязменна перакладаюцца на 112 моў свету.

Назва «Адзюльтэр» у перакладзе азначае «шлюбная здрада», уласна гэта і ёсць галоўная тэма новага твора Каэльо. Сам аўтар так апісвае прадмет свайго вывучэння: «Шлюбная здрада — гэта адна з тых рэчаў, якую, як паказвае статыстыка, робіць у сваім жыцці кожны трэці... І гэта далікатная тэма будзе існаваць, пакуль існуе інстытут шлюбу. Колькі пар развялося з-за таго, што не змаглі пераадолець гэты складаны момант. Спачатку я не планаваў пісаць кнігу, я толькі хацеў правесці анлайн-дыскусію, але потым сеў, у мяне ў галаве з'явілася ідэя — і я пачаў пісаць. Кніга атрымалася нібы падвешанай у паветры, і яна запрашае вас да адкрытага абмеркавання гэтай тэмы».

Галоўная гераіня 30-гадовая Лінда ўсведамляе, што, нягледзячы на дабрабыт і шчасце, яе жыццё насамрэч пустое і бязрадаснае. Яе гняце аднастайны сямейны быт, непераборлівае палавое жыццё з мужам і бясконцая балбатня ды хвальба з сяброўкамі. У пошуках «запалу жыцця» яна знаходзіць суцяшэнне ў абдымках былога палюбоўніка, але ці выйсце гэта?

Такое пытанне і задае аўтар...

# «Бясколерны Цукуру Тадзакі...»

**На ангельскай мове выйшаў «Бясколерны Цукуру Тадзакі і гады яго падарожжаў» — новы раман культавага японскага празаіка Харукі Муракамі.**



Кніга ўжо стала бэстсэлерам Японіі. «Бясколерным» новага героя Муракамі — 36-гадовага інжынера — абзываюць чатыры сябрукі, у прозвішчах якіх сустракаецца іерогліф колеру. Яны — «чырвоны», «сіні», «белы» і «чорны». «Яго асобе бракавала яркасці ці хоць бы чаго-небудзь, што б яго вылучала», — рэзюмуе аўтар. Неўзабаве «каляровыя» парываюць усякія зносіны з «бясколерным», які пакідае родны горад і паступае ва ўніверсітэт у Токіа. Пасталеўшы, герой адпраўляецца ў вандраванне, каб пераадолець унутраную пустэчу і пачуццё адзіноты ды зразумець, чаму ён не змог захаваць сяброўства са сваімі таварышамі.

Шматгадовы намінант на Нобелеўскую прэмію па літаратуры Харукі Муракамі стаў вядомы кнігай «Паляванне на авечак», за якой былі «Нарвежскі лес» і «Кафка на пляжы». Кнігі японскага аўтара перакладзены на сорак моў свету. Наклад яго «Бясколернага...» у Японіі склаў 1,5 мільнаў асобнікаў, аднак да канца першага дня продажаў выдавецтва заявіла, што дадрукоўвае яшчэ 100 тысячаў кніг. Па хуткасці продажаў раман ужо абагнаў папярэднюю кнігу пісьменніка «1Q84».

У «Бясколерным...» у Муракамі зноў з'яўляецца герой-пустэльнік, які, здаецца, знаходзіцца ў сваяцтве з Ёзэфам К. з рамана Кафкі «Працэс». Той быў асуджаны невядомымі сіламі за злачынства, якога не здзяйсняў. Пакараннем для героя Муракамі становіцца яго адзінота — праз тое, піша Муракамі, герой жыве «практычна адной толькі думкай пра смерць». «Бясколерны» тут — колер смерці. Вялікую частку апавядання займае пошук прычынаў адчужэння, на якое яго выраклі сябры.

Крытыкі адзначаюць, што на гэты раз Муракамі замест містыкі звярнуўся да агульначалавечых праблем: яго герой, пачуццёвы падлетак, пасталеўшы, спрабуе скінуць з сябе навязанае звонку пачуццё віны за ўласнае жыццё.

Адной з цэнтральных сцэнаў становіцца эратычны сон «бясколернага», у якім ён бачыць сябе з жонкамі «каляровых» сяброў, разважае пра прыхаваную бісэксуальнасць і некрафілію.

Уплятаючы гэтыя падтэксты ў раман, Муракамі даследуе адваротны бок маральнасці.

У вандроўцы «бясколерны» сустракае двух павадыроў. Адзін з іх адкрывае яму глыбіню класічнай музыкі (галоўнай музычнай тэмай рамана Муракамі робіць фартэпіянны цыкл «Гады падарожжаў» Ліста), другі — прымушае знайсці «каляровых» сяброў дзеля таго, каб псіхалагічныя школьныя траўмы героя нарэшце зацягнуліся.

На ангельскую мову кнігу пераклаў прафесар Філіп Гэбрыэл з Арызонскага ўніверсітэта.

# Прэмія «Аляксандр Неўскі»

**Вячаслаў Бандарэнка, мінскі пісьменнік, стаў лаўрэатам X Усерасійскай гісторыка-літаратурнай прэміі «Аляксандр Неўскі». Характэрна, што ўпершыню ў гісторыі ўзнагароды прэмію ў юбілейным сезоне атрымаў не жыхар Расіі.**

Гісторыка-літаратурная прэмія «Аляксандр Неўскі» была ўручана В. Бандарэнку за кнігу «Героі Першай сусветнай», якая выйшла ў выдавецтве «Молодая гвардия». Выданне складаецца з 12 нарысаў, прысвечаных выдатным асобам, якія вызначылі ход Першай сусветнай вайны — ад радавых салдат да вярхоўных галоўнакамандуючых. Выданне было ўпершыню апублікавана ў серыі «ЖЗЛ» у 2013 годзе, а праз год — перавыдадзена.

Лаўрэата ўзнагароды ў гэтым годзе выбіралі з 220 намінантаў. На ўрачыстай цырымоніі ўручэння гісторыка-літаратурнай прэміі, якая прайшла ў Санкт-Пецярбургу, В. Бандарэнка сказаў: «Нізкі паклон маім героям — людзям, якія сумленна і адважна выканалі свой абавязак стагоддзе назад, людзям, якія ведалі пра тое, што слова«Радзіма»заўсёды пішацца з вялікай літары». Перамогу ў конкурсе ён прысвяціў роднай Беларусі, дзе кніга была задумана.




# Шрыфт Тараса Шаўчэнкі

**У Нацыянальным музеі Тараса Шаўчэнкі адбылася прэзентацыя ўнікальнага праекта «Kobzar KS», створанага пры падтрымцы Міністэрства культуры Украіны.**

Адзначаючы 200-ю гадавіну з дня нараджэння знакамітага ўкраінскага пісьменніка і мастака, «Кіеўстар» стварыў першы ў свеце шрыфт, які цалкам адналяе почырк Кабзара.

Праект адкрывае новы погляд на творчую спадчыну ўкраінскага паэта з дапамогай сучасных тэхналогій. Натхненнем для стварэння праекта стаў арыгінальны кампутарны шрыфт «Kobzar KS», распрацаваны на аснове почырку Т. Шаўчэнкі.

Кожны жадаючы зможа пратэставаць афіцыйны сайт шрыфта, які дазваляе ствараць плакаты і футболкі, а таксама пісаць лісты почыркам украінскага нацыянальнага генія.

# Суд і «Маленькі прынц»

**Суддзя ў Аргентыне абавязаў пару, якая сабралася скасоўваць шлюб, прыходзіць раз у тыдзень разам з дзецьмі ў залу суда і чытаць кнігу Антуана дэ Сэнт-Экзюперы «Маленькі прынц».**



А таксама паводле таго ж выраку яны мусяць агучваць тэкст «Канвенцыі пра правы дзіцяці» і кнігу іспанскага філосафа Фернанда Саватэра «Этыка для Амадора».

Суддзя ўпэўнены, што гэта дапаможа бацькам наладзіць кантакт з дзецьмі: яны, маўляў, «змогуць лепш іх зразумець і ўбачыць у кожным асобу, што з'яўляецца мінімальна неабходнай умовай для іх выхавання і адукацыі».

Чытанне кніг, у прыватнасці «Маленькага прынца», адбываецца пад наглядам судовага супрацоўніка. Калі ж хтосьці з бацькоў вырашыць адмовіцца ад ускладзенага на яго абавязку, суддзя можа прыняць рашэнне даставіць іх да месца для чытання кніг з дапамогай сілаў правапарадку.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў The Guardian, Gazeta.ua, The Bookseller, BBC, Associated Press, vsiknygy.net і prostokniga.com.ua.**

# Пісьменнікі супраць «Amazon»

**Пісьменнікі, якія падтрымалі выдавецтва «Hachette» ў зацяжным канфлікце (аб умовах кантракта з інтэрнэт-рытэйлерам «Amazon»), аб'ядналіся ў арганізацыю «Authors United».**

У аб'яднанне ўвайшлі 12 аўтараў, сярод якіх Лі Чайлд, Джэфры Дзівер, Дэвід Балдаччы, Стывен Кінг, Джэймс Патэрсан і Донна Тарт.

«Authors United» створана па ініцыятыве амерыканскага пісьменніка Дугласа Прэстана, які ў чэрвені 2014 года распаўсюдзіў ліст да прэзідэнта кампаніі «Amazon» Джэфа Безаса з патрабаваннем урэгуляваць канфлікт з «Hachette», які «блакуе і затрымлівае продаж кніг». Гэты ліст падпісалі аўтары, якія ўвайшлі ў «Authors United».

Сваю задачу новае аб'яднанне пісьменнікаў бачыць у распрацоўцы доўгачасовай стратэгіі супрацьстаяння «Amazon» у выпадку, калі патрабаванні, выкладзеныя ў лісце, не будуць задаволены.

Адказам «Amazon» на прэтэнзіі пісьменнікаў была прапанова выплаты аўтарам «Hachette» 100 адсоткаў коштаў з продажу электронных кніг. Пакуль ідуць перамовы паміж выдавецтвам і крамай. Іншымі словамі, аўтары маглі атрымліваць усё тое, што зарабляюць з продажу абодва бакі.

У сваю чаргу, група з 27 незалежных пісьменнікаў апублікавала петыцыю ў падтрымку «Amazon». Дакумент падпісала больш сямі тысячаў чалавек.

«Amazon.com, Inc.» — найбуйнейшая ў свеце амерыканская кампанія па продажы тавараў праз Інтэрнэт і адзін з першых інтэрнэт-сэрвісаў, арыентаваных на продаж тавараў масавага попыту. Кампанія «Amazon.com» была створана ў 1994 годзе амерыканскім прадпрымальнікам Джэфам Безасам, а ў 1995-м быў запушчаны сайт. Кампанія была названа ў гонар ракі Амазонкі, самай паўнаводнай у свеце. Першапачаткова на сайце прадаваліся толькі кнігі. У 1998 годзе крама пачала прадаваць музычныя дыскі і відэапрадукцыю. Пазней у асартыменце з'явіліся MP3-запісы, праграмнае забеспячэнне, відэагульні, электроніка, вопратка, мэбля, прадукты харчавання і цацкі.

Свой першы працоўны стол заснавальнік «Amazon.com» склаў са старых дзвярэй. Сёння ў кампаніі некаторыя сталы таксама зроблены з дзвярэй — каб нагадваць пра неабходнасць эканоміць.

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Ці быў Джэк Патрашыцель палякам?

Алег НОВІКАЎ

**Справа Джэка Патрашыцеля — адна з самых загадкавых у гісторыі крыміналістыкі. Дасюль не зразумела, хто стаяў за шэрагам жудасных забойстваў ва Усходнім Лондане ў 1888 годзе.**




Ахвярамі серыйнага забойцы, нагадаем, сталі жанчыны, якія, як правіла, займаліся вулічнай прастытуцыяй. Забойца пераразаў ім горла перад тым, як успароць жывот.

Каго толькі ні падазравалі ў тых жудасных забойствах. Акрамя розных маргіналаў, псіхапатаў і прайдзісветаў у дакументах сышчыкаў фігураваў нават Льюіс Кэрал — аўтар «Прыгодаў Алісы ў краіне цудаў». Часам высоўваліся самыя фантастычныя тэорыі. Напрыклад, спрабавалі шукаць забойцу ў арыстакратычных кварталах, капаючы пад унука каралевы Вікторыі князя Альберта.

І вось новая версія. Не так даўно шэраг СМІ паведаміў, што сапраўднае імя Джэка Патрашыцеля змог давedацца пісьменнік і дэтэктыў-аматар Расэл Эдвардс пры дапамозе адмысловага ў галіне ДНК-аналізу, малекулярнага біёлага Яры Лухелайнена.

Па словах Эдвардса, была праведзена генетычная экспертыза слядоў спермы на шалю адной з ахвяр Джэка Патрашыцеля. Гэты шаль, які, як высвятлілася, ніколі не мылі, Расэл Эдвардс набыў на аўкцыёне ў нашчадкаў Кэтрын Эдоўз, адной з ахвяр забойцы. У выніку аналізаў Лухелайнен да высновы: Джэкам Патрашыцелем быў польскі іміграньт Арон Касмінскі.

Арон Касмінскі (1865–1919) — польскі яўрэй, які працаваў у Лондане цырульнікам, быў адным з галоўных падазраваных. Паколькі, нібыта, быў злоўлены на месцы аднаго са злачынстваў. Цікава, што ў прэсе таго часу менавіта Арона Касмінскага найбольш часта называлі Джэкам Патрашыцелем. На момант злачынстваў (у 1888-м) яму было 23 гады. Пазней Касмінскі праходзіў па справе за спробу зарэзаць сваю сястру, пасля чаго стаў пацыентам дому вар'ятаў.

Навіна пра тое, што Джэкам Патрашыцелем мог быць Касмінскі, стала бомбай у польскай прэсы і выклікала шмат крытыкі. Тэма рэабілітацыі Касмінскага мае палітычны прысмак, паколькі ў Лондане пражывае вялікая польская калонія, якая часта з'яўляецца ахвярай ксенафобскіх забабонаў. Таму шмат хто пабачыў тут адзнакі новай кампаніі супраць эмігрантаў. Тым больш, што брытанскі ўрад мае намер пазбавіць працоўных мігрантаў з ЕС сацыяльных правоў. І навіна пра тое, што Джэк Патрашыцель, быццам, быў палякам-імігрантам, безумоўна, стварае спрыяльны для рэформы фон.

**Група вучоных, сярод якіх і прафесар Алек Джэфрыс (вынаходнік генетычнай дактыласкапіі), лічыць, што Лухелайнен дапусціў «памылку ў наменклатуры» пры выкарыстанні базы ДНК для выяўлення супадзенняў. Таму вынікі не могуць быць сапраўднымі**

Папулярная тэорыя пра тое, што сапраўдным забойцам быў нехта з каралеўскай сям'і. Быццам, паліцыя нарэшце даведалася пра гэта, аднак кампраметаваць каралеўскую асобу, натуральна, было немагчыма. Таму і вырашылі прышыць справу нейкаму маргіналу, якім аказаўся бедны паляк. Прыхільнікі такой версіі ахвотна цытуюць аднаго з брытанскіх гісторыкаў, які, па яго словах, шмат разоў чытаў спіс рэчаў, якія былі знойдзены на месцах забойстваў, і ніякага шалю ў тым спісе, быццам, няма.

Так ці інакш, на польскіх інтэрнэт-форумах узнікла цэлая армада абаронцаў Касмінскага. Фактычна, яны праводзяць паралельнае следства. Напрыклад, «дэтэктывы» звярнулі ўвагу на прафесію Касмінскага. «А можа, яго ДНК трапіла на шаль, паколькі Касмінскі працаваў цырульнікам?» — лічыць адзін з іх.

Даволі цікавая версія папулярнага часопіса «Neesweek». Журналісты звярнулі ўвагу на тое, што Расэл Эдвардс не так даўно анансаваў публікацыю сваёй кніжкі пра Джэка Патрашыцеля. Медыйны шум вакол асобы забойцы, відавочна, дапаможа ўзняць продажы твору Расэла.

Тыя, хто нешта разумее ў біялогіі, маюць сумнеў у тым, што праз сто гадоў можна дакладна выявіць ДНК забойцы на аснове аналізу шаля. Калі верыць абаронцам такога тэзісу, ДНК цяжка выявіць, нават калі рабіць даследаванне касцей або зубоў. Што ўжо казаць пра адзенне, якое за сто гадоў маглі патрымаць у руках сотні людзей.

Не абышлося без праяваў антысемітызму. Польскія правыя заклікаць, каб Касмінскага перасталі называць палякам, падкрэсліваючы яго яўрэйскае паходжанне. Таксама прапануюць выводзіць нацыянальнасць Касмінскага паводле пашпарту. Відавочна, што да эміграцыі з Польшчы, якая ўваходзіла ў склад Расійская імперыі, у Арона быў пашпарт з выявай двухгаловага арла. Адпаведна, Касмінскага, на думку нацыяналістаў, трэба называць не палякам, а расіянінам. Самыя буйныя антысеміты патрабуюць, каб падазраванага ў забойствах цырульніка называлі «расійскі яўрэй».

Між тым, на гэтым тыдні, на радасць польскай грамадскасці, у прэсе з'явілася інфармацыя пра тое, што Яры Лухелайнен, быццам, падчас сваіх даследаванняў мог дапусціць памылку. Група вучоных, сярод якіх і прафесар Алек Джэфрыс (вынаходнік генетычнай дактыласкапіі), лічыць, што Лухелайнен дапусціў «памылку ў наменклатуры» пры выкарыстанні базы ДНК для выяўлення супадзенняў. Таму вынікі не могуць быць сапраўднымі. Такім чынам, даследаванне наконт сапраўднага прозвішча Джэка Патрашыцеля, хутчэй за ўсё, будзе працягнутае.

І часам думаецца, нават калі імя злачынцы назавуць, адразу з'явіцца шмат іншых версій. Падаецца, што законы масавай культуры патрабуюць, каб пошукі таго серыйнага забойцы працягваліся вечна. Дарэчы, у спісе асноўных падазроных па справе Джэка Патрашыцеля прысутнічае яшчэ адзін паляк, а таксама і рускі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Майя Панджыкідзэ

Міністр замежных спраў Грузіі дабілася сапраўднага прарыву на міжнародным фронце: на днях Японія пагадзілася называць Грузію «Джорджыя». Да гэтага часу для абазначэння Грузіі ва ўсіх дакументах Японія выкарыстала фанетычную транскрыпцыю слова «Грузія». Запыт на змену назвы краіны з боку грузінскіх уладаў паступіў яшчэ ў сакавіку 2009 года. Першапачатковай рэакцыяй Токіа на такую просьбу была адмова. Ва ўрадзе Японіі тады патлумачылі гэта тым, што такая перамена можа выклікаць блытаніну, паколькі Грузію можна будзе зблытаць з амерыканскім штатам Джорджыя. Тым не менш, праз пяць гадоў японская ўлады вярнуліся да гэтага пытання. Грузію называюць Джорджыя большасць краін свету: 173 са 193 чальцоў ААН. Дарэчы, ідэя называць Грузію Джорджыяй у свой час была настойліва прапанаваная Міхаілам Саакашвілі, папярэднім грузінскім прэзідэнтам, спадчыну якога цяперашнія ўлады намагаюцца асудзіць. Так, на мінулым тыдні аднаго з прэм'ераў часоў Саакашвілі асудзілі на тры гады. Між тым, грузінскія аматары жартаў у сацсетках ужо пішуць, што калі Грузія стане «Джорджыяй», то тады, мабыць, саміх грузінаў давядзецца называць «джорджы».

### Йімі Окесан



Старшыню правай папулісцкай партыі «Шведскія дэмакраты» вырашылі не ўключаць у склад Нобелеўскага камітэта. Па сутнасці, гэта скандал, паколькі, паводле традыцыі, усе фракцыі шведскага парламента маюць права дасляць прадстаўніка ў камітэт па выдачы нобелеўскіх прэмій (а «Шведскія дэмакраты» з'яўляцца трэцімі па колькасці дэпутатаў у парламенце). Сваё рашэнне нобелеўскія акадэмікі аргументавалі тым, што «праварадыкальнае мінулае партыі «Шведскія дэмакраты» і паводзіны яе сяброў дэманструюць адсутнасць павагі да фундаментальных прынцыпаў роўнасці ўсіх людзей». Праўда, акадэмікі ў выніку пагадзіліся, каб на цырымоніі выдачы прэміі прысутнічаў намеснік Окесана. Праўда, трэба адзначыць, што самі Шведскія Дэмакраты праігнаравалі раздачу прэміі. Апошнім часам партыя ўзначаліла апазіцыю праекту новага левага ўраду забараніць шведам карыстацца сексуальнымі паслугамі за мяжой. Як лічыць Йімі Окесан і яго партыйцы, для гэтага давядзецца ствараць сапраўдную службу, што ўляціць бюджэту ў капейку.



### Абдула Аджалан

Лідар курдскіх сепаратыстаў, старшыня «Рабочай партыі Курдыстана» (РКК), як вядома, з 1995 года адбывае пажыццёвы тэрмін за дзейнасць супраць Анкары. Здавалася, Аджалан так і застанецца за кратамі, але нечакана ў яго з'явіўся шанс. У турэцкай прэсе пішуць, што Аджалан будзе пераведзены ў іншую турму. Замест жорсткай і ізаляванай турэмнай установы, размешчанай на востраве Імралы ў Мармуровым моры, яго этапуюць у паўночна-заходнюю правінцыю Бурса. Перавод Аджалана ў іншую турму быў адным з пастаянных патрабаванняў розных пракурдскіх партый, якія сцвярджаюць, што гэта будзе спрыяць дэмакратычнаму рашэнню курдскай праблемы ў Турцыі. Ёсць думка, што Аджалан неяк паспрыяў таму, што прэм'ер міністр Рэджэп Эрдаган дазволіў стварыць на мяжы Турцыі калідор для партызан РКК, якія жадаюць абараняць курдскую аўтаномію ў Іраку ад войскаў Ісламскай дзяржавы Сірыі і Лівана. Паколькі курды дэ-факта гуляюць галоўную ролю ў супраціве ісламістам, якія прадстаўляюць пагрозу стабільнасці ўсяму Блізкаму Усходу, не выключана, што Аджалана чакае чарговая лібералізацыя турэмнага рэжыму. Праўда, пра амністыю пакуль гутарка не ідзе.

# Бабруйская цытадэль як вайсковыя могілкі

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Падчас кожнага візіту ў Бабруйск я стараюся наведваць адзін з яго галоўных сімвалаў — крэпасць. Умацаванні з чырвонай цэглы і граніту былі ўзведзеныя ў XIX стагоддзі і з тых часоў былі сведкамі многіх войнаў і канфліктаў.**


Новы помнік ахвярам фашызму


Лагер у бабруйскай крэпасці, кастрычнік 1941 года

## Адзін помнік паставілі, іншы знеслі

Летам гэтага года ў цэнтры цытадэлі на Бярэзіне быў узведзены мемарыяльны комплекс «Ахвярам фашызму» ў памяць ахвяр канцэнтрацыйнага лагера, створанага тут нацыстамі ў гады Другой сусветнай вайны. Адным з аўтараў помніка з'яўляецца вядомы беларускі архітэктар Леанід Левін. Па прызнанні дачкі архітэктара Галіны, яе бацька імкнуўся сумленна раскрыць гісторыю трагедыі, якая адбылася ў Бабруйску ў 1941 годзе.

Нагадаю, пасля акупацыі горада на яго тэрыторыі немцы стварылі некалькі канцлагераў, адзін з якіх знаходзіўся на тэрыторыі крэпасці. У ім утрымліваліся, па розных звестках, каля 40 тысяч ваеннапалонных. З набліжэннем халадоў сітуацыя тут абвастрылася. Людзі паміралі ад хвароб, голаду, пачасціліся выпадкі людаедства. Усяго за тры месяцы акупацыі праз гэты лагер смерці прайшлі больш за 150 тысяч ваеннапалонных. Неўзабаве нацысты прынялі рашэнне знішчыць вязняў. 7 лістапада 1941 года яны падпалілі казармы з чырвонаармейцамі, а па перыметры ўсталявалі кулямёты. Тады ў адну ноч загінулі 1700 чалавек. Многія памерлі ад холаду падчас транспарціроўкі на адкрытых чыгуначных платформах.

Менавіта гэтую сцэну і спрабавалі адлюстраваць у новым помніку яго стваральнікі. У цэнтр кампазіцыі з белага бетону як быццам уразаецца чыгуначная платформа, на якой стаіць фігура ваеннапалоннага. Таксама па баках помніку прагладаюцца постаці чырвонаармейцаў і грамадзянскіх асоб, якія знаходзяцца за калючым дротам.

Такі манумент быў патрэбны крэпасці, нягледзячы на тое, што помнік у памяць аб загінуўшых вязнях канцлагера ў Бабруйскай цытадэлі існаваў і да гэтага. Чырвоную зорку і штык усталявалі яшчэ ў 1974 годзе на месцы пахавання ахвяр фашысцкага канцлагера. У канцы 2013 года на гэтым месцы былі перапахаваныя парэшткі вязняў, выяўленыя ў выніку работ на тэрыторыі крэпасці. Тады нават удалося вызначыць прозвішчы часткі ахвяр.

Наколькі ж вялікім было маё здзіўленне, калі падчас чарговага візіту ў цытадэль я не ўбачыў гэтага манумента. Відавочна, чыноўнікі палічылі залішнім наяўнасць двух помнікаў і знеслі стары манумент. Хаця абодва помнікі, як бы дапаўнялі адзін аднаго. Першы нагадваў аб жахлівым спаленні ваеннапалонных у ноч на 7 лістапада 1941 года, другі — увасабляе жах нацысцкіх канцлагераў.

Сёння на месцы пахавання парэштказ чырвонаармейцаў, якія памерлі ў палоне ў Бабруйскай крэпасці, няма нават маленькай таблічкі, якая б нагадвала пра тую трагедыю.

## Месца, дзе быў польскі курган

Зрэшты, на тэрыторыі Бабруйскай крэпасці былі пахаваныя не толькі савецкія палонныя. Ёсць тут магілы польскіх і чэхаславацкай жаўнераў. Гаворка ідзе аб вайскоўцах Першага польскага корпуса і байцах Войска Польскага, якія загінулі на бабруйскай зямлі ў 1918–1920 гадах, а таксама радавых чэхаславацкага легіёну Рускай імператарскай арміі, якія памерлі на тэрыторыі крэпасці ў 1917 годзе.

Нагадаю, у студзені 1917 года камандаванне царскай арміі дазволіла разгарнуць сфармаваную за два гады да таго польскую стралковую брыгаду ў дывізію. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў рускай арміі стварагліся саюзы польскіх вайскоўцаў, а неўзабаве Галоўны польскі ваенны камітэт прыняў рашэнне аб арганізацыі польскай арміі на тэрыторыі Расіі. У яе склад павінны былі ўваходзіць тры корпусы. 6 жніўня 1917 года камандуючым Першым польскім корпусам быў прызначаны генерал-паручнік Юзаф Рамуальдавіч Доўбар-Мусніцкі. У ноч з 2 на 3 лютага 1918 года польскія часткі авалодалі Бабруйскам і крэпасцю, дзе знаходзіліся запасы ўзбраення і харчу. Гэты манеўр адзначыў пачатак адкрытых баявых дзеянняў паміж Чырвонай гвардыяй і легіянерамі. Асабліва крывапралітнымі былі баі пад Рагачовам і Жлобінам. Акрамя гэтага, на салдат корпуса нападалі бальшавіцкія партызаны.

Праз некалькі месяцаў камандаванню Першага польскага корпуса давялося пайсці на падпісанне дамовы аб капітуляцыі з кайзераўскімі войскамі, якія занялі значную тэрыторыю Беларусі, у тым ліку і Мінск. 27 мая 1918 года пачалася дэмабілізацыя частак корпуса. 7 ліпеня крэпасць на Бярэзіне пакінуў апошні легіянер. Перад эвакуацыяй, па рашэнні камандавання Першага корпуса ў Бабруйскай крэпасці, на месцы могілак польскіх жаўнераў, якія загінулі ў баях з бальшавікамі, быў насыпаны курган. На думку даследчыкаў польскага Інстытута нацыянальнай памяці, у гэтай брацкай магіле магло быць пахавана каля 2 тысяч вайскоўцаў. Хутчэй за ўсё, гэтая лічба завышаная, і гаворка ідзе пра некалькі сотняў пахаваных. Зрэшты, не варта забываць, што акрамя салдат Першага корпуса, каля кургана былі пахаваныя і байцы Войска Польскага, якія загінулі ў баях за Бабруйск у 1919–1920 гадах.

Доўгі час не ўдавалася вызначыць месца, дзе ў 1918 годзе быў усталяваны гэты мемарыяльны знак. У Бабруйску не захавалася ўспамінаў і якіх-небудзь матэрыялаў, якія сведчылі б пра месца знаходжання кургана. У мясцовым краязнаўчым музеі наогул няма згадкі аб Першым польскім корпусе. Многія крапасныя збудаванні былі знесеныя, ландшафт змяніўся. Аднак нарэшце з дапамогай архіўных фотаздымкаў 1919–1920 гадоў удалося высветліць — польскі курган быў насыпаны каля слуцкай брамы Бабруйскай крэпасці. Цяпер на гэтым месцы — пароплая быльнягом пустка.

## Чэхаславацкія салдаты рускай арміі

Зрэшты, мяркуючы па архіўных здымках, у пачатку XX стагоддзя гэтая частка крэпасці была досыць бойкім месцам. Так, у 1917 годзе тут праходзіла незвычайная пахавальная працэсія. У Бабруйску тады хавалі салдат 1-га чэхаславацкага запаснога палка Рускай імператарскай арміі. Непрацяглы час салдаты размяшчаліся і ў цытадэлі на Бярэзіне.

У час Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Расійскай імперыі быў сфармаваны чэхаславацкі легіён. Яго ядром стала Чэхаславацкая добраахвотніцкая дружына. Паступова ў яе склад уліваліся ваеннапалонныя аўстра-венгерскай арміі, а таксама перабежчыкі. Гэта падраздзяленне рускае камандаванне часта выкарыстоўвала для правядзення выведкі ў тылах непрыяцельскіх войскаў. У 1916 годзе быў створаны чэхаславацкі стралковы полк, які неўзабаве разгарнулі ў два палкі (імя «Святога Вацлава» і «Кірыла і Мяфодзія»), утварыўшы брыгаду. У канцы 1916 года агульная колькасць чэшскіх добраахвотнікаў складала 20 тысяч. У сакавіку 1917 года быў сфармаваны Трэці чэхаславацкі полк. У траўні-ліпені падраздзяленні Першага Чэхаславацкага запаснога палка знаходзіліся на вучэбных зборах у Бабруйскай крэпасці.

Па дадзеных Міністэрства абароны Чэшскай рэспублікі, за час знаходжання ў цытадэлі на Бярэзіне памерлі 12 чэхаславацкіх легіянераў. Некалькі чэшскіх стралкоў патанулі ў Бярэзіне, двое памерлі ад тыфу, адзін — ад раку. Яшчэ некалькі чалавек памерлі ад ран у шпіталі. Усе гэтыя людзі былі пахаваныя на крапасных вайсковых могілках, якія знаходзіцца на вуліцы Ванцэці ў Бабруйску. Зараз там у асноўным захаваліся пахаванні савецкага часу. Паводле інфармацыі чэшскага боку, магілы іх легіянераў знаходзіліся на тым месцы, дзе цяпер размешчаны будынак дзіцячага садку. Што тычыцца чэхаславацкіх частак, то ў ліпені 1917 года яны былі адпраўленыя на Паўднёва-Заходні фронт і прынялі ўдзел у баях пад Збаровам.

Сёння казематы, казармы, рэдуты цытадэлі на Бярэзіне ў сваёй большасці знаходзяцца ў жаласным стане. Але ўсё роўна там шмат турыстаў, людзей, не абыякавых да беларускай гісторыі. Айчынныя кіношнікі аблюбавалі гэтае месца і ператварылі ў сапраўдную здымачную пляцоўку. Думаю, што калі б на месцы пахавання польскіх і чэхаславацкіх салдат былі ўсталяваныя памятныя знакі, гэта стала б дадатковым стымулам для захавання і развіцця крэпасці на Бярэзіне. У Бабруйск паехалі б не толькі айчынныя турысты, але і нашы суседзі з Польшчы, Чэхіі і Славакіі. Ды і проста па-чалавечы трэба ўшанаваць памяць салдат, для якіх наша зямля стала апошнім прытулкам.


Польскі курган у Бабруйску, 1918 год

# Мастачка, якая малявала Скарыну і Дуніна-Марцінкевіча



Сяргей ЧЫГРЫН

**У сваёй выдатнай кнізе «Крэскі да партрэтаў мастакоў з Заходняй Беларусі», выдадзенай у серыі «Бібліятэчка «Новага Часу», Сяргей Гваздзёў прыгадвае слонімскую мастачку Рэгіну Бялецкую. Аўтар кнігі апісвае партрэт Кастуся Каліноўскага, які мастачка стварыла ў 1942 годзе ў Слоніме.**



Сяргей Гваздзёў піша: «Гэта жывы і вельмі натуральны (па кампазіцыі, жывапісу, псіхалагічным стане) герой невялікага палатна напісаны на фоне ранішняга неба і беларускай вёсачкі. Чалавечая непасрэднасць: здзіўленне і адначасова цікаўнасць у вачах і твары героя вельмі натуральна спалучаюцца са звыклымі сацыяльна-знакавымі характарыстыкамі асобы...»

Але Сяргей Гваздзёў, апісваючы твор мастачкі, у двух месцах пераблытаў яе прозвішча, называючы Бялецкую Бяльцовай. Тым не менш, аўтарам партрэта Кастуся Каліноўскага сапраўды з'яўляецца Рэгіна (Алена) Бялецкая-Гваздоўская. У 1920-х — пачатку 1940-х гадоў яна жыла ў Слоніме. Вось пра яе і хачу сёння згадаць.

Мастачка Рэгіна Бялецкая-Гваздоўская нарадзілася 30 студзеня 1915 года ў Томску (Расія) у сям'і Майкла і Зінаіды Бялецкіх. Па іншых звестках, мастачка нарадзілася каля Томска ў тайзе. Школьную адукацыю пачала ва Уладзівастоку, а скончыла ў Слоніме. Справа ў тым, што бацька рана памёр, а маці з дачкой вярнуліся на Бацькаўшчыну — у родны Слонім, дзе маці хутка ўладкавалася на працу ў шпіталь.

Маляваць Рэгіна пачала рана. Спачатку на паперы стварала партрэты сваіх знаёмых, сяброў, аднакласнікаў. Усе пазнавалі сябе на малюнках юнай мастачкі: адным яны падабаліся, іншыя з іх смяяліся, а трэція рэкамендавалі вучыцца мастацтву. Дзяўчына і сама разумела, што трэба вучыцца. Таму, атрымаўшы сярэднюю адукацыю, паступіла на факультэт выяўленчага мастацтва Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя.

Пасля вучобы Рэгіна Бялецкая вярнулася ў Слонім, дзе пачала працаваць настаўніцай малявання і чарчэння ў першай сярэдняй школе. Там пазнаёмілася з настаўнікам гэтай школы Станіславам Гвяздоўскім, выйшла за яго замуж і пакінула працу ў школе.

Дома спадарыня Бялецкая-Гвяздоўская стала сур'ёзна займацца мастацтвам. Яна брала заказы і з радасцю іх дома выконвала.

У чэрвені 1941 года ў Слонім прыйшлі немцы. Але яны пэўны час не перашкаджалі слонімскай мастачцы працаваць. Неяк заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея Язэп Стаброўскі папрасіў мастачку намаляваць Кастуся Каліноўскага, бо набліжалася гадавіна паўстання 1863 года. Мастачка памятала карціну Пятра Сергіевіча «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў». Але тут патрэбен быў партрэт кіраўніка паўстання. І яна пачала шукаць у Слоніме натуршчыка, падобнага да Кастуся. І неўзабаве яго знайшла. Гэта быў Георгій Пыцель — вучань адной з гарадскіх слонімскіх школ. Высокі статны юнак з густой чарнявай шавялюрай і блакітнымі вачыма на мужным твары вельмі нагадваў правадыра сялянскага паўстання. Рэгіна загадала Юрку, так звалі яго сябры, адпусціць валасы даўжэй, бо так патрабавала мода другой паловы XIX стагоддзя. Натуршчык «абваласаціўся», і мастачка прынялася за справу. А прыйшоў час — і карціна заняла ганаровае месца ў адной з залаў Слонімскага краязнаўчага музея. Дарэчы, і сёння ў Слонімскім краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага знаходзяцца чатыры карціны мастачкі — гэта два партрэты Кастуся Каліноўскага (адзін — рэпрадукцыя карціны Пятра Сергіевіча), Францішка Багушэвіча, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францыска Скарыны.



Францыск Скарына



Вінцэнт Дунін-Марцынкевіч

Фота з архіва аўтара

> Пасля вайны Рэгіна Бялецкая ў Слонім не вярнулася, а разам з мужам засталася жыць у Польшчы ў Быдгашчы

У 1943 годзе мастачку дэпартавалі на прымусовыя работы ў Германію, дзе яна знаходзілася да лета 1945 года. Пасля вайны Рэгіна Бялецкая ў Слонім не вярнулася, а разам з мужам засталася жыць у Польшчы ў Быдгашчы. Там яе прынялі ў Асацыяцыю польскіх мастакоў і дызайнераў.

У Польшчы мастачка шмат працавала, стварыла цікавую серыю партрэтаў дзяцей, займалася насценным роспісам, афармляла плакаты, а таксама ўстановы культуры, клубы-кафэ, дамы асветы ў розных гарадах Польшчы. З сярэдзіны 1960-х гадоў Рэгіна Бялецкая-Гвяздоўская ад уражанняў антычнага мастацтва праваслаўных абразоў Балгарыі, Югаславіі і Румыніі, пачала ствараць свае іконы, а таксама афармляць праваслаўныя храмы.

Жывучы далёка ад Слоніма, мастачка не парывала сувязяў з родным горадам. Яна шмат гадоў перапісвалася з заснавальнікам Народнага музея Слонімскай сярэдняй школы № 4 Аляксандрам Жукоўскім. Па просьбе настаўніка мастачка напісала і даслала ў музей партрэт Героя Савецкага Саюза Кузьмы Гнедаша (1914–1944). Партрэт мастачкі і сёння зберагаецца ў школьным музеі.

Летам 1974 года мастачка наведала Румынію, дзе выпадкова атрымала харчовае атручванне. Яна некалькі месяцаў змагалася з хваробай, але хвароба яе перамагла: 18 снежня 1974 года Рэгіны Бялецкай-Гвяздоўскай не стала. За некалькі месяцаў да смерці мастачка рыхтавала сваю вялікую рэтраспектыўную выставу ў Беластоку і Быдгашчы. Выставы адбыліся, але іх не пабачыла сама мастачка. Людзі, якія цікавіліся яе творчасцю, пабачылі тады станковы жывапіс мастачкі, яе каляровыя малюнкі, насценны роспіс і іншыя творы.

# Sense of Place

## Сучасная латвійская фатаграфія

**З 6 па 30 кастрычніка ў галерэі сучаснага мастацтва «Ў» праходзіць выстава «Sense of Place. Сучасная латвійская фатаграфія».**

Тры сучасныя латвійскія фатографы — Арніс Балкус, Рэйніс Хофманіс і Алніс Стакле — шукаюць знакі ў латвійскім пейзажы, што характарызуюць іх родны кут. Пейзаж складаецца з прыродных і культурных элементаў ды іх узаемадзеяння. Узаемадзеянне з гэтымі элементамі можа выклікаць асаблівае адчуванне месца, якое фатографы спрабавалі выявіць у сваіх работах.

Алніс Стакле ў серыі «Not Even Something» фатаграфуе ўначы не пазначаныя на карце сцежкі і дарогі ў Даўгаўпілсе, другім па велічыні горадзе Латвіі; Арніс Балкус у «Латвійскіх нататках» разглядае калектыўныя рытуалы і паўсядзённыя рэчы ў правінцыйных гарадах і прыгарадах; Рэйніс Хофманіс у серыях «Sale» і «Private» цікавіцца сістэмай знакаў у пейзажы. Адначасова фатографы адлюстроўваюць складаную палітычную і эканамічную сітуацыю ў сённяшняй Латвіі. Некалькі гадоў таму Латвія пацярпела ад глыбокага фінансавага крызісу, але цяпер зноў лічыцца краінай з самым хуткім эканамічным ростам у ЕС. Пейзаж — гэта мова, якая існуе ў няспынным канфлікце паміж афіцыйнай карцінай для турыстаў і фактычнай паўсядзённай рэальнасцю, часта не закранутай глабалізацыяй. Праз элементы пейзажу фатографы паказваюць нам прастору, дзе існуюць яны самі і грамадства, гісторыю гэтай прасторы, а таксама тое, як латышы ўспрымаюць сябе ў сусветным кантэксце.

ygallery.by



# Белыя колеры свету ў этнафантазіі Ірэны Катвіцкай

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**18 кастрычніка ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь вядомая этнічная спявачка Ірэна Катвіцкая прадставіла слухачам свой чарговы праект — «Этна Фантазія: белыя колеры свету».**

У зале музея знайшлося месца як аматарам народнай творчасці, так і неакласікі, бо менавіта гэтыя музычныя напрамкі Ірэна спалучыла ў адзін стыль.

Акрамя элементаў мінімалізму, сімфа-джазу і гукаў раяля, у канцэрт упершыню была дададзена скрыпка. Маладая скрыпачка Лера Пажарыцкая ў свой час была ўражаная «Этна Фантазіяй». Разам з Ірэнай яны рашыліся на эксперымент. «Такая спроба аказалася ўдалай. Я бачыла рэакцыю залы і адчула яе энергетычную аддачу.



Спявае Ірэна Катвіцкая

Магчыма, гэта фундамент да наступнага альбому і музычная канцэпцыя развіцця «Этна фантазіі», — адзначыла Ірэна.

На гэтым сюрпрызы ад спявачкі не скончыліся. Першы раз на сцэну разам з Ірэнай выйшлі і яе вучні, выхаванцы 17-й музычнай школы. Лаўрэаты міжнародных конкурсаў, яны акапэла і надзвычай эмацыйна прадстаўлялі народную творчасць публіцы. «Абышлося ўсё, канешне, не без сюрпрызаў, але на тое яны і дзеці, каб падкідаць такія рэчы», — засмяялася Ірэна.

Удала была складзена праграма канцэрта. На імпрэзе можна было пачуць лірычныя балады пра каханне, абрадавыя спевы, а таксама прагучалі песні, якія можна было праспяваць разам, бо ў беларусаў яны на слыху. Выхаванцы Ірэны заспявалі песню пра маці, і гэта невыпадкова. Адзін з арганізатараў імпрэзы — прыватная сямейна-дабрачынная ўстанова «Блізкія людзі». На канцэрце таксама прысутнічалі бацькі, якія ўзялі ў сям'ю дзетак з прытулку. Гэта яшчэ адна з ініцыятыў спявачкі — падтрымліваць такія сем'і.



Выхаванцы Ірэны Катвіцкай

Трэба дадаць, што канцэрт адбыўся дзякуючы спрыянню бюро перакладаў «PrimeVeda», якое ўжо не першы год падтрымлівае ўсе ідэі Ірэны Катвіцкай.



# «Бітлз-кавярня» на колах

**Невялікі фургончык на паркоўцы каля супермаркета «Mart inn» у Гомелі адрозніваецца ад сваіх сабратаў афарбоўкай: яго сцены ўпрыгожваюць удзельнікі «ліверпульскай чацвёркі».**

З усім хутка фургон ператворыцца ў кавярню на колах, а пакуль яго «даводзіць да розуму» стрыт-арт мастачка Юлісіс Невмер.

Кавярня будзе называцца «Cup of peace». Назва звязаная з антываеннай пазіцыяй стваральнікаў кавярні, яны вельмі перажываюць з-за сітуацыі ў суседняй з намі Украіне.

Па словах уладальніка кавярні Арцёма Крукова, такое афармленне звязана з тым, што «The Beatles» — гэта музыка, якая аб'ядноўвае некалькі пакаленняў. Дарэчы, пра музыку: падчас працы кавярні пастаянна будуць гучаць песні «Бітлз». А з асаблівых нагодаў можна будзе пачуць музыку з сапраўдных вінілавых кружэлак. Адкрыццё «Cup of peace» пройдзе ўжо на наступным тыдні. Тут можна будзе выпіць кавы і з'есці пірожнае пад музыку «Бітлз».

**Дзмітрый Новікаў**
**«Сильные новости»**

# Прэмія імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў

**Абвешчаны конкурс на атрыманне прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў за кнігі ў галіне непрыдуманай літаратуры (non-fiction), надрукаваныя ў Беларусі на беларускай мове з 2011 па 2014 год.**

У сучаснай Беларусі існуе патрэба падтрымкі і развіцця непрыдуманай літаратуры, яе аўтараў і выдавецкага працэсу. Для гэтага заснавацца Прэмія імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў.

У 2011 годзе ў выдавецтве «Лімарыус» была запачаткаваная кніжная серыя «Беларуская мемуарная бібліятэка», галоўная ідэя якой — публікацыя ўспамінаў беларусаў і пра Беларусь, што з'яўляюцца адным з жанраў непрыдуманай літаратуры. Першай кнігай, якая пабачыла свет у гэтай серыі, сталі «Успаміны пасла» эмігранта Аляксандра Стагановіча (1890–1988). У хуткім часе была апублікаваная і кніга ягонай жонкі Марыі Стагановіч (1898–1995) «Мае ўспаміны».

У 2015 годзе спаўняецца 125 гадоў ад нараджэння Аляксандра Стагановіча і 20 гадоў ад смерці Марыі. Іх дачка, вядомая мастачка, што жыве ў Нью-Ёрку, Тамара Стагановіч-Кольба, жадаючы ўшанаваць памяць пра бацькоў і падтрымаць непрыдуманую літаратуру, вырашыла заснаваць прэмію.

Партнёрамі ў арганізацыі конкурсу выступаюць: Беларускі інстытут навукі і мастацтва, ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», выдавецтва «Лімарыус».

На прэмію могуць быць вылучаны кнігі, напісаныя ў галіне непрыдуманай літаратуры па наступных жанраў:

Мемуары, успаміны, дзённікі, эпісталярная спадчына (не толькі ўласныя, але і публікацыі чужых). Біяграфіі. Травелогі (падарожныя нататкі). Дакументальная проза.

Трох пераможцаў конкурсу вызначыць кампетэнтнае журы:

Старшыня секцыі непрыдуманай літаратуры ў СБП, сябра Управы ЗБС «Бацькаўшчына», галоўны рэдактар альманаха «Запісы БІНіМ», кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка.

Сябра Управы ЗБС «Бацькаўшчына», загадчык аддзелу старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі РБ Валер Герасімаў.

Сябра СБП, кандыдат філалагічных навук Віктар Жыбуль.

Дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка

Літаратуразнаўца, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, старшы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАНБ, кандыдат філалагічных навук Ганна Кісліцына

Літаратуразнаўца, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра, супрацоўнік рэдакцыі часопіса «Маладосць» Ціхан Чарнякевіч

Дырэктар выдавецтва «Лімарыус» Марына Шыбко.

Прэмія будзе падзелена паміж трыма пераможцамі, кожны з якіх атрымае таксама дыплом і памятны медаль.

Правам намінавання на прэмію імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў валодаюць як аўтары ці выдаўцы, так і члены журы конкурсу.

Пры вылучэнні кнігі на прэмію трэба да 19 студзеня 2015 г. перадаць у аргкамітэт папяровы і/ці электронны варыянт тэксту. Папяровыя выданні трэба прадстаўляць у Саюз беларускіх пісьменнікаў па адрасе: 220012, Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31–906. Электронныя версіі выданняў можна дасылаць на адрас: sbp@lit-bel.org. Пры перадачы ці дасылцы кніг на прэмію трэба рабіць адмысловую пазнаку «Прэмія А. і М. Стагановічаў».

Тэлефон для даведак: 8 (017) 200-80-91.

Імёны пераможцаў будуць абвешчаныя ў красавіку 2015 года.

**Аргкамітэт**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Ліц. ЛП №02330/19 от 30.04.2004 №93. Замова № 1427

Падпісана да друку 24.10.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.